ОРДЫ ГЛАДЫЯТАРЫ

# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

№ 3 (20) — 2020

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

ТЭЛЕГРАМА КАЙЗЕРУ

ТРАШЧЫЧЫ. ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

ЯК МЕМЕЛЬ СТАЎ КЛАЙПЕДАЙ

ЛАСОСЬ БЕЛАРУСКІ

ПАГАЛОЎШЧЫНА

САРДЗІНІЯ



# ЛЕНІН І ЯГО РЭВАЛЮЦЫЯ

16+




№2 (03)
2020

КРУТАЯ НАСТОЛКА

КЛАСНЫ КОМІКС!

3

# АСЦЯРОЖНА: Дзеці!

6+

## Усё пра СМАРТФОНЫ

ПАХІМІЧЫМ!
ТРАВІМ МЕТАЛЫ

ЗНАЙДЗІ 20 АДРОЗНЕННЯЎ

Расследуюць дзеці:
ВЫКРАДАННЕ МАБІЛЬНІКАЎ

ПРЫГОЖЫ ПОСТАР

**найлепшы падарунак дзецям**

**пытайцеся ў кіёсках, на поштах, у гіпермаркетах і кнігарнях**

Наша Гісторыя
3/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Тацяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Эндзі Уоргал. Чырвоны Ленін. Museum of Modern Art, Нью-Ёрк.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.





**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001
у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 09.03.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 349.
Наклад 5005.

Часопіс надрукаваны ў ТАА «Навітэх», друкарня «Градыент»®.
Мінск, вул. Бабушкіна, 6А, 220024.
УНП 191415513. ЛД 02330/482 ад 21.02.2017.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў №2/194 от 23.02.2017.


## Ад рэдакцыі

Многія і дасягненні, і праблемы сучаснага беларускага грамадства маюць свае вытокі ў дзесяцігоддзях, праведзеных у складзе СССР ва ўмовах панавання адпаведнай ідэалогіі. Да Першай сусветнай вайны і рэвалюцыйных падзей 1917 года працэс беларускага нацыятварэння хоць і быў запушчаны ды дасягнуў пэўных поспехаў, але да завяршэння яму было яшчэ вельмі далёка. І знешнія чыннікі сур'ёзна ўплывалі на тое, якімі каляінамі гэты працэс ішоў далей.

А паколькі так склалася, што некалькім наступным пакаленням беларусаў давялося жыць пад уладай камуністаў, то менавіта тэорыя і практыка апошніх аказалі вырашальны ўплыў на наш нацыянальны лёс. Акурат жыхары Беларускай ССР напрыканцы існавання Савецкага Саюза былі найбольш блізкія да ідэалу «сацыялістычнай нацыі», якую Іосіф Сталін у канцы 1920-х у адной са сваіх праграмных прац супрацьпаставіў нацыям «буржуазным».

Але перад Сталіным быў яшчэ Ленін — чалавек, дзякуючы якому ўвогуле стала магчымае практычнае правядзенне на бяскрайніх тэрыторыях былой Расійскай імперыі камуністычнага сацыяльнага эксперыменту. Лёс судзіў так, што гэты чалавек памёр вельмі рана, неўзабаве пасля таго, як бальшавікі прыйшлі да ўлады і здолелі ў жорсткай і бязлітаснай барацьбе з унутранымі і знешнімі праціўнікамі гэтую ўладу ўтрымаць.

Многія гісторыкі задумваліся над пытаннем: ці магла гісторыя камунізму скласціся інакш, калі б Ленін пажыў даўжэй? Ці быў Ленін носьбітам нейкага лепшага, «правільнага» камунізму? Ці быў камунізм скрыўлены і перакручаны наступнікамі Леніна, ці, наадварот, усё, што далей адбылося ў СССР, Кітаі, іншых краінах «сацыялістычнага лагера», было лагічным наступствам ленінскіх ідэй?

Варта адзначыць, што спробы рэфармавання савецкай сістэмы, і нават многія праявы апазіцыйнасці ёй, ішлі першапачаткова пад лозунгамі «вяртання да ленінскіх прынцыпаў». І толькі самыя радыкальныя праціўнікі савецкай сістэмы тады меркавалі, што ленінскія прынцыпы былі далёка не бездакорныя, а тое, што адбывалася пасля, было хутчэй іх лагічным вынікам, чым супярэчнасцю. З цягам часу кола людзей, якія падзялялі такую думку, пашыралася.

Рэшткі колішняга культу Леніна, які ў СССР быў усёахопным, мы бачым і сёння на вуліцах ды плошчах нашых гарадоў. Хоць самога культу ўжо даўно няма. Беларусы, што нарадзіліся і выгадаваліся ў незалежнай краіне, ужо мала што ведаюць пра чалавека, імя якога суправаджала калі не ўсё, то ладную частку жыцця іх бацькоў і дзядоў. У школьным курсе Леніна цяпер узгадваюць мінімальна, а з рэвалюцый не робяць культу.

Між тым гэта важная частка гісторыі, якую пара пераасэнсаваць. Таму тэмай гэтага нумара стала 150-годдзе з дня нараджэння Леніна. Пра яго ў гэтым нумары «Нашай гісторыі» вельмі цікава пішуць Андрэй Скурко і Анатоль Сідарэвіч (**старонкі 4–15**).


4



28


18


16




24








46
ARCTIC PRINCESS


64


60


38














92



**Васіль Шаранговіч. Ленін у Кастрычніку.** 1968 год. Колер — з карціны Уоргала «Чырвоны Ленін».

# Ленін і яго рэвалюцыя

**У чым феномен Леніна? Пішуць Анатоль Сідарэвіч і Андрэй Скурко.**

У шчодры на анекдоты савецкі час расказвалі і такі:

«Пецька пытаецца ў Чапаева: “Васілій Іванавіч, ты бутэльку гарэлкі можаш выпіць?” — “Лёгка!” — адказвае Чапай. — “А дзве?” — “І дзве магу”. — “А цэлую скрынку?” — “Ну...” — “А дзве скрынкі?” — “Не, Пецька, гэта толькі Ленін можа”».

Хто ў СССР не жыў, той з гэтага анекдота не смяецца. Моладзь цяпер мае туманнае ўяўленне пра тое, хто такі Ленін. Старэйшае ж і сярэдняе пакаленне «вечна жывы» Ільіч суправаджаў ад нараджэння: яго партрэты, яго афарызмы, яго чарніліцы з хлеба і таварыства чыстых талерак намёртва ўбітыя ў падкорку. Ленінскія цытаты мусілі быць у навуковых працах ва ўсіх галінах – ад астрафізікі да паразіталогіі. Ленін быў адной з самых папулярных тэмаў у мастацтве: мастакі-халтуршчыкі называлі яго «кармілец», а некаторыя маглі намаляваць з заплюшчанымі вачыма адным росчыркам — як Пікаса голуба.

І калі б Савецкі Саюз дацягнуў да 2020 года, дык 150-годдзе правадыра сусветнага пралетарыяту, якое мае быць 22 красавіка, даўно ўжо сядзела б у пячонках усяго прагрэсіўнага чалавецтва: фільмы пра яго па ўсіх каналах штовечар, сацабавязальніцтвы прадпрыемстваў...

Аб’ехаць фігуру Леніна, калі гаворыш пра гісторыю XX стагоддзя, немагчыма. Тым больш нам, беларусам. Невядома, ці была б сёння на карце свету дзяржава Беларусь, калі б у 1917-м да ўлады ў Расіі не прыйшлі бальшавікі.

Вядома, называць заслугай Леніна беларускую незалежнасць няма як — яна прадукт працы Каліноўскага, Багушэвіча, «айцоў» БНР і многіх іншых нашых нацыянальных герояў. Але Ленін і распачаты ім «пераварот Расіі» стварылі для беларусаў «акно магчымасцей».

## Ленін і распачаты ім «пераварот Расіі» стварылі для беларусаў «акно магчымасцей»

### Ці рускі Ленін

Гэтае пытанне пачало мусоліцца яшчэ пры жыцці Ільіча. Чарнасоценныя і белагвардзейскія публіцысты, ківаючы на яўрэйскую (а часам — на нямецкую) кроў, ставілі Леніна на чале жыдамасонскай змовы супраць Расіі. Але для саміх сацыялістаў пачатку XX стагоддзя пытанне этнічнага паходжання значыла мала. Ленін калі і ведаў, што аднаго з яго прадзедаў звалі Мойша Бланк, то не надаваў гэтаму значэння.

Затое хітры Сталін, прыйшоўшы да ўлады, пытанне паходжання Леніна загадаў засакрэціць. І тым самым падагрэў нездаровы ажыятаж. Купіраванне праўды давяло да таго, што паходжанне Леніна і яго хваробы, яго характар і яго жанчыны — усё нараджала міфы. Бо ў бязбожным СССР з Леніна зрабілі бога, з яго сям’і — святую сям’ю, з хаўруснікаў — апосталаў.

Гэтая мішура замінае бачыць рэальнага Леніна. Святым ён, вядома, не быў, але ці быў і дэманам, якога з яго часам лепяць?

### Неспакойны Мошка Бланк

**З боку маці продкамі Леніна былі яўрэі, шведы і немцы.**

Гандляр алкаголем Мошка (Мойша) Бланк у родным украінскім мястэчку Старакантанцінаў быў вядомы неспакойным характарам. Торы ён не трымаўся і сваіх сыноў, Абеля ды Ізраіля, аддаў не ў хедар, а ў расейскую школу. А пасля ўвогуле адправіў вучыцца ў Медыка-хірургічную акадэмію. Каб вучыцца ў гэтай установе, Абель з Ізраілем ахрысціліся і сталі Дзмітрыем і Аляксандрам.

Аляксандр Бланк атрымаў кваліфікацыю медыка-хірурга і акушэра ды ажаніўся з Ганнай Іванаўнай Гросшапф, дачкою чыноўніка-немца Ёгана Готліба (Івана Фёдаравіча) Гросшапфа і шведкі Ганны Беаты (Ганны Карлаўны) Эстэд. Доктар Бланк даслужыўся да чыну надворнага саветніка (падпалкоўніка), што давала права на патомнае дваранства. З часам ён стаў уладальнікам маёнтка Какушкіна непадалёк ад Казані.

### Паваротная кніга

Яго продкі зрабілі неймаверную кар’еру. Прадзед Леніна па бацьку Сцяпан Ульянінаў быў прыгонным, а бацька выслужыў на ніве народнай асветы асабістае дваранства і чын, які адпавядаў генеральскаму. Так што сацыяльныя ліфты былі магчымыя і ў паўфеадальнай Расіі. Ленін раз назваў сябе «памешчыцкім дзіцём», згадаўшы сямейны маёнтак Какушкіна, дзе ён правёў нямала шчаслівых дзён у дзяцінстве і адбыў першую ссылку.

У тым Какушкіне былі зборы твораў дэмакратычных пісьменнікаў Мікалая ►

Дабралюбава і Мікалая Чарнышэўскага. Раман апошняга «Што рабіць?» стаў для Леніна паваротнай кнігай. Ён нават у дэталях усё жыццё «ляпіў сябе» з яе персанажа, студэнта Рахметава: вучыўся рацыянальна выкарыстоўваць час, не марнаваць на пустое, сачыць за здароўем, бо яно — «казённая маёмасць» і належыць рэвалюцыі.

## Ульянін — Ульянінаў — Ульянаў

**Дзедам Леніна па бацьку быў сын прыгонных сялян, астраханскі кравец і мешчанін Мікалай Васільевіч…**
Не, не Ульянаў, а Ульянін, бо такое прозвішча мелі ягоныя бацька і дзед. Праўда, Мікалай Васільевіч чамусьці стаў пісацца Ульянінавым, а ўжо сын яго, Ілья Мікалаевіч, быў запісаны як Ульянаў.
Мікалай Васільевіч Ульянін-Ульянінаў ажаніўся з Ганнай Аляксееўнай Смірновай, дачкой астраханскага мяшчанскага старасты, які паходзіў з абруселых калмыкаў. Іх сыну Ілы, які рана застаўся без бацькі, удалося з дапамогаю брата скончыць Казанскі ўніверсітэт і даслужыцца да рангу правадзейнага стацкага саветніка, што адпавядала чыну генерал-маёра і давала права на патомнае дваранства.

## Брат

Няма звестак, што да паўналецця Валодзя Ульянаў неяк цікавіўся грамадскім жыццём. Ён быў круглы выдатнік, хадзячая энцыклапедыя, аднак надта прыемным і адкрытым не быў — аднакласнікі яго хутчэй цанілі, чым любілі.

**У Валодзі Ульянава былі ў сям'і аб'ект пакланення (брат Аляксандр) і сяброўка (малодшая сястра Вольга). А Маняшу і Дзмітрыя ён цаніў невысока**

Часта даводзіцца чуць, што паваротнай падзеяй, пасля якой малады Ленін зрабіўся рэвалюцыянерам, стала смяротная кара ў 1887 годзе яго старэйшага брата Аляксандра. Разумнік, студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта, аўтар цікавых прац па біялогіі — родныя не ўяўлялі сабе, што адначасова з гэтым ён робіць бомбы, каб узарваць цара.

Калі Сашу павесілі, расказваў Ленін, ад іх сям'і адвярнулася ўся сімбірская ліберальная публіка. Некаторыя былыя прыяцелі нават пераходзілі на іншы бок вуліцы, каб не вітацца.

## Пункт невяртання

Сістэма дала малодшаму брату «дзяржаўнага злачынца» шанец. Ён скончыў гімназію на выдатна і быў залічаны на юрфак Казанскага ўніверсітэта. Пры Сталіне такіх не тое што ў ВНУ не бралі — адпраўлялі мужчын на расстрэл, а жанчын — у канцлагер на 25 гадоў

Дырэктарам сімбірскай гімназіі, дарэчы, быў Фёдар Керанскі — бацька Аляксандра Керанскага, кіраўніка дэмакратычнай Расіі ў ліпені – кастрычніку 1917-га. У Леніна Керанскі-старэйшы выкладаў славеснасць і логіку, вельмі хваліў яго сачыненні, аднак па логіцы паставіў у атэстат адзіную «чацвёрку». З Керанскім-малодшым Ленін таксама быў знаёмы з дзяцінства: калі малы


WIKIMEDIA COMMONS

**Родны дом Леніна ў Сімбірску** (цяпер — Ульянаўск).

### Аднаму брату пакланяўся, другога лічыў дурнем

**Як часта бывае ў вялікай сям'і, адны дзеці сябруюць міжсобку больш, другія — менш.** У Валодзі Ульянава былі ў сям'і аб'ект пакланення (Аляксандр) і сяброўка (малодшая Вольга).
Страціўшы брата-рэвалюцыянера, а потым і Вольгу, памерлую ў 19 гадоў ад тыфу, Уладзімір зблізіўся з сястрой Ганнай. Што тычыцца брата Дзмітрыя і сястры Марыі («Маняшы»), то на іх правадыр бальшавікоў глядзеў звысоку. Даведаўшыся, што доктара Дзмітрыя Ульянава ў 1919 годзе прызначылі народным камісарам аховы здароўя ў Крыме, ён выказаў абурэнне: «Гэтыя ідыёты, відаць, хацелі дагадзіць мне і прызначылі Міцю. Яны не заўважылі, што, хоць мы з ім носім адно і тое ж прозвішча, ён проста звычайны дурань, якому самы час толькі пячатныя пернікі жаваць».

Аляксандр хварэў, Валодзя прыходзіў ды чытаў яму кнігі.

Цікава, што іх земляком быў і Аляксандр Пратапопаў — апошні міністр унутраных спраў Расійскай імперыі, які не даў рады Лютаўскай рэвалюцыі.

Класічная гімназія, дзе штудзіравалі лаціну і грэчаскую, логіку і славеснасць, дала Ульянаву — чалавеку з унікальнай памяццю — выдатную базу. Сотні выразаў ды лагічных канструкцый усплывалі ў яго галаве падчас напісання ўласных прац. Самыя яскравыя яго лозунгі нагадваюць лацінскія афарызмы.

Ва ўніверсітэце 17-гадовы Ульянаў прабыў усяго тры месяцы: ён быў наймалодшым з пары дзясяткаў студэнтаў, якіх выключылі за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. Ён мог і не браць у іх удзелу, але зрабіў свой выбар.




**Валодзя Ульянаў — малады рэвалюцыянер.** 1891 год.

Хоць жыццё і пасля падкідала Леніну шанцы збочыць з рэвалюцыйнага шляху. У канцы 1880-х яго маці набыла маёнтак Алакаеўка, дзе будучы правадыр сусветнага пралетарыяту паспрабаваў зрабіцца «вясковым капіталістам». Скончылася тым, што сяляне скралі ў іх каня і карову, а Ленін падаў на іх у суд за патраву палеткаў — і выйграў.

Другой спробай сысці ад лёсу была адвакацкая практыка. Здолеўшы з надыходам больш ліберальных часоў экстэрнам атрымаць дыплом юрыста, Ленін кароткі час працаваў памочнікам адваката ў Самары, куды Ульянавы пераехалі, прадаўшы Алакаеўку. З двух дзясяткаў дробных спраў ён выйграў адну — аб крадзяжы бялізны на суму ў 10 капеек. Яго падабаронны быў апраўданы, а падзельнік, якога бараніў іншы адвакат, — не.

### «Стары»

На момант пераезду ў Пецярбург, дзе для яго адкрывалася адвакацкая вакансія, Ленін ужо быў ідэйным марксістам. Падпольная дзейнасць захапляла яго нашмат больш, чым праца ў судзе. Ленін у 20 з нечым гадоў, з-за ранняй лысіны і зморшчын, выглядаў нашмат старэйшым. Адна з яго мянушак была Стары — «Старыкамі» назвалі і яго гурток, які тлумачыў рабочым асновы марксізму. Тагачасныя рабочыя цягнуліся да ведаў, хацелі разумець законы эканомікі.

## Ленін быў геніем канспірацыі

Дзейнасць была нелегальная, і Ленін робіцца геніем канспірацыі: пераапрананні, змена выгляду, вывучэнне пецярбургскіх закануркаў і прахадных двароў — Ільічу гэта падабалася, у яго быў тэатральны талент.

Іх марксісцкі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа» ▸

### Як звалі Леніна?

Дзіўнае пытанне, здавалася б. Тым часам Леніна звалі Мікалай Ягоравіч — так значылася ў пашпарце, які Уладзіміру Ульянаву ўдалося здабыць, калі ён пасля ссылкі сабраўся выехаць за мяжу. Пашпарт раней належаў рэальнай асобе — памешчыку Мікалаю Леніну, які на той момант ужо не жыў. Пад псеўданімам Н. Ленін Ульянаў публікаваўся. А пасля прыходу да ўлады ён зноў стаў Уладзімірам Ільічом, але псеўданім Ленін пакінуў. Усяго за час падпольнай дзейнасці ў Леніна назбіралася больш за 150 псеўданімаў.

▶ ў Пецярбургу выдаў адзін з яго сяброў, зубны доктар Міхайлаў. Арганізацыю разграмілі, для Леніна гэта скончылася турмой і трохгадовай ссылкай у сібірскае сяло Шушанскае. Там Ленін упарадкаваў і сваё сямейнае жыццё: мусіў абвянчацца з грамадзянскай жонкай і калегай па марксісцкай дзейнасці Надзеяй Крупскай — інакш іх выслалі б у розныя месцы.

У часы «развянчання культу» Леніна не раз пісалася, што іх шлюб з Крупскай быў чыстай фармальнасцю, што яна была яго сакратаркай і г. д. Але на самай справе «Ільічы», як іх звалі сябры, былі звычайнай сям'ёй. Ленін і Крупская не жылі б так доўга разам, калі б не былі духоўна блізкімі: норавы ў марксісцкім асяроддзі былі далёкія ад абывацельскіх нормаў. Хоць і захапленне Леніна Інэсай Арманд, з якой ён пазнаёміўся ў 1908-м, не легенда: «тысячы пацалункаў», якія фігуруюць у іх перапісцы, выходзяць за межы чыста працоўных адносін.

### Прагматык

Ленінская высылка мала нагадвала вольнае пасяленне ў сталінскія часы, калі даводзілася ў літаральным сэнсе фізічна выжываць, ды яшчэ пад пастаяннай пагрозай новага арышту. Грошай, якія выдаткоўваў ссыльным царскі рэжым, хапала на стол і дом, з Леніным жылі жонка, цешча і прыслуга, ён меў стрэльбу і сабаку, хадзіў на паляванне і, канечне ж, многа пісаў.



**Жонка (справа) і цешча Леніна** паехалі за ім у высылку ў Шушанскае (Сібір).

WIKIMEDIA COMMONS

## У царскай ссылцы з Леніным жылі жонка, цешча і прыслуга, ён меў стрэльбу і сабаку

І ўсё ж Ленін зрабіў выснову, што шушанскі досвед лепш не паўтараць. Адарваўшыся ад інфармацыйнай плыні, ад аднадумцаў, можна было хутка страціць уплыў і асабіста дэградаваць. Надалей прагматычны Ільіч заўжды, калі было можна, абіраў эміграцыю перад гераічнай пасадкай у турму.

Свядома на небяспеку ён ніколі не нарываўся. У гады Першай рускай рэвалюцыі, прыехаўшы ў Расію толькі ў лістападзе 1905-га, ён не быў героем рэвалюцыйных падзей. Большую частку свайго знаходжання на тэрыторыі Расійскай імперыі Ленін правёў у Фінляндыі ў даволі камфортных умовах. Ды і ўлетку 1917 года, калі яго абвінавацілі ў працы на нямецкі генштаб, Ленін не стаў рызыкаваць, як Троцкі, і не пайшоў за краты ў якасці падследнага. Яго жыццё на нелегальным становішчы было не вельмі прыемным, але нельга сказаць, што ён адчуваў у нечым нястачу. А ў кастрычніку 1917-га Ленін з'явіўся ў Смольным інстытуце, які займалі бальшавікі, толькі тады, калі яго свабодзе і жыццю ўжо нічога не пагражала.

Прагматызм быў адной з галоўных рысаў яго натуры і палітычнага стылю. Раскалоць партыю, абліць брудам учорашніх настаўнікаў — так, калі гэтага патрабуе справа. Ухваляць «эксы» (папросту рабаванні) і рэкет —

### Жыў палітыкай

**Ленін жыў палітыкай 24 гадзіны на суткі.** Таму і стаў прафесійным рэвалюцыянерам. І дасягнуў поспеху: узначаліў Расію.
Жыць палітыкай Леніну дазваляла і тое, што ён з Надзеяй Крупскай не меў дзяцей. Хто ведае, як склаўся б лёс і самога Леніна, і Расіі, калі б у іх былі дзеці.

так, калі няма іншых крыніц фінансавання. Спланаваць аперацыю «Жаніхі», мэтай якой было ажаніць па разліку аднаго з хаўруснікаў ды завалодаць мільённай спадчынай — так. Узяць грошы ў краіны, якая ваюе з тваёй краінай, — так. Усё гэта давала сродкі для існавання партыі і для кантролю Леніна над гэтай партыяй.

Сімвалічныя жэсты для Леніна не значылі нічога. Аддаць немцам Петраград, аддаць белым поўдзень Расіі ды адступіць на Урал — так, калі гэта дапаможа захаваць савецкую дзяржаву. Да ўсяго гэтага не дайшло, але ў 1921-м Ленін аддаў Пілсудскаму палову Беларусі і Украіны, абы толькі спыніць вайну з Польшчай. І не выбіраў сродкаў падчас грамадзянскай вайны, не спыняючыся перад масавымі расстрэламі.

### Сістэмнасць, арганізаванасць, магнетызм

Калегі адзначалі ў Леніне адсутнасць «абломаўшчыны», «велікарускай расхлябанасці».


WIKIMEDIA COMMONS

У 1917 годзе Ленін хаваўся ў Разліве пад Сестрарэцкам і **выдаваў сябе за фінскага селяніна.**

### Інструментальны падыход і маральная непераборлівасць

**Ленін не верыў у агульначалавечыя каштоўнасці і лічыў мараль пустой справай, калі яна ігнаруе барацьбу класаў.** І з гэтага гледзішча (карысны чалавек для справы ці не карысны) ён ставіўся да паплечнікаў. Адной з прычын яго разрыву з бацькам расійскай сацыял-дэмакратыі Георгіем Пляханавым было тое, што Ленін патрабаваў выдаліць з рэдакцыі газеты «Искра» тых, хто мала пiша. А Пляханаў не мог вось так кінуць старых таварышаў.

Ён разглядаў сябе як механізм, які не мусіць даваць збояў, — штодня рабіў гімнастыку і сілавыя практыкаванні, каб трымаць арганізм у форме. Ён любіў камфорт і прызнаваўся, што ніколі б не жыў у камуне, дзе няма ўмоваў для працы. Умеў Ленін і адпачываць — ён, напрыклад, любіў добрае піва і быў віртуозным веласіпедыстам. Яшчэ Ленін няблага іграў на гітары і любіў спяваць у кампаніі — і пры гэтым бязбожна фальшывіў.

Быў уласцівы Леніну і вялікі магнетызм. «Ніхто, як ён, не ўмеў так заражаць сваімі планамі, так імпанаваць сваёй воляй, так падпарадкоўваць сваёй асобе, як гэты на першы погляд такі непрыглядны і грубаваты чалавек, які не мае ніякіх дадзеных, каб быць абаяльным. Ні Пляханаў, ні Мартаў, ніхто іншы не валодаў сакрэтам выпраменьванага Леніным проста-такі гіпнатычнага ўздзеяння на людзей, я б сказаў, панавання над імі. Пляханава — шанавалі, Мартава — любілі. Але толькі за Леніным ішлі, як за адзіным, бясспрэчным правадыром», — прызнаваўся адзін з хаўруснікаў Аляксандр Патрэсаў.

**У Леніне спалучаліся жорсткі прагматызм, інтэлектуальная база і фантастычная працаздольнасць**

### Мара аказалася монстрам

Спалучэнне жорсткага прагматызму, інтэлектуальнай базы і працаздольнасці стварыла феномен Леніна. У ім унікальна спалучаліся аналітычныя здольнасці, філасофскі розум і талент арганізатара. І ён меў сапраўды добрыя намеры — пабудаваць больш справядлівае грамадства, з лепшымі шанцамі для людзей, незалежна ад іх паходжання, нацыянальнасці і матэрыяльнага статусу.

Палітычная кар'ера Леніна склалася. Яму ўдалося прыйсці да ўлады, вялікай крывёю ўтрымаць яе. Але літаральна праз пару гадоў, пад канец свайго жыцця, ён вымушаны быў прызнаць, што яго погляд на сацыялізм быў памылковы, што яго партыя стварыла ў Расіі дзяржаўны капіталізм. Нешта паправіць ён ужо не мог, хоць і хацеў. Створаная яго партыяй сістэма народзіць сталінізм, мааізм, хаджаізм, палпотаўшчыну — мільёны ахвяраў і дэградацыю чалавечай годнасці. І гэтая сістэма акажацца фатальна неэфектыўнай у эканоміцы. «Што будзе, калі камунізм пераможа ў Сахары? — пыталіся ў Армянскага радыё ў іншым савецкім анекдоце. — Узнікне дэфіцыт пяску!»

Камунізм ленінскай мары аказаўся ўтопіяй, за якую ▸

▶ народы — і яго партыя таксама — заплацілі страшную цану.

**Камунізм ленінскай мары аказаўся ўтопіяй, за якую народы — і яго партыя таксама — заплацілі страшную цану**

## Рэвалюцыя як імпульс для эвалюцыі

У той жа час, баючыся «чырвонай пагрозы», Захад усё XX стагоддзе змяняўся і адыходзіў усё далей ад «дзікага капіталізму» часоў Маркса. Ці была б такая эвалюцыя настолькі хуткай, калі б не існаванне савецкай пагрозы? Менавіта на Захадзе, а не ў паўфеадальнай Расіі цягам XX стагоддзя адбылася сапраўдная сацыялістычная эвалюцыя. І ці не дзякуючы Леніну, які сваёй рэвалюцыяй так напужаў капіталістычны свет, што той мусіў мяняцца? ◆



Ленін у 1923 годзе, ужо смяротна хворы і практычна недзеяздольны.

WIKIMEDIA COMMONS

## Загадкі здароўя Леніна

З 25 кастрычніка 1917 года стыль і рытм жыцця Леніна кардынальна памяняўся. Раней ён жыў жыццём вольнага мастака: час працы і адпачынку амаль цалкам залежалі ад яго настрою. Цяпер жа яму даводзілася працаваць з ранку і да ночы. У студзені 1918-га разгон Устаноўчага сходу даў старт грамадзянскай вайне, якая патрабавала каласальнага напружання сіл.
Калі быў разагнаны Устаноўчы сход, у Леніна здарыўся востры прыступ істэрыкі: ён доўга і бесперапынна смяяўся. «У тую ноч, — прызнаваўся Мікалай Бухарын, — мы баяліся, што страцім яго». Другі прыступ істэрыкі здарыўся ў ліпені 1918-га — пасля так званага мяцяжу левых эсэраў.
Вядомы бальшавік і доктар Аляксандр Багданаў убачыў у паводзінах Леніна адзнакі ненармальнасці.
У Леніна назіраліся перапады настрою: засяроджаны, педантычны, стрыманы, ён мог упасці ў раж і, палемізуючы з апанентамі, крычаць, жэстыкуляваць, а потым наступала дэпрэсія. Псіхіятры называюць гэта цыклафеліяй, або біпалярным афектыўным расстройствам. Пры гэтай хваробе, кажуць медыкі, трэба чакаць паражэння сасудаў галаўнога мозгу.
Стрэсы рэвалюцыі і вайны хутка далі пра сябе знаць: ужо ў 1921 годзе ў стане здароўя Леніна наступіў перелом.
Існуюць тры версіі прычыны яго смерці. Першая — прагрэсіўны паралюш, хвароба сіфілітычнага паходжання — аспрэчваецца, хоць паводзіны Леніна ў немалой меры адпавядаюць гэтаму дыягназу. Другая прычына смерці — атэрасклероз сасудаў галаўнога мозгу — пярэчанняў не выклікае. Лічыцца, што гэта спадчынная хвароба. Бацька Леніна памёр ад яе ў 54 гады, а сам Ленін — у пяцьдзясят тры. Аднак маці Леніна памерла ад такой хваробы ў 81 год. Нарэшце, некаторыя лічаць, што ў момант ранення Леніна 30 жніўня 1918 года была траўмавана сонная артэрыя і з часам стала так, што спыніўся прыток крыві ў мозг.

**Ленін трымае дзяўчынку.** Палатно Ільдара Ханава ў Храме ўсіх рэлігій у Казані (Татарстан).

SHUTTERSTOCK.COM BY DIEGO FIORE

# Марксізм заходні *і марксізм усходні*

## Ленін і яго рэвалюцыя насуперак Марксу

**Грамадства, як пісаў Карл Маркс, «не можа пераскочыць цераз натуральныя фазы развіцця», піша Анатоль Сідарэвіч.**

Калі, бывае, чуеш ад людзей з дыпломамі, што ў кастрычніку 1917-га да ўлады ў Расіі прыйшлі марксісты, адчуваеш няёмкасць, асабліва за тых, хто атрымаў гэтыя дыпломы ў СССР. Быццам гэта не яны вывучалі марксісцка-ленінскую філасофію, быццам не яны ішлі «пад сцягам марксізму-ленінізму, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі наперад, да поўнай перамогі камунізму» (лозунг, які вісеў бадай у кожным сельскім клубе над сцэнай).

### Першы том «Капіталу»

Лічыцца, што тэрмін «ленінізм» увёў Іосіф Сталін. Паводле яго, ленінізм — гэта марксізм эпохі імперыялізму і пралетарскай рэвалюцыі, творчае развіццё марксізму ў дастасаванні да новых умоў. Але з пункту гледжання артадаксальных марксістаў, ленінізм — гэта рэвізія марксізму і нават яго скажэнне.

Са з'яўленнем ленінізму адбыўся падзел марксізму на заходні і ўсходні. Ленін — заснавальнік усходняга марксізму. З ленінізму выраслі сталінізм, мааізм, хаджаізм і іншыя таталітарныя плыні. Ленінізм вырас з ранняга марксізму і з расійскага народніцтва. Праўда, у той час, калі жыў Ленін, не былі апублікаваныя эканамічна-філасофскія рукапісы Маркса (1844 года), якія зрабілі немалы ўплыў на станаўленне заходняга марксізму.

Вось цяпер, калі мы збольшага правялі адрозненне паміж ▶

ленінізмам і марксізмам (а грунтоўнае даследаваннне належыць расійскаму акадэміку Тэадору Айзерману), давайце задамо пытанне: няўжо Ленін не чытаў першы том Марксавага «Капіталу»? Быць таго не можа. Няўжо Ленін не звярнуў увагу на прадмову да першага нямецкага выдання «Капіталу», у якой чорным па белым напісана, што грамадства «не можа ні пераскочыць цераз натуральныя фазы развіцця, ні адмяніць апошнія дэкрэтамі»?

Такімі натуральнымі фазамі развіцця грамадства з'яўляюцца, паводле Маркса, першабытная, рабаўладальніцкая, феадальная і капіталістычная грамадска-эканамічныя фармацыі. А ў нетрах капіталістычнага ладу выспела вучэнне аб сацыялізме/камунізме (Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс так і не правялі пунктуальнае адрозненне паміж сацыялізмам і камунізмам, і з гэтага скарыстаюць усходнія марксісты).

Для Маркса і Энгельса відавочна было, што сацыялізм магчымы толькі ў перадавых краінах. І артадаксальны марксіст Георгій Пляханаў лічыў, што «сацыялістычны лад мае, прынамсі, дзве перадумовы:
1) высокую ступень развіцця прадукцыйных сіл (тэхнікі);
2) вельмі высокі ўзровень свядомасці ў працоўным насельніцтве краіны».

Пра які сацыялізм можна было гаварыць у Расіі — у краіне, дзе адначасна суіснавалі і капіталізм, і дакапіталістычныя формы грамадскага ладу, уключаючы першабытную, дзе амаль тры чвэрці насельніцтва не ўмелі чытаць і пісаць? Той жа Пляханаў, крытыкуючы ленінскі намер здзейсніць сацыялістычную рэвалюцыю, пісаў: «Расія церпіць не толькі таму, што ў ёй ёсць капіталізм, але таксама і таму, што ў ёй недастаткова развіты капіталістычны спосаб вытворчасці».

### Гульня ў мір і зямлю

Але, падобна, Леніна не бянтэжыла, што ён збіраецца пераскочыць цераз адну фазу развіцця грамадства — мінуючы капіталізм, адразу да сацыялізму. І гэтак упэўнена глядзеў наперад не ён адзін. Калі вестка пра падзенне царызму дайшла да Злучаных Штатаў Амерыкі, у Нью-Ёрку адбыўся такі дыялог:

— Прыйшла тэлеграма, што ў Петраградзе міністэрства Гучкова – Мілюкова. Што гэта значыць?

— Што заўтра будзе міністэрства Мілюкова – Керанскага.

— Вось як! А потым?

— А потым будзем мы.

На пытанні адказваў Леў Троцкі — чалавек, надзелены многімі талентамі і да таго ж асабістай мужнасцю. Менавіта гэты дуумвірат — Ленін і Троцкі — адыграе вырашальную ролю ў кастрычніку 1917-га.

**Ленін паабяцаў «неадкладнае аднаўленне поўнай свабоды для Фінляндыі, Украіны, Беларусі, для мусульманаў і г. д.»**



Расія ў момант рэвалюцыі заставалася адсталай, беднай краінай. На фота: **чырвонаармейцы ў лапцях**.

RIA.RU

Аднадумцы ведалі, на чым яны могуць сыграць. У Расіі было два вострыя і надзённыя пытанні: мір і зямля. Часовы ўрад быў няздольны вырашыць іх. А Ленін абяцаў і мір, і зямлю.

Па меры таго, як разгортваліся падзеі, абвастралася і нацыянальнае пытанне, і Ленін паабяцаў «неадкладнае аднаўленне *поўнай* свабоды для Фінляндыі, Украіны, Беларусі, для мусульманаў і г. д.». Ён шмат чаго абяцаў: роспуск арміі і замену яе ўсеагульным узбраеннем народа,

выбарнасць чыноўнікаў... Зрэшты, гэта былі даволі папулярныя ў той час пастулаты. Як і ўвядзенне рабочага кантролю.

### «Уся ўлада саветам!»

Асобна стаяла пытанне пра ўладу — галоўнае пытанне ўсякай палітычнай рэвалюцыі. Саветы рабочых, салдацкіх, сялянскіх і іншых дэпутатаў прыдумаў, дарэчы, не Ленін. Калі ў Цюрых да Леніна прыйшла вестка пра адрачэнне Мікалая II, Ленін адразу ж запатрабаваў правядзення дэмакратычных выбараў у Петраградскую гарадскую думу, але піцерскія рабочыя, сацыял-дэмакраты (меншавікі) і сацыялісты-рэвалюцыянеры ўспомнілі Пецярбургскі савет рабочых дэпутатаў 1905 года і пачалі выбары на заводах і фабрыках. Бальшавікі зарыентаваліся ў сітуацыі толькі пасля падказкі Леніна.

Драма Расіі была ў тым, што іншыя левыя партыі не разумелі ўсю небяспеку Леніна і бальшавізму для маладой дэмакратыі. Здаецца, толькі адзін Пляханаў адэкватна ацэньваў пагрозу, якая сыходзіла з бальшавіцкага стану, але Часовы ўрад не прыслухаўся да яго і не ўчыніў належныя захады напоўніцу. А тыя захады, што правыя сілы і войска на чале з генералам Лаўрам Карнілавым спрабавалі рабіць, толькі сыгралі на руку бальшавікам. Левыя ўбачылі ў гэтым пагрозу

**Карнілаўскі мяцеж**
спроба ўстанавіць вайсковую дыктатуру ў жніўні 1917-га. Керанскі і Карнілаў не здолелі паразумецца, таму мяцеж праваліўся. Затое ён прывёў да ўзбраення бальшавікоў — піцерскім рабочым дружынам раздалі 40 тысяч вінтовак.



КАЛАРЫЗАЦЫЯ ФОТА: PLANETZERO. КРЫНІЦА: FOTO-HISTORY.LIVEJOURNAL.COM

**Ленін выступае перад салдатамі, якія адпраўляюцца на польскі фронт.** 5 мая 1920 года. Гэтае фота нібыта стала пасля асновай для помніка Леніну ў Мінску перад Домам урада.

рэвалюцыі, і бальшавікі цяпер сталі для іх меншым злом. Пазіцыі бальшавікоў у саветах умацаваліся, а на чале Петраградскага савета стаў Троцкі. Лозунг «Уся ўлада саветам!», зняты пасля путчу 3–5 ліпеня, калі бальшавікі спрабавалі захапіць уладу, зноў быў на парадку дня.

### Не спыняцца на дэмакратыі

Леніна і Троцкага яднала тое, што з Марксавай працы «Класавая барацьба ў Францыі» (1850) яны блізка ўспрынялі тэзіс аб перманентнай рэвалюцыі. І калі Ленін са Швейцарыі пачаў бамбіць газету «Правда» сваімі «Письмами из далёка», яе рэдактары Іосіф Сталін і Вячаслаў Молатаў не маглі зразумець, што яму трэба. Царызм зрынуты, партыя легалізавалася, цяпер наступае этап дэмакратычнай рэспублікі, і патрабуецца працяглы час, каб Расія стала індустрыяльнай дзяржавай, каб рабочы клас склаў у ёй большасць і такім чынам былі створаныя перадумовы для пераходу да сацыялізму. Таму яны адныя лісты Леніна не публікавалі, а іншыя добра-такі рэдагавалі. У Сталіна і Молатава тады быў чыста сацыял-дэмакратычны, заходнемарксісцкі падыход да справы. Ленін жа (і Троцкі) лічылі, што рэвалюцыя не павінна спыніцца на буржуазна-дэмакратычным этапе, а неадкладна перарасці ў рэвалюцыю пралетарскую.

Вярнуўшыся ў Расію, Ленін змог давесці сваю рацыю большасці бальшавікоў і прыцягнуць на бок партыі мільёны жыхароў Расіі. І дзейнічалі не так лагічныя аргументы (адукаваныя марксісты ведалі, што Маркс пісаў у прадмове да «Капіталу» ў 1867 годзе — праз 17 год пасля «Класавай барацьбы ў Францыі»), як тое, што ў руках Леніна былі сродкі, дзякуючы якім ён мог утрымліваць пад сваім кантролем і «Правду», і іншыя партыйныя выданні. Ён мог звяртацца да партыйнай масы цераз галовы ▶

сяброў Цэнтральнага камітэта. Да таго ж, маючы ў сваім распараджэнні грошы, ён паставіў сяброў ЦК ды іншых партыйных функцыянераў на «довольствие».

### «Карысныя ідыёты»

Ленін добра засвоіў урокі рэвалюцыі 1905 года і зрабіў выснову: калі ты хочаш прыйсці да ўлады, то павінен дамагчыся, каб войска трымала нейтралітэт або перайшло на твой бок. Вось чаму ён у сваіх красавіцкіх тэзісах запісаў слова «братанне» расійскіх і нямецкіх жаўнераў. Быў узяты курс на разлажэнне арміі і флоту. А тут яшчэ дапамаглі дэмакраты, якія дамагліся скасавання ў Расіі смяротнай кары, у тым ліку і ў войску. Калі ў ліпені 1917-га войска яшчэ было на баку Часовага ўрада, то ў кастрычніку ад яго заставалася толькі назва.

Ленін і Троцкі ішлі на захоп улады і таму, што былі знаёмыя з яшчэ адным тэзісам Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса, якія сацыяльны прагрэс у Расіі звязвалі з мясцовай рэвалюцыяй, падтрыманай рэвалюцыяй у Заходняй Еўропе. Такім чынам, Ленін і Троцкі разлічвалі на дапамогу рабочага класа Еўропы, перш за ўсё нямецкага, які, у іх разуменні, не мог не выступіць супраць сваіх Гогенцолернаў.

### Красавіцкія тэзісы

прагрdebugрама дзеянняў расійскіх бальшавікоў пасля Лютаўскай рэвалюцыі, план барацьбы за перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў рэвалюцыю сацыялістычную шляхам захопу ўлады, прапанаваны Леніным пасля вяртання ў Петраград з эміграцыі ў красавіку 1917 года. Тэкст тэзісаў быў апублікаваны ў бальшавіцкай газеце «Правда» 7 (20) красавіка 1917 года.




**Злева направа: Сталін, Ленін і «ўсерасійскі стараста» Міхаіл Калінін**, 1919 год.

Рэвалюцыя ў Нямеччыне сапраўды адбылася праз год пасля бальшавіцкага перавароту, але нямецкія сацыял-дэмакраты ані не думалі пераймаць сацыяльна-палітычныя эксперыменты бальшавікоў. Па-першае, яны хацелі пабудаваць перш-наперш дэмакратычную рэспубліку. Па-другое, яны памяталі, што пісаў позні Энгельс. А ён пісаў, што дэмакратычная рэспубліка з'яўляецца своеасаблівай формай дыктатуры пралетарыяту. Энгельс нават супраць манархіі не выступаў катэгарычна. Ён хацеў толькі, каб дынастыя нічога не магла рабіць супраць народа і каб рэальная ўлада належала народным прадстаўнікам.

Усё гэта ды іншае ні Ленін, ні Троцкі прыняць не маглі. Сваёй палемікай з нямецкай сацыял-дэмакратыяй (перш-наперш з Карлам Каўцкім, якога Ленін абазваў рэнегатам) яны канчаткова правялі рысу паміж заходнім і ўсходнім марксізмам. Але гэта не азначае, што паміж бальшавікамі і сацыялістамі Захаду вырас непераадольны мур. Бальшавікі ўтрымаліся ва ўладзе і таму, што левыя на Захадзе выступалі супраць інтэрвенцыі сваіх урадаў у расійскія справы. Раз, казалі яны, большасць працоўных у Расіі падтрымала бальшавікоў, то ваяваць з бальшавікамі азначае ваяваць з рабочымі і сялянамі. А гэтага не дапускае сацыялістычная этыка. Сам Ленін, дарэчы, насмешліва называў такіх ідэалістаў «карыснымі ідыётамі», і гэтае ягонае акрэсленне стала крылатым.

### Утрыманне ўлады

Вядома, бальшавікі ўтрымалі сваю ўладу не толькі дзякуючы «карысным ідыётам» на Захадзе. Працоўныя Расіі, асабліва сяляне, баяліся, што Белая армія, вярнуўшы старыя парадкі, забярэ ў іх зямлю. І Ленін на гэтым добра спекуляваў. Праўда, ад прынцыпу ўсенароднага ўзбраення, як і ад выбарнасці чыноўнікаў, давялося адмовіцца. Ды і Чырвоная армія перамагла не толькі таму, што яе натхнялі словы палітычных камісараў. Для падняцця яе баявога духу Троцкі адрадзіў у Расіі рымскія дэцымацыі* і ўвёў

* Дэцымацыяй у арміі Старажытнага Рыма называлася пакаранне смерцю кожнага дзясятага салдата з падраздзялення за сур'ёзныя дысцыплінарныя парушэнні.

загараджальныя атрады. У час нямецка-савецкай вайны гэтае ноу-хау выкарыстае Сталін.

Утрымалі бальшавікі ўладу і таму, што і белыя, і апаненты бальшавікоў з левага лагера адштурхнулі ад сябе левааарыентаваную эліту нацыянальных меншасцяў, і бальшавікі даволі паспяхова выкарысталі гэта. Безумоўнай заслугай Леніна з'яўляецца стварэнне Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І хоць Сталін ды яго наступнікі ўсяк абмяжоўвалі аўтаномію рэспублік, стварэннем СССР, у якім іншыя рэспублікі былі хоць да пары і чыста фармальна, але роўныя з Расіяй, быў закладзены падмурак для будучых незалежных дзяржаў.

Безумоўна, важным сродкам утрымання ўлады быў тэрор, які можна параўнаць хіба толькі з апрычнінай Івана Жахлівага. Ленін не адмовіўся ад тэрору як сродку ўтрымання ўлады і кіравання і пасля заканчэння грамадзянскай вайны. Мала таго, менавіта пасля сканчэння вайны ён, як пісаў гісторык Абдурахман Аўтарханаў, увёў асаднае становішча ў самой бальшавіцкай партыі. Маецца на ўвазе рэзалюцыя X з'езда РКП(б) аб адзінстве партыі (1921 год). У партыі былі забароненыя фракцыі і групоўкі. Практычна стала немагчымаю ўнутрыпартыйная дыскусія, бо двух і больш сяброў партыі, якія адважваліся выказваць погляд, адрозны ад думкі большасці і асабліва кіраўніцтва, лёгка маглі абвінаваціць калі не ў фракцыйнасці, дык у групаўшчыне.

## Не-сацыялізм

Такім чынам, Ленін заклаў асновы таго, што пазней назвалі сталінізмам. З'яўленню сталінізму спрыяла і яго кадравая палітыка. Не жадаючы празмернага ўмацавання пазіцый Троцкага, ён на ключавыя пасады расставіў яго апанентаў. І калі пад канец жыцця Ленін прапаноўваў з'езду партыі падумаць аб перамяшчэнні Сталіна з пасады генеральнага сакратара партыі, было ўжо позна.

Можна канстатаваць, што Ленін не ведаў Расію так, як яго левыя апаненты. І ў сваіх апошніх працах ён пісаў, што бальшавікі вымушаны карэнна памяняць пункт гледжання на сацыялізм. Пішучы, што сацыялізм — гэта лад цывілізаваных кааператараў, прызнаваў, што якраз цывілізацыі Расіі бракуе. Ён мусіў прызнаць таксама, што лад, створаны бальшавікамі, не што іншае, як дзяржаўны капіталізм.

Ён спадзяваўся, што «цывілізаванню» Расіі, пераходу ад дзяржаўнага капіталізму да сацыялізму паслужыць новая эканамічная палітыка (НЭП), асноўныя контуры якой выпрацавалі меншавікі і якую Ленін прыняў толькі пасля таго, як у мэтазгоднасці такой палітыкі яго пераканалі Троцкі і масавыя ўзброеныя выступленні сялян. Аднак ягонаму спадзяванню, што з Расіі нэпаўскай вырасце Расія сацыялістычная, не наканавана было здзейсніцца. Сталінскае крыло партыі мяняць погляд не сацыялізм не пажадала. Расія (СССР) так і заставалася краінай з дзяржаўным капіталізмам, з новым класавым падзелам і нават з элементамі феадальнага (калгасы да 1966-га) ладу. Яна, нягледзячы на індустрыялізацыю, ліквідацыю непісьменнасці і пэўныя дасягненні ў навукова-тэхнічнай галіне, па-ранейшаму заставалася краінай, якая не стварала цывілізацыю, а толькі даганяла яе.

Можна ўпэўнена казаць, што ленінізм пацярпеў крах. ◆



**Ленін і ўзрослы на дражджах Грамадзянскай вайны военачальнік з народа Клімент Варашылаў (за Леніным справа) сярод дэлегатаў X з'езда Расійскай кампартыі.**

# «Гродна ніколі не мела гарадскіх муроў»

У сёлетнім №1 «Нашай гісторыі» надрукаваны матэрыял Андрэя Вашкевіча «Падарожжа гродзенскай Верхняй царквы». Хачу выказаць пэўныя заўвагі да зместу матэрыялу.

Па-першае, на ілюстрацыі на старонцы 80 ёсць подпіс «Верхняя царква — адзіны будынак пад чырвоным дахам за гарадской сцяной». Заўвага: Гродна ніколі не мела гарадскіх муроў (сцен), а Верхняя царква знаходзіцца на тэрыторыі Старога замка, гэта значыць за замкавымі, а не за гарадскімі мурамі.

Па-другое, у публікацыі сустракаецца тэрмін «старажытнаруская плінфа», які да гісторыі беларускай плінфы дачынення мець не можа і, хутчэй за ўсё, уведзены самім аўтарам матэрыялу. Гэты тэрмін не сустракаецца нават у сучасных расійскіх даследаваннях. Хаця тэрмін «старажытнаруская архітэктура» з'яўляецца яшчэ ў часы Расійскай імперыі, але нават тады такога тэрміна, як «старажытнаруская плінфа», не было.

Па-трэцяе, «сістэма кладкі» — калька з рускай мовы. Яшчэ археолаг Міхась Ткачоў увёў тэрмін «муроўка», і з 1980-х гадоў гэты тэрмін увайшоў ва ўсе галіновыя энцыклапедыі і слоўнікі. У беларускай мове «кладка» — гэта драўляны масток цераз ручай ці маленькую рэчку.

І, нарэшце, на старонцы 81 змешчаныя тры «розныя гіпатэтычныя варыянты выгляду Верхняй царквы, прапанаваныя даваеннымі польскімі спецыялістамі».

Першы варыянт — гэта малюнак памочніка польскага археолага Здзіслава Дурчэўскага архітэктара Андрыёнчыка, зроблены ў 1938 годзе.

Аўтара другой рэканструкцыі я не ведаю, але маю сумневы адносна таго, што гэта «даваенны польскі спецыяліст».

А вось аўтар трэцяй рэканструкцыі я, Алег Трусаў, а малявалі Фёдар Селязнёў і Рыгор Сташкевіч. Упершыню гэты малюнак надрукаваны ў маёй манаграфіі «Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв.: Архитектурно-археологический анализ. – Минск: Наука и техника, 1988». Потым малюнак не раз перадрукоўваўся ў розных варыянтах, але першакрыніца была заўсёды пазначана.

**Алег Трусаў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, дактарант Інстытута гісторыі НАН Беларусі**




«Цікавая гісторыя і ватрушкі выдатныя! Дзякуй Ірыне Рубан за гісторыю і рэцэпт, а Наталлі Радвіловіч за смачны дэсерт!»

**Дзяніс Радвіловіч, Турэц-Баяры (Маладзечанскі раён)**

# Ці быў манастыр каля Альхоўкі?

Паважаная рэдакцыя! У мяне да вас просьба — знайсці адказ на пытанне, што за манастыр і царква знаходзіліся на левым беразе ракі Нёман каля вёскі Альхоўка колішняга Ацмінаўскага (з 2017 года Уселюбскага) сельсавета Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці.

Само цэрквішча ў навуковых колах вядомае. Здаецца, у 1720 годзе царква згарэла. Але мяне здзівіла, чаму нічога нідзе не сказана пра манастыр.

Справа ў тым, што жыхары вёскі хадзілі ў лес у грыбы ва ўрочышчы, якія называліся Цэрквішча і Манастыр, а купацца ў Луку (так называюць частку Нёмана). Дырэктар Альхоўскай школы больш за 60 гадоў таму тлумачыў, што цэрквы будаваліся каля манастыроў, таму яны побач.

У першай палове 1950-х гадоў Нёман змываў да дзесяці гектараў берагавой лініі, уключаючы Манастыр і Цэрквішча, пагражаючы знесці хутар мясцовай сям'і Кучынскіх. Гэта было да той пары, пакуль падрыўнікі не дапамаглі прабіць новае рэчышча, паколькі дамбы, якія будавалі на левым беразе, намагаючы суцішыць судаходны Нёман, не дапамагалі.

Нёманам вымываліся нейкія магілы. Сусед Сцяпан Кузьма казаў, што, мяркуючы па даўжыні костак ног, там былі пахаваныя высокія людзі, але здзіўляла яго іншае: труны былі з чатырох дошак. Пазней я даведаўся, што так у тыя часы хавалі людзей знатнага роду ці высокага духоўнага звання. І яшчэ памятаецца, што галька на дне Нёмана выглядала як дробнае вапняковае будаўнічае смецце.

Недалёка ад хутара Кучынскіх ёсць частка рукатворнага рова, магчыма,

гэта мяжа манастыра. Паблізу ад гэтага месца ў Нёман упадаюць рэкі Гаўя і Дзетамлянка. Праўда, у 50-я гады жыхары Альхоўкі змянілі рэчышча Дзетамлянкі з паўночнага на заходні кірунак. Пасля таго рака сышла ўглыб на 2–3 метры, а старыца засыпалася пяском. Там, дзе было мора аеру, вольхі, елкі, цяпер пясок і сосны, чаму дзівіліся былыя партызаны, якія сюды прыязджалі. А вольха засталася толькі ў назве вёскі.

**В. А. Гетка**

**Ад Рэдакцыі.** Мы, на жаль, не ведаем, што за культавыя пабудовы былі на Нёмане ў вашай мясцовасці, але, магчыма, нехта з нашых чытачоў ведае адказ і прышле яго нам. Мы ахвотна надрукуем.

## «Француз» Атрашкевіч з вёскі Сітцы

У нумары 9/2019 «Нашай гісторыі» прачытаў аповед «Ашуканыя». Аўтару Валеру Каліноўскаму вялікая падзяка — цудоўна напісана.

Успомніў свой час: дзесьці ў 1946, 1947 годзе ў маю вёску Сітцы Докшыцкага раёна прыехала сям'я з Францыі — бацька, маці і дачушка — і пасялілася ў закінутай хаціне. Прозвішча «француза» — Атрашкевіч (імя не памятаю). Стала вядома, што ў Францыі застаўся сын, які заканчваў вучобу, таму не змог прыехаць з бацькамі. Ён пасля так і не з'явіўся ў сталінскім раі, відаць, бацька неяк змог папярэдзіць бедалагу.

У гэтыя гады ў Сітцах упершыню пасля вайны арганізавалі калгас, кіраўніком стаў мясцовы жыхар Гільніч Мацей. Ён кожны дзень хадзіў п'яны, а коні ў яго калгасе не маглі стаяць на нагах. Каб накарміць іх хоць бы саломай, ускрывалі саламяныя стрэхі такоў, пуняў, хлявоў. У калгасах за працу грошай не плацілі, налічвалі палачкі. Гэта ўсё бачыў Атрашкевіч, таму ўладкаваўся грузчыкам на чыгуначную станцыю Параф'янава. З Францыі Атрашкевіч прывёз ровар, але вымушаны быў прадаць, а ў Параф'янава на працу за 8,5 кіламетра штодня хадзіў пехам.

У Францыі Атрашкевіч працаваў у фермера на бураковых палетках. Вырашыў прыехаць у сталінскі рай, а трапіў з агню ды ў полымя. Прыходзілася бачыць Атрашкевіча на дарозе, ён ішоў на працу, а я ішоў у школу. Выгляд у яго быў як у пабітага сабакі — няшчасны чалавек! Падрабязнай долі сям'і Атрашкевіча не ведаю, бо з 1954 года я не жыву ў Сітцах. Пасля чуў, што дачка Атрашкевіча нібы выйшла замуж і жыла ў Параф'янаве.

Пра глыбоцкае Беразвечча ў «Нашай гісторыі» (7/2019) пісаў Кастусь Шыталь з Параф'янава. Магчыма, спадар Кастусь ведае і пра сям'ю Атрашкевіча? Цікава было б пачытаць пра ягоны лёс, калі гэта магчыма.

**Барыс Старыкевіч, Мінск**

**Ад Рэдакцыі.** Звязаліся з Кастусём Шыталем. Ён нічога пра гэта не чуў.

## «Агянты»

Прывітанне, мая «Наша гісторыя»!

Адкрыццё гэтага часопіса для мяне было як каханне з першага погляду — цяпер я ваш заўсёдны падпісант.

«Наша гісторыя» не раз падымала адвечную як свет тэму — стасункі чалавека з Бахусам. Хачу распавесці гісторыю, што здарылася з маёй мамай у пачатку 1950-х.

На той час яны толькі пабраліся шлюбам з маім бацькам і пакуль што жылі разам са свёкрам. Тады на Гарадзеншчыне (Лідскі раён) звыклымі былі рэйды «агянтоў», што проста на месцы адсочвалі парушэнні грамадскага парадку, у тым ліку самагонаварэнне. Каралі бязлітасна. Якраз на момант аднаго з такіх візітаў у хаце дзеда і была рашчынена брага. Тут на вуліцы пагалоска: «Агянты!».

Сполах быў неймаверны. Дзед з дзядзькам хапілі дзяжу і кінуліся яе хаваць. Але крыху не разлічылі: адзін рвануў на вуліцу, а другі — у працілеглы бок, у камору. А дзежка была ўжо даволі старая, хліпкая. Ну і разадралі яе ўшчэнт. Прыбіраць ужо не было калі: «агянты» былі ўжо зусім побач, дай бог самім схавацца! Тыя заходзяць у хату: «Ого!».

Мама на той момант засталася ў хаце адна. На яе і збіраліся складаць пратакол прыхадні. Але ёй удалося пераканаць «агянтоў», і тыя ніякіх папер не пісалі.

Тая падзея яшчэ доўга пераказвалася тубыльцамі і весяліла іх камічнасцю сітуацыі.

**Вінцук, Мядзел**

## Хай і гаркаватая, але свая

Нарэшце пачаў выходзіць сапраўдны часопіс сапраўднай беларускай гісторыі. Вы гадоў праз дзесяць будзеце «Гістарычнай энцыклапедыяй Беларусі». Не напарфумленай, не прыпудранай, не падмалёванай, не падсалоджанай, а хай і гаркаватай, але сваёй, намі пабудаванай, пражытай, выпакутаванай — роднай. А не скрадзенай, як у некаторых народаў — чужой, як каптан з чужога пляча!

Дзякуй Вам. Шчыры дзякуй. І шчаслівай дарогі на доўгія, доўгія гады — спадарожнага ветру і сем футаў пад кілем. Бо расказаць нам пра сябе ой як многа ёсць чаго.

Просьба толькі да вас: 1) выдавайце часопіс выключна на беларускай мове (гэта ж беларуская гісторыя!); 2) і «не нясіце сваю адказнасць» — нікуды. Будзьце проста адказнымі і праўдзівымі.

Хай дапамагае Вам Бог і беларусы!

Будзіце землякоў, аб'ядноўвайце, «біце ў сэрцы мячамі».

**Міхась Вераціла, пасёлак Краснасельскі Ваўкавыскага раёна**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

# Заходнебеларуская адысея

**Адзіны, каму ўдалося ўцячы з канцлагера Штутгаф. Партызан, які стаў пісьменнікам. Палымяны камуніст, які стаў перакананым антысаветчыкам. 14 красавіка Аляксею Карпюку споўнілася б 100 гадоў. Піша Алесь Кіркевіч.**

Ва ўспамінах «Доўгая дарога дадому» Васіль Быкаў згадвае Аляксея Карпюка, з якім сябраваў. Быкаў характарызуе Карпюка як чалавека, «які ўсё жыццё змагаўся са сваім лёсам».

Быкаў з Карпюком нібы сімвалы дзвюх крыніц, якія зліліся, — Заходняй і Усходняй Беларусі. Быкаў нарадзіўся і вырас пры савецкай уладзе, ведаў, што ад яе чакаць і на што яна здольная. У яго былі вядомасць, прызнанне, прэміі ды шматтысячныя тыражы. Адначасова — перыяды цкавання і цэнзарскія нажніцы. Наўрад ці Быкаў хоць некалі меў ілюзіі адносна савецкай улады, не ўсхваляў яе, але ў той жа час і не пераходзіў у адкрытае дысідэнцтва.

Карпюку, калі савецкая ўлада прыйшла ў Заходнюю Беларусь, было ўсяго 19. Усё дзяцінства і раннюю маладосць ён правёў у цяжкай атмасферы міжваеннай Польшчы, адкуль Савецкая Беларусь здавалася казкай, а прыход саветаў — марай. Шчыраму служэнню гэтай краіне



## Аляксей Карпюк

Нарадзіўся 14 красавіка 1920 года ў вёсцы Страшава каля Гарадка на Беласточчыне.
Падчас вайны быў вязнем нямецкага канцлагера Штутгаф, пасля ўцёкаў з яго партызаніў. У 1944–1945 гадах удзельнічаў у баях на тэрыторыі Польшчы і Германіі. Двойчы паранены, стаў інвалідам II групы.
Пасля вайны скончыў аддзяленне англійскай мовы Гарадзенскага педагагічнага інстытута, працаваў загадчыкам рана, дырэктарам школы, загадчыкам агенцтва «Інтурыст» (Горадня), з 1965 — сакратар Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Пісаў. Аўтар кніг аповесцяў і апавяданняў, сярод якіх «Данута» (1960), «Пушчанская адысея» (1964), «Вершалінскі рай» (1974), «Развітанне з ілюзіямі» (2008).
Памёр 14 ліпеня 1992-га. Пахаваны на гарадзенскіх могілках на праспекце Касманаўтаў.
У Гродне нядаўна з’явілася памятная шыльда ў ягоны гонар.

мары ён і прысвяціў наступныя некалькі дзесяцігоддзяў свайго жыцця. Пасля — гэтак жа шчыра ў ёй расчараваўся.

Быкаў і Карпюк цудоўна дапаўняюць адзін аднаго, гэтыя сябры-пісьменнікі. Гэтаксама як Усходняя і Заходняя Беларусь гарманічна складаюць адну краіну.


Родны падворак Аляксея Карпюка ў Страшаве на Беласточчыне.

### Першыя «хрысціяне»

Аляксей Карпюк паходзіў з вёскі Страшава. Сёння гэта Польшча, але ж літаральна праз пару кіламетраў, за Баброўнікамі, пачынаецца Беларусь. Абапал мяжы гэта мясціны, шчыльна заселеныя праваслаўнымі беларусамі.

Сям'я пры Польшчы не бедавала, мела 30 гектараў зямлі. Але польскую шавіністычную ўладу Карпюкі, як і астатнія беларусы-аднавяскоўцы, не шанавалі. Здалёк ім падавалася, што камуністычны ўсход жыве нашмат лепей і справядлівей.

Міжваенная заходнебеларуская вёска — перанаселеная. У гарадах працы няма. У вёсцы — мала зямлі. Маладзёны цягнуцца да культуры і адукацыі: ідуць у Таварыства беларускай школы (гл. пра яго артыкул Андрэя Вашкевіча ў № 3/2019 «Нашай гісторыі»), выпісваюць кнігі ды газеты. Самыя радыкальныя — уступаюць у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі (КПЗБ).

У 1980-я Карпюк будзе пісаць, што капэзэбоўцы (і ён у іх шэрагу) нагадвалі першых хрысціян. Таксама збіраліся невялічкімі купкамі па хатах уначы, каб чытаць уголас незразумелыя тэксты. Таксама свята і бескрытычна верылі. Таксама гатовыя былі ісці на любыя пакуты: пад паліцэйскія дубінкі, у канцлагер, нават на смерць.

Перад вайной Карпюку ўдалося пазбегнуць турмы: бацька меў грошы і паслаў старэйшага сына на падрыхтоўчыя курсы ў гімназію ў Вільні. Яркія замалёўкі той Вільні, «крывіцкай Меккі», можна знайсці ў аповесці «Данута» — мабыць, самым рамантычным і ўдалым творы пісьменніка.

### Свабода — перш за ўсё

1939 год. Гусеніцы танкаў, недаверлівыя камісары і стомленыя на маршы чырвонаармейцы. Вось яно, нарэшце, «святло з усходу». І тут неспадзяванка! Бацька Карпюка, сябар КПЗБ ды ідэйны камуніст, для новай улады аказаўся кулаком. Зямлю, якой Нічыпар Карпюк меў «зашмат», абкладаюць нялюдскім падаткам.

Але і ў гэтых новых абставінах бацька працягваў верыць у старыя ідэалы, меркаваў, што ўсе злыбеды часовыя. Пра гэта гаворыць адзін эпізод. Неяк птушка раскалупала саламяную страху, дзе Карпюкі захоўвалі камуністычныя ўлёткі польскіх часоў. Падзьмуў вецер — і вось яны ўжо разляцеліся па ўсім падворку. Нічыпар Карпюк лазіў на каленях, збіраў іх, чысціў ад бруду і прыгаворваў: «Усё паправіцца, усё будзе добра...»

У сям'і тым часам баяліся хуткага арышту ды высылкі ў Сібір — звычайнай з'явы для таго часу. Калі б так сталася, то і лёс самога Карпюка мог быць цалкам іншым. Карпюк пісаў, што заўсёды больш за ўсё любіў свабоду, таму, імаверна, уцёк бы. Тады пры немцах запраста мог бы працаваць у якім Беларускім камітэце ў Беластоку.

Але Карпюкоў усё ж не вывезлі, і Аляксей яшчэ паспеў паступіць у Навагрудскае педагагічнае вучылішча, дзе ў той жа час вучыўся іншы будучы вядомы беларускі літаратар — Уладзімір Калеснік. Там ён і сустрэў чэрвень 1941-га. З горам папалам Аляксею ўдаецца вярнуцца дадому ў Страшава. Каб перажываць там новыя нягоды.

На пачатку 1943-га ўсіх мужчын з сям'і — Аляксея, бацьку Нічыпара і брата Валодзю — арыштоўваюць. Бацьку праз нейкі час выпускаюць, а братоў адпраўляюць у лагер Штутгаф. Ці праз дапамогу савецкім салдатам-акружэнцам, ці як дзяцей старога камуніста — ▸

невядома. Тады з лёгкай рукі польскіх паліцыянтаў, якія на памяць ведалі былых капэзэбоўцаў і беларускіх патрыётаў, немцы актыўна прарэджвалі заходнебеларускую інтэлігенцыю. Даносу з абвінавачваннем у «камунізме» было дастаткова.

Штутгаф, які раскінуўся непадалёк ад Гданьска, не быў лагерам смерці, але выжыць і ў ім было няпроста. Збегчы — нерэальна. Але Аляксею Карпюку — адзінаму за ўсю гісторыю Штутгафа — гэта ўдалося. Адно што — разам з ім не пайшоў брат, адмовіўся ў апошні момант. Згрызоты адносна гэтага яшчэ доўга мучылі Карпюка, хоць брат, жудасна скатаваны немцамі ў знак помсты, усё ж выжыў.

Нейкім цудам уцякач сустрэў палонных палякаў і англічан, якія працавалі на нямецкіх баўэраў, і тыя далі хлопцу форму нямецкага чыгуначніка. Аляксей ведаў нямецкую, таму без асаблівых цяжкасцяў дабраўся дадому. У чорнай форме чыгуначніка з арламі на пятліцах Карпюк уваходзіць у родны дом, а там — нямецкія вайскоўцы. Аказалася, што ў хаце кватаравалі жаўнеры, а бацькоў выселілі ў прыбудову. Карпюк разумее, што лёс не можа быць заўжды на ягоным баку, таму прымае рашэнне ісці ў партызаны.

### Атрад імя Кастуся Каліноўскага

Найбліжэйшая партызанская зона — паміж Івацэвічамі і Пружанамі. Карпюк сустракае партызанаў, распавядае пра свае прыгоды, але... яму не вераць. Як так, «збег з лагера»? А можа, усё ж выпусцілі з заданнем? Карпюка садзяць у спецыяльную арыштанцкую зямлянку, і далейшы яго лёс мусіў цалкам залежаць ад настрою камандзіра. Маглі разабрацца і пакінуць, а маглі і без суда ды следства расстраляць. Хлопец вырашае і тут не заставацца на волю лёсу, робіць падкоп і ўцякае.

Падчас блуканняў па лясах і хутарах ён выходзіць на спецгрупу Мікалая Вайцяхоўскага. Былы ленінградскі інжынер быў закінуты ў Заходнюю Беларусь з заданнем стварыць партызанскую брыгаду. Сімвалічна, што тая брыгада займела імя Кастуся Каліноўскага. Вайцяхоўскі Карпюку верыць, але кажа вяртацца ў свае мясціны і ствараць атрад там.



**З баявымі сябрамі.** Шпіталь у Познані, лета 1945 года. Карпюк — у цэнтры. Асколак прабіў Карпюку лёгкае.

## Пад адхон яны пускаюць тры цягнікі — рэальныя, а не на паперы

Карпюк падпарадкоўваецца. Вяртаецца ў раён мястэчка Крынкі і на пачатку 1944-га стварае атрад — таксама імя Кастуся Каліноўскага. У атрадзе каля 60 чалавек. Пад адхон яны пускаюць тры цягнікі — рэальныя, а не на паперы, як у многіх іншых камандзіраў. Таксама Карпюк стварае лагер у лесе для цывільных людзей, якія хаваюцца ад немцаў. Падрабязна пра свае ваенныя прыгоды Аляксей Карпюк пасля сам распавядзе ў аповесці «Пушчанская адысея».

Для большасці партызанскіх камандзіраў вайна заканчваецца яшчэ ў 1944-м. Шараговых партызан мабілізуюць у армію і гоняць далей, на Кёнігсберг ды Варшаву. Камандзіраў жа пакідаюць на месцах. Яны — залаты кадравы фонд савецкай улады на непрадказальных прасторах Заходняй Беларусі. Карпюк таксама атрымлівае бронь. Але ўжо ўвосень 1944-га сам ідзе ў ваенкамат. Калі ўсе яшчэ ваююць, то чаму ён, малады і здаровы, мае адседжвацца па тылах?




**Шчодры вечар у Гарадку на Беласточчыне.** Вёска Страшава, дзе нарадзіўся Карпюк, знаходзіцца побач.

ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

Падчас штурму Берліна, ледзь не за тыдзень да канца вайны, яго моцна параніла. Аскепак прабіў шынель ды вырваў кавалак лёгкага. Да верасня 1945-га Аляксей вымушаны аднаўляць здароўе ў шпіталі ў Познані. Жонка пісьменніка пасля згадвала, што той аскепак навечна застаўся ў ягоных грудзях.

## Суседзі-антаганісты

Пасля ваенных прыгодаў Карпюк вяртаецца ў Горадню ды паступае ў педагагічны інстытут. Ён узорны для тых часоў студэнт: партызан, франтавік, паранены, з медалямі. Там ён знаёміцца з будучай жонкай Інай, дачкой закатаванага НКВД сакратара камсамола Заходняй Беларусі Анатоля Альшэўскага і вядомай заходнебеларускай камуністкі-падпольшчыцы Фані Цыгельніцкай.

Жывуць яны ў інтэрнаце для студэнтаў на Савецкай вуліцы. За сценкай жыве іншы студэнт, Уладзімір Кісель, удзельнік антысавецкага Саюза змагання за незалежную Беларусь. У 1949-м Кісяля арыштоўваюць: ён атрымае 25 год турмы і вернецца адно ў 1960-м. Карпюк дапаможа яму знайсці працу.

На тым этапе Карпюк усё яшчэ ідэйны камуніст. Сярод ягоных запісаў можна сустрэць радкі аб тым, як ён плакаў у дзень смерці Сталіна — увесь дзень. А праз год Карпюк дэбютуе ў друку з жыццярадаснай аповесцю «У адным інстытуце».

## Давераная асоба КГБ

У 1961-м Карпюк узначальвае гарадзенскае бюро «Інтурыст». Гэта арганізацыя, якая займаецца справамі замежнікаў. Кіраўнік такой структуры ў тыя часы не мог не быць звязаным са спецслужбамі.

Пра супрацу Карпюка з КГБ сведчаць і дакументы, знойдзеныя не так даўно ў Літве. Яго імя сустракаецца ў справаздачах пра тое, як сачылі і апрацоўвалі Ларысу Геніюш. Пасля доўгага пераліку агентаў раптам ідзе тэрмін «давераная асоба» ў дачыненні да Карпюка.

Тут варта разабрацца ў тэрмінах. Агент КГБ мае псеўданім, на яго заведзена справа, ён дае паказанні ў пісьмовай форме, з ім сустракаюцца на явачных кватэрах. Таксама агент за паслугі можа атрымліваць грошы. «Даверанымі асобамі» называлі ідэйна правераных людзей, якія дзейнічалі без псеўданіма і грошай. Пісьмовых справаздачаў не дае, а штатны кагэбіст можа прыйсці да такога чалавека нават на працу. Усё адкрыта.

Карпюк палымяна ўгаворваў Ларысу Геніюш прыняць савецкую ўладу як факт, атрымаць грамадзянства СССР. Ларыса Антонаўна з ім сварылася, а ў лістах — люта крытыкавала. Толькі ў 1970-я, калі Карпюк сам зведаў на сабе цкаванне савецкай улады, Геніюш стала да яго куды лагаднейшай. У горы яны нарэшце паразумеліся.

Разам з тым трывала ўнутраная эвалюцыя самога Карпюка. Ён усё больш расчароўваецца ў ідэалах, якім аддана служыў. Немалую ролю ў гэтым адыграла Пражская вясна 1968-га.

Напрыканцы 1960-х у Горадні складаецца вальнадумскі трохкутнік: Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Барыс Клейн. Яны не толькі абмяркоўваюць ды крытыкуюць, але і распаўсюджваюць «сумнеўную» літаратуру: ▶

творы Аляксандра Салжаніцына, Яўгеніі Гінзбург ды іншых дысідэнтаў.

У таямніцы гэта не заставалася. Гродзенскіх «антысаветчыкаў» распрацоўвае сам старшыня КГБ СССР Юрый Андропаў. У чэрвені 1969 года ён рыхтуе ў ЦК КПСС запіску, у якой піша аб «нездаровых палітычных настроях Карпюка і Быкава». У тэксце даведкі проста напісана, што «рыхтуюцца спецыяльныя меры», каб супрацьдзейнічаць варожым ідэалагічным выхадкам названых асобаў. Вырашана нейтралізаваць кожнага паасобку.

Прасцей за ўсё з Барысам Клейнам. Ён яўрэй, а ягоны брат — гомасэксуал (у савецкія часы гэта было крымінальным злачынствам). Барыса Клейна пазбаўляюць кандыдацкай ступені, звальняюць з універсітэта, ён вымушаны зарабляць як грузчык. Быкава, найбольш вядомага з тройкі, цкуюць за аповесць «Мёртвым не баліць», крытыкуюць за «фальсіфікацыю гісторыі вайны», але мяжу не пераходзяць. А вось за Карпюка бяруцца сур'ёзна.

### «Памочнік капо»

У красавіку 1971-га першаму сакратару Гарадзенскага абкама партыі Івану Мікуловічу прыходзіць ліст з УКГБ па Гарадзеншчыне з даведкай на Карпюка на 53-х аркушах! З дакумента вынікае, што Карпюк у 1965-м самавольна скраў з архіва дакументы, якія тычацца ягонай дзейнасці ў 1930-я — можа, ён агент дэфензівы? Партызанскае мінулае Карпюка — толькі выдумкі, нічым не пацверджаныя. Больш за тое, Карпюк нібыта пакрываў сапраўдных галаварэзаў: былога байца батальёна «Дырлевангера» Рыхарда Шэрмункіса ды агента Беластоцкага СД Карповіча!




**Шарж на Аляксея Карпюка**, які захаваўся ў яго сямейным архіве. Аўтар — Кастусь Куксо.

Да ўсяго гэтага прыплятаюць яшчэ і Марціна Грушэўскага, былога старасту Страшава ў часы акупацыі. Пасля вайны Грушэўскага саслалі на пяць гадоў за дапамогу немцам, але нібыта несправядліва. Нібыта сам Карпюк у 1944-м напісаў на Грушэўскага данос на падставе «асабістай непрыязнасці».

Нарэшце, кантрольны стрэл. Карпюку закідаюць, што ў Штутгафе ён быў не звычайным вязнем, а памочнікам «капо». Лічы, вертухаем сярод палонных. Знайшлася цыдулка з лагера, паводле якой Карпюк некалькі разоў атрымліваў па 20 рэйхсмарак. За што вязень мог іх атрымліваць?

Усё гэта доўжыцца амаль тры гады. Карпюк пазбаўлены ўсіх пасадаў. Выключаны з партыі. Пасля гісторыі са Штутгафам гаворка ўжо не пра рэпутацыю, а пра перспектыву суда, а далей турэмнага тэрміну ці нават расстрэлу. Карпюк едзе да Вайцяхоўскага, камандзіра брыгады імя Каліноўскага, але той гаворыць адкрыта, што да яго па гэтай справе ўжо прыязджалі. Звяртаецца ў архіў, а там наогул няма інфармацыі пра ягоны партызанскі атрад.

Урэшце Карпюк едзе да Пятра Машэрава, былога партызана і кіраўніка рэспублікі. Здаецца, той верыць. Гэтым часам польскі журналіст, сябар Карпюка, едзе ў Штутгаф і разведвае наконт цыдулкі з рэйхсмаркамі. Дазнаецца, што гэта былі грошы ад бацькоў, якія можна было дасылаць кожнаму вязню.

Патроху хваля цкавання пачынае спадаць. У партыі абмяжоўваюцца строгай вымовай і аднаўляюць Карпюка ў яе шэрагах. Барыса Клейна вяртаюць ва ўніверсітэт. Васіль Быкаў пераязджае ў Менск, разводзіцца з жонкай. Пра Горадню ён будзе ўзгадваць, што гэта горад, дзе жыццё можна пражыць незаўважна, але жыць напоўніцу — не.

Чаму ўлада і яе рэпрэсіўная машына так жорстка «працавалі» менавіта з Карпюком? Адказ для мяне ляжыць на паверхні: яму помсцілі як «свайму», які не стаў трымацца правілаў гульні. Ідэйны камуніст і нават давераная асоба КГБ, якая крытыкуе ўладу, — гэта куды больш сур'ёзны вораг, чым звычайны антысаветчык. У дакументах ёсць нават згадка, што дзейнасць Карпюка забаранялася разбіраць на пасяджэннях партыйнай арганізацыі ўстановы, дзе ён працаваў. Баяліся, каб не пераканаў у сваёй рацыі калег.

### «Развітанне з ілюзіямі»

У 1980-я для Карпюка настае зусім новы этап. Яму даюць пасаду дырэктара Музея гісторыі рэлігіі і атэізму ў Горадні. Падобныя музеі таксама ствараюцца ў Вільні ды Львове — самых рэлігійных,

на думку савецкай улады, на той час заходніх рэгіёнах СССР. Карпюка дагэтуль узгадваюць як найлепшага дырэктара таго музея, які выбіваў грошы на рэканструкцыю будынка былога базыльянскага кляштара, арганізоўваў экспедыцыі, а таксама вывозіў увесну свой штат на талаку ў лес. Былыя калегі ўспамінаюць, што Аляксей Карпюк быў чалавекам няпростым, часам занадта катэгарычным, але з усімі ён размаўляў аднолькава: што з дворнікам, што са старшынёй абкама партыі.

У часы галоснасці, калі скон Саюза быў ужо не за гарамі, Карпюк ідзе ў свой апошні бой. Піша артыкул «Сумныя былі» ў фармаце споведзі. Падтрымлівае Таварыства польскай культуры імя Адама Міцкевіча (правобраз Саюза палякаў), бо мяркуе, што, «калі прачнуцца палякі, услед за імі прачнуцца і беларусы». Былы «будаўнік новага свету», Карпюк начуе ў будынку XVIII стагоддзя, калі той хочуць зносіць для пашырэння плошчы Леніна.

Але імперыя яшчэ жывая і здольная прымаць выклікі. Супраць Карпюка пачынаецца новая хваля чорнага піяру: лісты ад «франтавікоў-ветэранаў», артыкулы ў афіцыёзным «Политическом собеседнике», усё тыя ж ілжывыя абвінавачанні пра скрадзеныя дакументы і Штутгаф. Напрыканцы жыцця Аляксей Нічыпаравіч выходзіць з партыі, але пакідае білет сабе — на памяць аб ілюзіях маладосці. Ён піша, што ў жыцці рабіў заўсёды тое ж, што і бацька. І каб бацька дажыў да гэтага часу, то таксама сказаў бы пра тое, як яны моцна памыляліся. На абарону Карпюка ад празмерна актыўных «ветэранаў» выходзяць маладыя дэмакратычна настроеныя прадстаўнікі моладзі, у тым ліку і Зміцер Кісель — сын таго самага антысаветчыка Уладзіміра Кісяля.

Гарадзенцы, у тым ліку мая мама, добра памятаюць высокую фігуру волата, які спускаўся па вуліцы Горкага з драўляным кіем. Хадзіць Карпюку было ўжо цяжка, бо ў дадатак да паклёпаў дадалася іншая бяда — рак. Адолеўшы польскую дэфензіву, пагрозу высылкі, нямецкія засценкі ды сырыя зямлянкі ў лясах Падляшша, цкаванне ды балючае развітанне з ілюзіямі, з прыродай ён ужо анічога не мог зрабіць. Тут ён у змаганні са сваім лёсам прайграў.

Аляксей Карпюк памірае ўлетку 1992-га. Яго ўрачыста хаваюць з вайсковым аркестрам, а труну пакрываюць бел-чырвона-белым сцягам. Жонка, Іна Анатолеўна, перажыве мужа на паўтара дзесяцігоддзя і захавае машынапіс апошняй яго кнігі, набор якой раскідаюць у 1995-м. Гэтая кніга будзе надрукавана толькі ў 2008 годзе недзяржаўнай «Гарадзенскай бібліятэкай» пад назвай «Развітанне з ілюзіямі». ◆



**Як ветэрана вайны, Аляксея Карпюка хавалі з ганаровай вартай.**

Крыж у выглядзе галінак дуба з жалудом. Могілкі ў Трашчычах.

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

Трашчычы

# Вечная памяць па-беларуску

**Каля даўняга гасцінца з Наваградка да Міра ў засені дрэў раскінулася старая вёска Трашчычы. Маляўніча выглядаюць яе могілкі: высокі пагорак, парослы соснамі, на ім драўляная цэркаўка без званіцы. Тут лёгка прыгадаць краявіды Яна Булгака, пашкадаваць, што храм, як звычайна, замкнёны, і рушыць далей. Але больш пільны позірк на помнікі рыхтуе нечаканае адкрыццё і прымушае затрымацца. Пішуць кандыдаты гістарычных навук Сяргей Грунтоў і Зміцер Віцько.**

### «Тут спачывае...»

Беларускамоўныя надмагіллі і сёння не такая частая з'ява. Што ўжо казаць пра даваенны час і тым больш пра пачатак XX стагоддзя. Але на трашчыцкіх могілках мы налічылі такіх прынамсі пяць. Прычым два размешчаныя ў прэстыжным месцы, побач з царквой.

Эпітафіі здзіўляюць нестандартным пачаткам: «Т. С.» («Тут спачывае») — замест звычайнага «З. П.» («Здесь покоится»). Напрыклад:

Т. С. | Р. Б. | Пракоп | ГАРОШКО | с. Хведара | радз. 1854 г. 1 сту. | пам. 1935 г. 8 вер. | В. П.

Калі расшыфраваць усе скароты, выходзіць: «Тут спачывае раб Божы Пракоп Гарошко, сын Хведара. Радзіўся 1854 года 1 студзеня, памёр 1935 года 8 верасня. Вечная памяць».

### Адна сям'я — тры мовы

Побач з пахаваннем Пракопа яшчэ два помнікі людзей з тым жа прозвішчам — Ганны і Андрэя Гарошкаў. На помніку Ганны, памерлай у 1921 годзе, эпітафія па-руску, а вось на помніку Андрэя — па-беларуску:

Т. С. | Р. Б. | ГАРОШКО | Андрей с. Прак. | ж. 35 г. п. 1912 г.

(«Тут спачывае раб Божы Андрэй Гарошка, сын Пракопа. Жыў 35 гадоў, памёр 1912 года».)

На ўсіх трох помніках даволі падобныя шрыфты. Верагодна, яны выкананыя адным і тым жа мясцовым майстрам.

## Надпісы па-беларуску на магільных камянях пачала выбіваць моладзь

Крыху далей знаходзіцца найстарэйшы помнік на могілках з лаканічным надпісам: «IHS | Roku | 1849 | Charaszko». Падобна на тое, што гэта прадстаўнік таго ж роду, прозвішча якога пазначана як «Харашко». Калі так, дык перад намі прыклад таго, як адна сям'я на працягу менш чым стагоддзя карысталася трыма мовамі для ўшанавання памерлых. Польскую мову можна разглядаць у якасці ўніяцкай традыцыі, паколькі ў царкоўным асяродку яна была пашырана да скасавання уніі.

### Беларускасць на помніках — свядомы выбар

У такой кансерватыўнай сферы, як пахавальныя традыцыі, беларуская мова была навіной. Відавочна, што ў гэтай мясцовасці мусіў быць асабліва моцны беларускі асяродак. І крыніцы сведчаць: так, ён сапраўды там быў.

У Заходняй Беларусі, куды да вайны ўваходзілі Трашчычы (адносіліся да Стаўбцоўскага павета Навагрудскага ваяводства, а сёння гэта Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці), набылі вядомасць два дзеячы з прозвішчам Гарошка — Леў і Мікола. Абодва яны — ураджэнцы гэтай вёскі і выпускнікі Навагрудскай беларускай гімназіі. І абодва, выйшаўшы ў людзі, не забываліся пра родныя мясціны.

### Леў Гарошка: ставіў спектаклі і арганізаваў бібліятэку

Сёння больш вядомы Леў Гарошка, які рупіўся пра адраджэнне царкоўнай уніі, разглядаючы яе ў якасці нацыянальнай канфесіі. Пасля вучобы ў Навагрудку ён скончыў Львоўскую грэка-каталіцкую акадэмію і быў накіраваны ў Багаслоўскі інстытут у аўстрыйскім Інсбруку. Апекаваліся ім беларускі дзеяч Антон Луцкевіч і львоўскі грэка-каталіцкі мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі. З абодвума Гарошка падтрымліваў блізкія адносіны.

У 1937-м Леў Гарошка атрымаў сан святара і служыў у некалькіх уніяцкіх парафіях Заходняй Беларусі, скіроўваючы сваю энергію не толькі на прапаведніцтва, але і на пашырэнне ды ўмацаванне беларускага нацыянальнага руху. У часы акупацыі ён, застаючыся святаром, выкладаў у медыцынскай школе ў Баранавічах і нейкі час быў яе дырэктарам. Пасля вайны — актыўны дзеяч беларускай эміграцыі ў Заходняй Еўропе. Памёр у 1977 годзе ў Парыжы, пахаваны ў Лондане.

Бываючы на радзіме, Леў Гарошка прыкладаў шмат намаганняў, каб умацаваць тут беларускае жыццё. Успамінаў: «Мая грамадская дзейнасць у беларускім нацыянальным жыцці пачынаецца ад юнацтва — адразу па ліквідацыі "Грамады", калі я быў у Беларускай навагрудскай гімназіі. Тады ў нашай вёсцы Трашчычы ў Стаўпеччыне ўжо беларускае нацыянальнае жыццё было даволі моцнае, часта ставіліся беларускія спектаклі, ладзіліся канцэрты, пранумаравалі [выпісвалі] беларускія газеты і часопісы. Таму і пасля ліквідацыі гуртка "Грамады" ў нашай вёсцы і далей ладзіліся спектаклі, у якіх я заўсёды браў актыўны ўдзел, і на маю прапанову часць атрыманых са спектакляў грошай ішла на закуп беларускіх кнігаў, з якіх я ў нашай хаце зарганізаваў беларускую бібліятэку. Гэтую ж працу прадаўжаў кожнае лета, будучы студэнтам».

### Мікола Гарошка і яго літоўскі сыр

Аднак галоўная заслуга ў такім актыўным развіцці ў Трашчычах нацыянальнага руху належыць, відаць, не Льву, а ягонаму стрыечнаму брату Міколу, старэйшаму на дзевяць гадоў. Пасля вучобы ў Навагрудскай і Віленскай гімназіях ён скончыў Карлаў універсітэт у Празе і вярнуўся на радзіму. Аднак маладому інжынеру-беларусу не знайшлося месца ў дзяржаўных арганізацыях. ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Мікола Гарошка ў Празе**, 20-я гады XX стагоддзя.

Віленскі ваявода заявіў яму, што тут Польшча, а калі ён хоча працаваць, то можа ехаць на ўсход.

Міколу Гарошку нічога не заставалася, як у пачатку 1930-х вярнуцца ў родную вёску. Ён склікаў сход і заснаваў сельскагаспадарчы кааператыў «Засеўкі». Спецыялізаваўся кааператыў на вырабе «літоўскіх сыроў» і вельмі хутка пачаў атрымліваць добры прыбытак. Прадукцыя збывалася ў Баранавічах, дзе аптовымі закупкамі займаўся Пятро Орса, іншы выпускнік Навагрbelieved Навагрудскай гімназіі і Карлавага ўніверсітэта.

**Дзед Пракоп расказваў з вялікім узрушэннем, як сустрэў старога ўніяцкага святара, які хаваўся ў лясах недзе каля Свіцязі**

Справы ішлі, да кааператыва далучыліся амаль усе мясцовыя сяляне. Ужо праз пару месяцаў пачалі адчыняцца філіялы ў суседніх вёсках Церабостынь, Кожава, Пясочная. Хутка філіялаў стала столькі, што яны пачалі вылучацца ў самастойныя кааператывы ды адкрываць ужо свае філіялы.

Мікола Гарошка аб'ездзіў усе ваколіцы, дапамагаючы сялянам самаарганізавацца. Гэтая дзейнасць мела не толькі гаспадарчы характар: пры кааператыве ў Трашчычах быў створаны тэатральны гурток, які ездзіў з беларускімі пастаноўкамі па суседніх вёсках. У гэтым жа кааператыве на канікулах працаваў бухгалтарам і будучы святар Леў Гарошка, які вечарамі, калі ў краме збіралася шмат людзей, ладзіў чытанне беларускіх газет і часопісаў. Так у 30-я гады Трашчычы сталі сапраўдным цэнтрам нацыянальнага жыцця.

У сярэдзіне 30-х польскія ўлады ўсё ж такі прапанавалі Міколу Гарошку працу па будаўніцтве мастоў. У прыватнасці, ён будаваў мост цераз Нёман у Стоўбцах і яшчэ некалькі ў Польшчы. Затым вярнуўся дадому, узяў у арэнду маёнтак ды зноў заняўся сырамі. У 1939 годзе маёнтак быў разрабаваны, абсталяванне знішчана, а сам Гарошка ледзь пазбег арышту. У нямецкую акупацыю ён працаваў у лясной управе ў Навагрудку, а пасля вайны эміграваў у ЗША, дзе быў адным з лідараў беларускай дыяспары.

### Выява матыля — адзіная на праваслаўных могілках

Надмагілле Пракопа Гарошкі мае яшчэ адну адметнасць: у канцы, паміж літарамі «В. П.» («Вечная памяць»), мы бачым выяву матыля. Гэта не што іншае, як сімвал душы, якая вылятае з цела да вечнага жыцця, бы матыль з кукалкі. На беларускіх могілках ён сустракаецца вельмі рэдка: адзін на Фарных могілках у Горадні, яшчэ два — на аднолькавых літых чыгунных крыжах у Жырмунах пад Лідай і ў Селіванаўцах каля Горадні. Такім чынам, гэта чацвёртая знаходка на Беларусі і першая на праваслаўных могілках.

### Помнікі дзеду і дзядзьку

Кім жа даводзяцца Льву і Міколу пахаваныя на вясковых могілках Гарошкі?

Пракоп — гэта іх дзед. Вось як згадвае яго ў сваіх мемуарах Леў Гарошка: «У нашай ваколіцы ў часе майго юнацтва было яшчэ шмат жывых традыцыяў аб "Еднасці" — так называў Унію мой дзед. Нярэдка падчас Вялікага посту, калі здараліся прыкрыя інцыдэнты з платаю за споведзь і за картачкі, усе старэйшыя людзі з жалем гаварылі: "Калісь за часоў Еднасці гэтага ніколі не было". Дзед Пракоп мне некалькі разоў расказваў з вялікім узрушэннем, як аднойчы падчас паломніцтва ў Жыровічы стрэнуў каля свіцязянскіх лясоў старога ўніяцкага святара, які хаваўся недзе каля Свіцязі».

Побач стаіць помнік іх дзядзьку Андрэю, сыну Пракопа. Верагодна, помнік Андрэю Гарошку, хоць ён і памёр у 1912 годзе, паставілі таксама ў 30-я. Ім маглі замяніць, напрыклад, ранейшы драўляны крыж.

### Не толькі Гарошкі

Усе беларускамоўныя пахаванні ў Трашчычах прыпадаюць на 30-я гады — час актыўнай дзейнасці кааператыва. Прытым выкарыстоўвалі беларускую мову на помніках не толькі Гарошкі. Можна знайсці яшчэ некалькі помнікаў з беларускімі эпітафіямі. Яны маюць аналагічную структуру:

Т. С. | Р. Б. | Марыя | ГУДКО | дач. Адама | рад. 1909 г. | памер. 1935 г. | В. П.

Р. Б. | На веч. пам. | Ганне | Кирилловне | ПАНЬКО | Р. 1906 г. 9 сьне. | У. 1931 г. 10 сака.

Р. Б. | Валентина | дачка | Кирилла | ПАНЬКО | р. 26 студ. 1912 г. | п. 22 сьне. 1938 г. | В. П.

Царква на могілках **у вёсцы Трашчычы.**

ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Надмагілле Пракопа Гарошкі,** 1935 год.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Надмагілле Андрэя Гарошкі**, датаванае 1912 годам.



ФОТА СЯРГЕЯ ГРУНТОВА

**Надмагіллі Ганны і Валянціны Панько,** 1931 і 1938 гады.

Надпісы на помніках сясцёр Панько нясуць даволі моцны адбітак рускай мовы, аднак трэба памятаць, што ўзаемаўплыў моў у рэгіёне наогул быў моцны, таму памылкі можна сустрэць і ў польскіх, і ў рускіх эпітафіях.

Цікава, што пахаванні належаць жанчынам ва ўзросце 20–30 гадоў. Відаць, моладзь больш актыўна ўспрымала і беларускую пісьмовую мову, і нацыянальныя ідэі, а таму ставіла па сваіх без пары памерлых сябрах і сваяках помнікі па-беларуску. ◆

1940



# Як сын стваральніка «Фабрыкі літоўскіх вяндлін» з Баранавіч стаў ахвярай Катынскай трагедыі

**У красавіку гэтага года спаўняецца 80 год расстрэлам польскіх ваеннапалонных у Катыні і іншых месцах. У Беларусі Катынскую трагедыю найчасцей разглядаюць выключна ў польскім кантэксце, як чужую бяду, часта забываючыся, што там палеглі і тысячы нашых землякоў. Напрыклад, вайсковы доктар з Баранавіч Леанард Баранцэвіч. Піша Сяргей Кузняцоў.**

На пачатку XX стагоддзя Баранавічы былі толькі мястэчкам, але дзякуючы чыгуначнаму вузлу бурна раслі і прыцягвалі ўсё больш насельнікаў з ваколіц. Прыезджымі былі і бацькі Леанарда Баранцэвіча. Маці Баніслава была родам са Слоніма, а бацька Міхал — з невялічкага засценка Касцюкі (сёння — частка вёскі Віскачы Стаўбцоўскага раёна). Іх сын Леанард нарадзіўся ў верасні 1911 года.

Міхал Баранцэвіч быў у Баранавічах чалавекам вядомым. Яшчэ ў 1905 годзе ён заснаваў прадпрыемства па перапрацоўцы мяса «М. Баранцэвіч. Фабрыка літоўскіх вяндлін». Бізнэс перажыў рэвалюцыйна-ваенныя закалоты і паспяхова развіваўся ў новых умовах, пасля таго як паводле Рыжскай дамовы Баранавічы адышлі да Польшчы. На этыкетцы фабрыкі можна пабачыць выявы медалёў, якія мясная прадукцыя Баранцэвіча здабыла яшчэ ў часы Расійскай імперыі на разнастайных выставах прадуктаў у Крывым Розе, Растове-на-Доне і нават Рыме.

Недзе ў 1933 годзе Міхал выправіў сына Леанарда на вучобу ў Вільню — ва Універсітэт Стэфана Баторыя.

Медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта Леанард скончыў у 1938 годзе. Яшчэ падчас вучобы ён ажаніўся, а ўвосень 1938-га жонка Яўгенія нарадзіла сына, якога назвалі Збышкам, Збігневам. Маладыя таксама пасяліліся ў Баранавічах. Шчаслівы тата вырашыў звязаць жыццё з польскім войскам і быў залічаны на службу вайсковым доктарам у адзін з палкоў уланаў. Верасень 1939 года, пачатак вайны, заспеў Леанарда ў званні падхарунжага.

А ў палоне ён апынуўся пад Берасцем, пасля таго як польскае войска было канчаткова разбгроенае нацысцкай Германіяй і Савецкім Саюзам.

## «Кіравацца не канвенцыямі, а дырэктывамі»

Ужо ў другой палове верасня 1939 года пры НКВД СССР утварылася Упраўленне па справах ваеннапалонных і інтэрнаваных, якое ўзначаліў маёр Пётр Сапруненка. Спачатку для ваеннапалонных стварылі аж восем лагераў.

Аднак даць рады такой колькасці людзей было лагістычна складана.

Праз два тыдні, згодна з рашэннем Палітбюро ЦК ВКП(б), палонных жаўнераў падзялілі на дзве катэгорыі. Ад афіцэраў адасобілі шарагоўцаў і падафіцэраў. Каля 40 тысяч шарагоўцаў — тых, чые дамы апынуліся на нямецкім баку, — перадалі Германіі. Астатніх вызвалілі альбо накіравалі на прымусовыя працы.

А вось афіцэраў, як і супрацоўнікаў паліцыі ды жандармерыі, было вырашана трымаць далей. Большасць лагераў закансервавалі, з васьмі пакінулі тры: Асташкаўскі і Казельскі ў Цэнтральнай Расіі, а таксама Старабельскі на ўсходзе Украінскай ССР.

Леанарда Баранцэвіча, як і іншых палонных лекараў, утрымлівалі ў Старабельску. Хоць падхарунжыя фармальна афіцэрамі не лічыліся, выхадцаў з Заходніх Беларусі і Украіны таксама пакінулі ў лагеры. Агульная колькасць палонных тут сягала 4 000 чалавек, з якіх дактароў (у тым ліку ветэрынараў), фармацэўтаў, падхарунжых і афіцэраў медыцынскай службы было больш за 800.

Напрыканцы кастрычніка найбольш актыўныя з гэтай групы звярнуліся з калектыўным лістом да найвышэйшага савецкага кіраўніцтва. Дактары і фармацэўты звярталі ўвагу, што савецкія войскі заспелі іх пры выкананні лекарскіх абавязкаў у шпіталях або ў вайсковых часцях. Спасылаючыся на нормы Жэнеўскай канвенцыі, падпісанты прасілі адправіць іх у адну з нейтральных краін альбо дахаты.

Хоць напісаныя лісты не дайшлі да адрасатаў, начальнік лагера капітан Аляксандр Беражкоў папрасіў сваё кіраўніцтва даслаць яму для азнаямлення тэкст Жэнеўскай канвенцыі. У адказ начальнік Сапруненка загадаў кіравацца ў працы не канвенцыямі, а дырэктывамі ўпраўлення.


ФОТА СА ЗБОРАЎ АЎТАРА




**Фабрыкант Міхал Баранцэвіч і этыкетка прадукцыі «Фабрыкі літоўскіх вяндлін», 1930-я.** Пададзены адрас па вуліцы Пілсудскага ў Баранавічах (цяпер — Савецкая). Таксама звяртае ўвагу нумар тэлефона — 53.

### «Разгрузка лагераў»

Наступныя некалькі месяцаў палонных актыўна распрацоўваў НКВД. На пачатак лютага 1940-га нарэшце завяршылі фармаваць «следчыя справы». Яшчэ праз месяц, 5 сакавіка, Палітбюро ЦК ВКП(б) прыняло адносна ваеннапалонных рашэнне: справы былых польскіх афіцэраў маюць быць разгледжаныя ў адмысловым парадку, з прымяненнем найвышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Разгляд справы праводзіўся «тройкай» без выкліку арыштаваных і без выстаўлення абвінавачання, без прад'яўлення пастановы аб заканчэнні следства і абвінаваўчага заключэння. ▶


ФОТА СА ЗБОРАЎ АЎТАРА

**Доктар Леанард Баранцэвіч.**

**Катынскай трагедыяй** называюць расстрэлы польскіх ваеннапалонных з трох лагераў: Асташкаўскага, Казельскага (на тэрыторыі Расіі) і Старабельскага (ва Украіне). Агульная назва прынялася ад першага знойдзенага пахавання. Магілы ў Катынскім лесе пад Смаленскам з парэшткамі 4 421 палоннага з Казельскага лагера былі знойдзеныя яшчэ ў 1943 годзе. Пра пахаванні ў Пяціхатках (3 820 чалавек з лагера ў Старабельску) і ў Медным каля Цверы (6 311 вязняў Асташкаўскага лагера) грамадскасць даведалася толькі на пачатку 1990-х. Да катынскіх ахвяраў часта залічваюць і 7 305 расстраляных у турмах Заходняй Беларусі і Украіны, што даводзіць агульную колькасць ахвяраў да 21 857 чалавек. Савецкі Саюз доўгія гады адмаўляў адказнасць за катынскія расстрэлы і прызнаў яе толькі 13 красавіка 1990 года. У 2010 годзе Дзярждума Расіі асудзіла расстрэл, назваўшы яго злачынствам, здзейсненым паводле непасрэднага загаду Іосіфа Сталіна. У красавіку 2012-га Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў Катынскую трагедыю ваенным злачынствам.

SHUTTERSTOCK.COM, BY HEMADZI PECHAN

**Мемарыял у Катыні.** Забітыя вызнавалі розныя рэлігіі і належалі да розных канфесій.

Пачалася аперацыя, названая НКВД «разгрузкай лагераў». З 4 000 старабельскіх палонных трохі менш за 200 чалавек былі пераведзеныя ў іншы лагер. Гэта былі вязні, на якіх ва ўладаў былі асаблівыя віды: хтосьці згадзіўся супрацоўнічаць, хтосьці быў патрэбны для далейшай распрацоўкі або аператыўных гульняў. Часта людзі і самі не ведалі прычыну, чаму іх пакінулі жыць.

## Адным з ацалелых быў Юзаф Чапскі, пляменнік колішняга гарадскога галавы Мінска Караля Гутэн-Чапскага

Адным з ацалелых быў пляменнік колішняга гарадскога галавы Мінска Караля Гутэн-Чапскага (кіраваў з 1890 па 1901 год), Юзаф Чапскі. Як стане вядома праз шмат гадоў, вызваліць яго, графа, прасіла праз пасярэдніцтва немцаў еўрапейская арыстакратыя. Чапскі перажыве вайну, паселіцца пад Парыжам, дзе разам з Ежы Гедройцем будзе працаваць над часопісам «Культура». А свой палон апіша ў кнізе ўспамінаў «На бесчалавечнай зямлі» (1949).

Леанард Баранцэвіч у групу ацалелых не трапіў. Ён быў у адной з партый палонных, якія пачынаючы з 5 красавіка штодня перавозіліся чыгункай у Харкаў і дастаўляліся ў абласное ўпраўленне НКВД. Там завочна асуджаных на смерць па адным заводзілі ў сутарэнне, звяралі асабістыя дадзеныя і стралялі ў патыліцу.

### Не Каты́нь, а Ка́тынь

У Беларусі прынята вымаўляць назву месца масавых расстрэлаў польскіх ваеннапалонных у 1940 годзе пад Смаленскам як Катынь. Тут відавочна адбіваецца сугучнасць назвы з беларускай Хатынню. Але на самай справе націск у гэтай геаграфічнай назве падае на першы склад і гучыць як Ка́тынь. Назва старажытнага паселішча, хутчэй за ўсё, паходзіць ад дзеяслова «катаць», «каціць», бо вельмі верагодна, што менавіта тут у старажытнасці судны на шляху з варагаў у грэкі перакатваліся па сушы з басейна Дняпра ў басейн Дзвіны. Зусім блізка ад Катыні размешчана знакамітая вёска Гнёздава са шматлікімі гарадзішчамі і курганамі ў яе ваколіцах.




ALLEGRO.PL

**Вокладка кнігі ўспамінаў** Юзафа Чапскага.

**Самы вядомы беларус — ахвяра Катынскай трагедыі —** гэта Францішак Умястоўскі (1882–1940). Ураджэнец Вільні, ён у пачатку XX стагоддзя разам з братамі Луцкевічамі, Вацлавам Іваноўскім і іншымі стаяў ля вытокаў арганізаванага беларускага культурна-асветніцкага і палітычнага руху. Браў удзел у выданні «Нашай Нівы», сам друкаваўся на яе старонках і ў іншых беларускіх выданнях. У 1919–1920 гадах рабіў спробы стварэння беларускіх вайсковых фарміраванняў у супрацы з Польшчай, уваходзіў у склад Беларускай вайсковай камісіі. Быў прыхільнікам польска-беларускай федэрацыі, дэкларыванай Юзафам Пілсудскім. У міжваенны час жыў у Вільні, у 1927–1928 гадах выдаваў газету «Беларускі дзень» і часопіс «Беларуская культура». Менавіта на старонках апошняга быў упершыню надрукаваны перасланы з Менска патрыятычны верш Уладзіміра Дубоўкі «За ўсе краі, за ўсе народы свету...».
З пачаткам Другой сусветнай вайны быў мабілізаваны як паручнік запасу ў польскую армію, 18 верасня 1939 года трапіў у савецкі палон. Інтэрнаваны ў лагер у Казельску, расстраляны ў Катыні.

За адзін дзень НКВД «разгружала» лагер прыкладна на 200 чалавек. Целы загінулых таемна хавалі ва ўрочышчы Пяціхаткі каля Харкава.

## Пакуты сям'і

Яшчэ перад пачаткам «разгрузкі» НКВД удакладніў у палонных месца жыхарства іх сем'яў. Рыхтавалася другая хваля дэпартацыі насельніцтва Заходніх Беларусі і Украіны. Савецкія ўлады правядуць яе за два дні — 13 і 14 красавіка — і вывезуць больш за 60 тысяч чалавек. На 80% гэта будуць жанчыны і дзеці.

Яўгенію, жонку Леанарда, забяруць з Баранавіч разам з малым Збышкам. Разам з імі вышлюць маці Яўгеніі, а таксама свёкра Міхала, былога ўладальніка фабрыкі вяндлін. З таварных вагонаў іх высадзяць на станцыі Петухова, каб накіраваць на спецпасяленне ў суровым стэпе Паўночнага Казахстана.

Праз два гады, калі ворагі і саюзнікі ў Масквы будуць іншыя, Яўгенія з сынам змогуць атрымаць свабоду і пакінуць СССР з арміяй Уладзіслава Андэрса. Праз


№10. 14.XI.39 г.

Гражданину Комиссару Внутренних Дел С.С.С.Р.

Врачи и фармацевты Польской армии, сосредоточенные в лагере для военнопленных в Старобельске Ворошиловградской области в числе 130 человек (104 врачей и 26 фармацевтов) позволяют себе заявить Вам, гражданин Комиссар, следующее:

Все врачи и фармацевты были застигнуты Советскими войсками при исполнении своих врачебных обязанностей, будь то в госпиталях, будь то в воинских частях. На основании международной Женевской Конвенции, регулирующей право врачей и фармацевтов во время военных действий, просим Вас, гражданин Комиссар, или отослать нас в одно из нейтральных государств (Соед. Штаты Сев. Америки, Швеция), или отослать нас по месту нашего постоянного жительства

Старобельск
30 октября 1939 г.

З КНІГІ KATYŃ. DOKUMENTY ZBRODNI. JEŃCY NIE WYPOWIEDZIANEJ WOJNY SIERPIEŃ 1939 – MARZEC 1940. T. 1

**Палонныя медыкі апелююць да Першай жэнеўскай канвенцыі 1864 года**, якая прапаноўвала дзяржавам-падпісантам гуманна ставіцца да хворых і параненых, а медыцынскіх работнікаў лічыць нейтральнымі грамадзянамі.

Іран і Палесціну яны трапяць у Вялікабрытанію.

У 1950-х Яўгенія пераселіцца ў ЗША, дзе пражыве доўгае жыццё, больш ніколі не пабачыўшы Баранавічы. Яна дачакае часу, калі свет дазнаецца пра пахаванне ў Пяціхатках, а на месцы спачыну яе мужа і тысяч іншых ахвяр будзе ўзведзены мемарыял. ◆


HAMMER.UCLA.EDU

**Сцэна з фільма польскага кінарэжысёра Анджэя Вайды «Катынь».** Бацька рэжысёра таксама быў расстраляны ў Харкаве вясной 1940-га.

**Больш пра Катынскую трагедыю па-беларуску** можна пачытаць у навукова-папулярнай кнізе нямецкага пісьменніка і журналіста Томаса Урбана «Катынь, 1940 год», выдадзенай выдавецтвам «Інбелкульт» у 2016 годзе. Яе можна набыць у папяровым і электронным выглядах у інтэрнэт-кнігарні **arche.by**.



# Ці чытаў Вільгельм II тэлеграму Рады БНР?

**Ці мог нямецкі кайзер Вільгельм II атрымаць і прачытаць тэлеграму Рады БНР ад 25 красавіка 1918 года? Ці мела нямецкая дзяржава ў гады Першай сусветнай вайны і пасля яе дакладна выпрацаваную палітыку ў дачыненні да Беларусі? Шмат у чым па-новаму адказаць на гэтыя пытанні дазваляе кніга нямецкіх даследчыкаў са Свабоднага ўніверсітэта Берліна Матыяса Дорнфэльта і Энрыка Зэвальда, якая зусім нядаўна пры падтрымцы фонду Конрада Адэнаўэра выйшла ў Германіі. Пішуць доктар гістарычных навук Валянцін Голубеў і кандыдат філалагічных навук Лявон Баршчэўскі.**




Кніга, пра якую тут ідзе гаворка, мае назву «Адносіны паміж Германіяй і Беларуссю ў 1916–1925 гадах» (у арыгінале *«Die Beziehungen zwischen Deutschland und Belarus, 1916 bis 1925»*). Яна цалкам пабудаваная на архіўных матэрыялах — збольшага раней не публікаваных дакументах з берлінскага Палітычнага архіва знешнепалітычнага ведамства (ПАЗВ). І гэта дадае ёй цікавасці, бо раней нямецкія архівы за перыяд 1918–1925 гадоў былі нашым гісторыкам мала вядомыя. Тым больш што і адзінага комплексу гэтыя дакументы не складалі: нямецкія даследчыкі «вылоўлівалі» матэрыялы, звязаныя з Беларуссю, у розных архіўных фондах.

### «Першыя» немцы — адрозныя ад «другіх»

У выніку паспяховага наступлення нямецкага войска падчас Першай сусветнай вайны восенню 1915 года заходняя частка Беларусі апынулася пад акупацыяй Германіі. Лінія фронту на два з паловай гады стабілізавалася на лініі Дзвінск – Паставы – Баранавічы – Пінск.

Немцы часоў Першай сусветнай вайны не былі нацыстамі і не хварэлі на расавую тэорыю. Таму беларусы іх цікавілі не толькі з палітычнага, але і з этнаграфічнага гледзішча. Як у франтавой прэсе, так і ў газетах самой Германіі пачалі з'яўляцца артыкулы — часам нават са здымкамі, — дзе расказвалася пра жыццё людзей на акупаваных тэрыторыях.

Рабіла нямецкае камандаванне і пэўныя крокі па падтрымцы беларускага нацыянальнага руху. Кіраваліся пры гэтым немцы, натуральна, не інтарэсамі беларусаў як народа, а сваімі ўласнымі геапалітычнымі меркаваннямі: нямецкі ўрад імкнуўся паменшыць расійскі ўплыў на занятых тэрыторыях за кошт падтрымкі адукацыі і культуры іншых нацыянальнасцяў: літоўцаў, палякаў, беларусаў. У адпаведнасці з распараджэннем начальніка Палявога генеральнага штаба генерал-фельдмаршала Паўля фон Гіндэнбурга за 16 студзеня 1916 года на акупаванай тэрыторыі руская мова выводзілася з сістэмы адукацыі, уводзілася абавязковае навучанне дзяцей на роднай мове. Сярод іншага было адкрыта каля 200 беларускіх школ, пачалося выданне газеты «Гоман» на беларускай мове, ствараліся розныя нацыянальныя арганізацыі.

### «Адхіліць спробы перамоў»

Найбольш цікавымі матэрыяламі з кнігі нямецкіх даследчыкаў з'яўляюцца невядомыя раней дакументы, якія тычацца гісторыі барацьбы за дзяржаўную незалежнасць Беларусі. У некаторых выпадках яны дазваляюць з зусім іншага боку паглядзець на некаторыя


Генерал-фельдмаршал Паўль фон Гіндэнбург (злева) і генерал пяхоты Эрых Людэндорф **з кайзерам Вільгельмам ІІ (у цэнтры).**

WIKIMEDIA COMMONS

падзеі. Напрыклад, на вядомую тэлеграму, нібыта адпраўленую нямецкаму кайзеру Вільгельму ІІ Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 красавіка 1918 года. Ужо сто гадоў факт складання і адсылкі гэтага дакумента актыўна выкарыстоўваецца праціўнікамі беларускай нацыянальнай ідэі, каб дыскрэдытаваць усю дзейнасць кіраўніцтва БНР. Пры гэтым не ставіцца пытанне: а ці дайшла ўвогуле гэтая тэлеграма да адрасата? Ці мела яна хоць нейкія наступствы для ўзаемадачыненняў германскіх акупацыйных уладаў і беларускіх палітыкаў?

Паводле Дорнфэльта і Зэвальда, беларускай дэлегацыі падчас перадачы тэлеграмы быў дадзены адказ, што дакумент будзе адпраўлены кайзеру службовым шляхам. Адначасова беларусам звярнулі ўвагу на патрабаванні цэнзуры — з мэтай не дапусціць публікацыі дакумента. Пасля гэтага генерал пяхоты Эрых Людэндорф, які ў той час займаў пасаду намесніка Гіндэнбурга, тэлеграфаваў пра атрыманне тэлеграмы ў міністэрства замежных спраў Германіі, адзначыўшы, што беларускі рух не збіраецца прызнаваць мяжу, вызначаную Брэсцкай дамовай. Таму яго дзейнасць на захад ад вызначанай лініі дапускацца не можа, а на ўсход ад яе гэтая дзейнасць — унутраная справа Расіі.

«У сувязі з гэтым, — працягваў Людэндорф, — лічу мэтазгодным адхіліць спробы далейшых перамоў і не рабіць захадаў наконт перадачы дакумента Яго Імператарскай Вялікасці».

Германскае МЗС гэту думку падтрымала: там таксама лічылі, што Брэсцкая мірная дамова перашкаджае нямецкаму ўраду прыхільна паставіцца да жаданняў беларусаў. Маўляў, «яны мусілі б спачатку звярнуцца да расійскага ўрада і дамагчыся ад яго сваёй незалежнасці і аддзялення ад Расіі».

З гэтага вынікае, па-першае, тое, што кайзер Вільгельм ІІ тэлеграмы Рады БНР **ніколі не атрымліваў**; па-другое, нямецкае знешнепалітычнае ведамства мела на той час занадта шчыльныя кантакты з савецкім урадам у Маскве, каб пайсці супраць жаданняў Леніна і Троцкага.

### У вайскоўцаў свая гульня

Здавалася б, гэтым самым шлях да далейшых перамоў кіраўніцтва БНР з найвышэйшымі нямецкімі ўладамі быў закрыты. Але не ўсё было так адназначна, бо пазіцыя вышэйзгаданага генерала Людэндорфа па розных палітычных пытаннях усё больш разыходзілася з пазіцыяй яго непасрэднага шэфа, генерал-фельдмаршала Гіндэнбурга. На баку апошняга быў і генерал пяхоты Эрых фон Фалькенгайн, камандуючы 10-й германскай арміяй, якая тады кантралявала большую частку Беларусі і Літвы. Таму гэтыя военачальнікі вялі ў беларускім пытанні сваю гульню. ▶

27 мая 1918 года Фалькенгайн у сваёй мінскай рэзідэнцыі прыняў дэлегацыю Народнага сакратарыята БНР у складзе яго старшыні і сакратара замежных спраў Язэпа Варонкі, сакратара народнай гаспадаркі Івана Серады, намесніка народнага сакратара ўнутраных спраў Антона Аўсяніка і дэлегата Рады БНР Паўла Алексюка. Падчас сустрэчы нямецкі генерал і кіраўнікі БНР абмяркоўвалі самыя надзённыя пытанні ажыццяўлення ўлады на тэрыторыі Беларусі, занятай нямецкімі войскамі.

Сустрэча працягвалася дзве гадзіны і праходзіла ў прыязнай атмасферы. У сваёй уступнай прамове генерал Фалькенгайн адзначыў «прыхільнае стаўленне германскага ўрада да адраджэння Беларусі» і заўважыў, што «тыя непаразуменні, якія ўзніклі, былі вынікам таго, што дагэтуль не існавала сяброўскіх узаемаадносін паміж германскімі вайсковымі ўладамі і беларускімі арганізацыямі». Цяпер жа, маўляў, трэба «як найхутчэй усталяваць шчыльны кантакт з беларускімі найвышэйшымі ўладамі, мэтай

**Брэсцкі мір**
мірная дамова Савецкай Расіі з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй і Турцыяй, падпісаная ў Брэст-Літоўску 3 сакавіка 1918 года. Дамова дазваляла Расіі выйсці з Першай сусветнай вайны на крайне нявыгадных для сябе ўмовах. Ад Расіі паводле гэтага міру аддзяліліся і пераходзілі пад кіраванне Германіі Курляндыя, Літва, Ліфляндыя, Эстляндыя і частка Беларусі, а Украінская Народная Рэспубліка і Фінляндыя прызнаваліся самастойнымі дзяржавамі. Акрамя таго, Савецкая Расія абавязаная была дэмабілізаваць армію і флот, ёй навязваліся нераўнапраўныя эканамічныя пагадненні.


WIKIMEDIA COMMONS

Генерал Эрых фон Фалькенгайн.

якога павінны стаць культурны рост і прагрэс поспехаў Народнага сакратарыята і Рады».

Язэп Варонка, узяўшы слова пасля гаспадара рэзідэнцыі, падзякаваў генералу за прыхільнае стаўленне адносна пабудовы беларускай дзяржаўнасці, адзначыў пазітыўнае адрозненне ў гэтым плане немцаў ад урада царскай Расіі і выказаў спадзяванне на далейшае канструктыўнае супрацоўніцтва. Заканчэнне ж сустрэчы было ўвогуле амаль «сямейнае»: «Генерал распытаў дэлегацыю пра паходжанне прадстаўнікоў Народнага сакратарыята. Ён пацікавіўся складам Рады і лёсам удзельнікаў Усебеларускага з'езда... Гаворка ішла аб прыгажосці Беларусі, барысаўскіх і бабруйскіх лясоў, падобных да якіх у Германіі няма, а таксама пра магчымасці аднаўлення апусцелых тэрыторый».

І на гэтым усё не скончылася. Праз месяц, 21 чэрвеня 1918 года, начальнік штаба галоўнакамандуючага Макс Штапф і Язэп Варонка мелі двухгадзінную размову па актуальных тэмах. Першым пунктам падчас яе стала арганізацыя пры спрыянні нямецкага боку выезду спецыяльнай місіі Народнага сакратарыята ў Маскву з мэтай паведаміць Савету народных камісараў Савецкай Расіі пра незалежнасць БНР і яе аддзяленне ад Расіі з перадачай адпаведнага абгрунтавання такога кроку.

### «Да Беларусі мы не маем інтарэсу...»

Але паездка місіі Народнага сакратарыята БНР у Маскву тады не адбылася, і не толькі таму, што гэтага не хацелі бальшавікі. Найперш гэтаму нібыта перашкаджала пазіцыя ключавой асобы ў міністэрстве замежных спраў тагачаснай Германіі, статс-сакратара (міністра) Рыхарда фон Кюльмана. Ён, жадаючы ўмацавання зафіксаваных у Брэсце дамоўных адносін з Расіяй, у той момант не хацеў аслаблення бальшавіцкага рэжыму, а таму і не падтрымліваў ніякіх сепаратысцкіх памкненняў народаў былой Расійскай імперыі без узгаднення з Масквой.

**«Беларускае пытанне настолькі расплывістае, што немагчыма даць яму колькі-небудзь выразную ацэнку»**

Выступаючы ў рэйхстагу 24 чэрвеня 1918 года, фон Кюльман наўпрост казаў, што трэба «перад тым, як канчаткова



1918, 25, IV.

146

AN SEINE MAJESTÄT DEN DEUTSCHEN KAISER.

Die RADA der Weissruthenischen Volks-Republik - als erwählte Vertreterin des Weissruthenischen Volkes wendet sich an EURE MAJESTÄT mit Worten tiefgefühlten Dankes für die Erlösung von Weissruthenien durch Deutschen Truppen aus tiefster Bedrängniss durch fremdherrschaftliche Gewalt und Anarchie.

Die RADA der Weissruthenischen Volks-Republik hat die Unabhängigkeit und Unteilbarkeit des ganzen und ungeteilten Weissrutheniens erklärt und bittet EURE MAJESTÄT um Schutz für ihre Bestrebungen nach Befestigung der staatlichen Unabhängigkeit und Unteilbarkeit des Landes im Bunde mit dem DEUTSCHEN REICH.

Nur unter dem Schutz des DEUTSCHEN REICHS sieht die Rada ~~das Land~~ das Heil Ihres Landes ~~sein~~ Heil in der Zukunft.

Präsident der RADA Iwan Ssereda.

Präsident des Sekretariats Jasep Waronka.

Mitglieder der RADA: Roman von Skirmunt
Anton Owssjanik
Pauluk Aleksiuk
~~Peter~~ Piotra Kretschewski
Jasep Lossik.

Minsk. den 25 April 1918.



**Чарнавік тэлеграмы Рады БНР германскаму кайзеру.** 25 красавіка 1918 года.

## Артыкул 4 «Расійска-германскай дадатковай дамовы да мірнай дамовы» ад 27 жніўня 1918 года

«Паколькі ў Мірнай дамове ці ў гэтай дадатковай дамове не пастаноўлена іншага, Германія аніякім чынам не будзе ўмешвацца ў адносіны паміж Расійскай дзяржавай і яе асобнымі абласцямі, і, такім чынам, яна ў асаблівасці не будзе ні выклікаць, ні падтрымліваць утварэння самастойных дзяржаўных арганізмаў у гэтых абласцях».

прызнаць на дыпламатычным узроўні дзяржаўныя ўтварэнні, што адлучыліся ад цела былой Расійскай імперыі, дэталёва і падрабязна абмяркоўваць з савецкім урадам у Маскве, ці магло б быць, а калі магло б — то пры якіх акалічнасцях, дапушчана прызнанне такіх дзяржаўных новаўтварэнняў».

Саветы ж, пагаджаючыся на самастойнасць Эстоніі і Латвіі, у якасці кампенсацыі чакалі саступак ад Германіі ў Беларусі і на поўдні Расіі. На што фон Кюльман адказваў: «Да Беларусі мы не маем непасрэднага інтарэсу, як і ... да Кубані ды земляў донскіх казакоў». Гэта было фактычна зафіксавана ў артыкуле 4 «Расійска-германскай дадатковай дамовы да мірнай дамовы», падпісанай прадстаўнікамі кайзераўскага і ленінскага ўрадаў 27 жніўня 1918 года ў Берліне.

За гэтую згоду ахвяраваць нацыянальнымі інтарэсамі Беларусі і іншых частак былой Расійскай імперыі, што абвясцілі суверэнітэт, нямецкі ўрад павінен быў атрымаць ад савецкага 6 мільярдаў марак «кампенсацыі». Дорнфэльт і Зэвальд пішуць, што «першыя два вагоны з золатам былі перададзеныя немцам на станцыі Орша пунктуальна», адразу ж пасля ратыфікацыі пагаднення 6 верасня 1918 года. Тады ж пачаўся адвод германскіх войскаў з вялікай часткі беларускіх тэрыторый. Як сведчаць дакументы, нямецкія дыпламаты разлічвалі (як аказалася, дарэмна!), што бальшавіцкая ўлада ў Маскве ў агляднай перспектыве сама абрынецца пад цяжарам уласных памылак і няздольнасці да кіравання, а гэта ў выніку дазволіць Германіі ашчадзіць вялікія грошы ды іншыя рэсурсы. ▶

Кіраўніцтва ж БНР нейкі час яшчэ лічыла, што ранейшыя дамоўленасці са штабам генерала фон Фалькенгайна застаюцца ў сіле. Але неўзабаве чуткі пра дамоўленасць паміж бальшавікамі і кайзерам аб адводзе нямецкіх войскаў усё ж дайшлі і да Мінска і «выклікалі там панічныя настроі». Ад імя мінскага дваранскага сходу на адрас германскага кайзера 1 кастрычніка 1918 года за подпісам губернскага маршалка шляхты графа Георга Чапскага, шасці павятовых маршалкаў і яшчэ дзевяці чалавек быў накіраваны адпаведны зварот, у якім выказвалася занепакоенасць пагрозай «бясконцых закалотаў і непазбежнай анархіі».

Аднак на той момант, пасля буйных паразаў Германіі на Заходнім фронце, кайзер ужо фактычна страціў рэальную ўладу. Пагадзіўшыся ў пачатку кастрычніка з утварэннем у Германіі парламенцкай формы кіравання, ён мусіў прыняць і сфармуляваныя 8 студзеня 1918 года ў пасланні да Кангрэса «Чатырнаццаць пунктаў» амерыканскага прэзідэнта Вудра Вільсана, шосты з якіх прадугледжваў «вызваленне расійскай тэрыторыі ад нямецкіх войскаў».

Нямецкія архівы захоўваюць шэраг зваротаў, у якіх самыя розныя асобы просяць амерыканскага прэзідэнта падчас перамоваў з германскім урадам пагадзіцца на тое, каб нямецкія войскі пакінулі пад сваім кантролем усю тэрыторыю Беларусі з мэтай пазбегнуць там «жахлівага бальшавіцкага панавання». На адным з такіх зваротаў побач стаяць подпісы мінскага праваслаўнага архіепіскапа Георгія і прадстаўніка Рады БНР Паўла Алексюка.



WIKIMEDIA COMMONS

**Парад нямецкіх войскаў** на пляцы Волі ў Мінску прымае генерал Эрых фон Фалькенгайн.

Сваю заклапочанасць з нагоды пераходу тэрыторыі Беларусі пад бальшавіцкі кантроль выказаў нават папа Бенедыкт XV. Але ў адказ пантыфіку было даслана паведамленне, што ў сітуацыі, якая склалася, «захады ўрада кайзера, на жаль, выглядаюць бесперспектыўнымі».

**У архівах захаваліся звароты розных асоб да прэзідэнта ЗША з просьбай пагадзіцца, каб нямецкія войскі пакінулі пад сваім кантролем усю Беларусь з мэтай пазбегнуць там «жахлівага бальшавіцкага панавання»**

### Адносіны без суб'ектнасці

Лістападаўская рэвалюцыя 1918 года ў Германіі істотным чынам змяніла расклады ў замежнай палітыцы: нават пасля скасавання Масквой Брэсцкага міру ўвага афіцыйнага Берліна да таго, што робіцца на ўсходзе, істотна аслабла. Немцам яўна стала не да таго.

Дый слабасць беларускага руху ў якасці партнёра не магла натхняць немцаў да працягу актыўных дзеянняў у гэтым кірунку. Статс-сакратар германскага знешнепалітычнага ведамства на запыт міністэрства абароны па беларускай праблематыцы наўпрост напісаў: «Беларускі ўрад не прызнаны ані дэ-юрэ, ані дэ-факта. Ён не мае ў сваім распараджэнні ані тэрыторыі, ані вартых увагі грашовых сродкаў. Няма неабходных передумоў дзеля стварэння сваёй арміі. Беларускае пытанне настолькі расплывістае, што немагчыма даць яму колькі-небудзь выразную ацэнку». Таму адзінае, што маглі зрабіць і зрабілі ў той час немцы для беларусаў, — дазволіць працаваць у берлінскім раёне Шонеберг па адрасе Мотцштрасэ, 21 неафіцыйнай надзвычайнай місіі БНР пад назвай «Беларускае прэс-бюро» на чале з Леанардам Зайцам.

А далейшыя зносіны канстытуцыйна аформленай улетку 1919 года Веймарскай рэспублікі з Беларуссю эвалюцыянавалі ў бок змушанага фармальнага прызнання Германіяй створанай бальшавікамі Беларускай ССР. Гэта было запачаткавана расійска-нямецкім пактам, падпісаным 16 красавіка 1922 года ў італьянскім Рапала. Фармальна Савецкага Саюза тады яшчэ не існавала, і дамова фіксавала неабходнасць усталявання паўнавартасных дыпламатычных зносін паміж Веймарскай рэспублікай і Савецкай Расіяй. Але ў лістападзе

1922 года яе дзеянне было распаўсюджана і на іншыя савецкія рэспублікі, фармальна тады незалежныя і звязаныя з РСФСР толькі вайскова-палітычнымі пагадненнямі: Беларускую ССР, Украінскую ССР і Закаўказскую СФСР.

І гэта не было адменена нават пасля таго, як СССР 30 снежня 1922 года быў створаны і ўсе пералічаныя рэспублікі афіцыйна сталі часткамі адзінай дзяржавы. 15 лютага 1923-га старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў накіраваў праз расійскае паўнамоцнае прадстаўніцтва ў Берлін дакумент, якім паведамляў аб прызначэнні паўнамоцным прадстаўніком БССР пры ўрадзе Германскай Рэспублікі Мікалая Красцінскага.

Праўда, гэты акт цяжка лічыць праявай нейкай дыпламатычнай самастойнасці БССР. Красцінскі, хоць і нарадзіўся ў беларускім Магілёве, усе свае сілы паклаў на служэнне расійскім бальшавікам. Сёння мы не ведаем фактаў, каб ён хоць бы нейкім чынам адстойваў у Берліне правы менавіта беларусаў. А ў Мінску, як адзначаецца ў кнізе Дорнфэльта і Зэвальда, ніякага нямецкага консульства ці іншага дзяржаўнага прадстаўніцтва ў той час створана так і не было.

У сувязі з гэтым аўтары кнігі ў апошнім раздзеле крытыкуюць тэкст заключанага 13 сакавіка 1992 года пагаднення паміж Федэратыўнай Рэспублікай Германіяй і Рэспублікай Беларусь пра тое, што дзяржавы «аднаўляюць» дыпламатычныя адносіны. «Аднаўлення дыпламатычных адносін не было, — лічаць Дорнфэльт і Зэвальд, — паколькі Германія і Беларусь да таго часу не мелі афіцыйных кантактаў у якасці суб’ектаў». ◆

# Усталяваць ці аднавіць?

**Пра тое, як у пачатку 1990-х паміж беларусамі і немцамі пры падрыхтоўцы пагаднення аб дыпламатычных адносінах вялася прынцыповая тэрміналагічная спрэчка, згадвае былы старшыня камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Беларусі XII склікання і першы амбасадар Беларусі ў Германіі (1992–1994) Пётра Садоўскі**:

«У трактоўцы характару беларуска-нямецкіх дыпламатычных адносін у нямецкага і беларускага боку на той час былі разыходжанні. 13 сакавіка 1992 года падпісвалася “Пагадненне аб дыпламатычных адносінах паміж Рэспублікай Беларусь і Федэратыўнай Рэспублікай Германія”. Не маглі паразумецца, якія дзеясловы ўжыць у пратакольным тэксце для канстатацыі гэтага факта — *herstellen* (устанавіць, усталяваць) ці *wiederherstellen* (аднавіць).

Наш беларускі пункт погляду, аб “аднаўленні”, артыкуляваўся міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам. Немцы суха канстатавалі, што БССР на пачатку 20-х гадоў не была суб’ектам міжнароднага права і нічога сама не вырашала на міжнародным узроўні, што ўсе далейшыя адносіны з Германіяй не каардынаваліся з іншымі саюзнымі рэспублікамі, акрамя РСФСР. Спасылка нашага міністра на ратыфікацыю ўрадам БССР Рапальскай дамовы ад 16 красавіка 1922 года ўжо як суб’ектам міжнароднага права таксама выклікала пярэчанні. Рапальскае пагадненне, на погляд нямецкага боку, было падпісана РСФСР, а на астатнія тры рэспублікі — БССР, УССР і ЗСФСР — было проста пашырана высілкамі Масквы (5 лістапада 1922 года) без канстатацыі факта іх міжнароднай суб’ектнасці. Гэтыя тры савецкія рэспублікі само пагадненне не падпісвалі, а толькі ратыфікавалі паводле каманды з Масквы.

Атрымалася так, што наш Пятро Краўчанка, кіруючыся свежым незалежніцкім імпэтам, усё ж такі “дацінуў” нямецкі бок, і ў двухбаковым пагадненні ўсё ж запісалі, што яны былі *wiederhergestellt* (адноўленыя). Хоць мне асабіста, па шчырасці, гэта было не вельмі даспадобы. Праз гэта мы неяк улазілі ў “бетонную” бэсэсэраўскую гісторыю, у той час як мне мроілася новая БНР. Але ў той жа час мне быў сімпатычны такі імпэт спадара Краўчанкі як першага міністра замежных спраў незалежнай Беларусі.

А немцы, пагадзіўшыся на слова “адноўленыя” ў тэорыі, на практыцы моўчкі ціснулі сваю лінію далей. Ва ўсіх дзелавых паперах, інфармацыі для грамадскасці, у “Дыпламатычным кур’еры”, выдадзеным у Боне ў 1993 годзе, паведамлялася, што ў 1992-м з Беларуссю дыпламатычныя адносіны былі “ўсталяваныя” (*hergestellt*). Я гэта заўважыў, але завастраць пытанне, робячы нейкія дэмаршы, не хацеў, а кіраўніцтву МЗС пра тое ўвогуле не казаў, пагатоў акурат тады мы мелі праблемы з будынкам для рэзідэнцыі амбасады.

Збольшага тэрмін “усталяванне” выкарыстоўваўся немцамі і пасля. Аднак у 2017 годзе, калі адзначалася 25-годдзе нашых дыпламатычных дачыненняў у новы час, у запрашэнні на прыём з нагоды юбілею, выпісаным ад імя амбасадара Петэра Дэтмара, гаварылася ўжо пра “аднаўленне” дыпламатычных адносін. Значыла гэта нешта ці не? На маё пытанне спадар Дэтмар толькі ўсміхнуўся, сказаўшы: “Галоўнае, заставайцеся беларусамі...”».

SHUTTERSTOCK.COM, BY MILEN DOBREV

# Паўтара стагоддзя паміж Захадам і Р

**Чаму Балгарыя мяняла саюзнікаў? Не толькі таму, што хацела арыентавацца на передавыя краіны, піша Андрэй Акушка.**

Пасля доўгай турэцкай акупацыі ў 1877 годзе Балгарыя пачала шлях да незалежнасці. У гэтым ёй дапамагла расійская армія. Але потым Балгарыя часцяком ішла супраць рускіх. Падчас сусветных войнаў балгары ваявалі на баку Германіі, а пасля былі вымушаныя будаваць сацыялізм. Цяпер Балгарыя зноў стала часткай Еўропы і не збіраецца вяртацца ў «братэрскія абдымкі».

## Шлях да незалежнасці

У першай трэці XV стагоддзя, калі ў Вялікім Княстве Літоўскім кіраваў Вітаўт, Балгарыя стала часткай Асманскай імперыі. Толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў балгар з'явіўся шанец вярнуць незалежнасць. Турцыя слабела і адставала. Усё канчаткова вырашылася пасля расійска-турэцкай вайны 1877–1878 гадоў. Балгары сустракалі расійскую армію з хлебам-соллю. І нездарма: пасля яе перамогі на карце свету зноў з'явілася дзяржава пад назвай Балгарыя.

У Пецярбурзе думалі, што эліта гэтай маленькай краіны будзе пажыццёва славіць Расію. Аднак імперыя сама даволі хутка дала першую нагоду засумнявацца ў моцы сяброўскіх адносін, калі адступілася ад Сан-Стэфанскай мірнай дамовы 1878 года. Дамова прадугледжвала стварэнне Вялікай Балгарыі, у якую ўваходзілі часткі сучасных Грэцыі, Паўночнай Македоніі і Сербіі. Але заходнія дзяржавы ўгаварылі Расію пагадзіцца на іншы, Берлінскі мір.

У выніку вялізныя этнічна балгарскія тэрыторыі засталіся пад туркамі, а рэшту падзялілі на дзве часткі. Першая, Усходняя Румелія са сталіцай у Плоўдзіве, стала аўтаномнай правінцыяй пад асманамі. Другая, Княства

**Помнік-музей на гары Бузлуджа.** Тут у 1891 годзе адбыўся першы з'езд Балгарскай сацыял-дэмакратычнай рабочай — пазней камуністычнай — партыі. З 1971 да 1981 года камуністычны ўрад пабудаваў на пустыннай вяршыні гары гіганцкі помнік. Цяпер ён стаіць закінуты.

# Расіяй

Балгарыя на чале з князем Аляксандрам Батэнбергам, ператварылася ў васала султана. Эліта краіны была расчараваная такімі саступкамі, вінавацячы ў іх і Захад, і Расію.

З таго часу ў княстве ідэяй-фікс стала аб'яднанне ўсіх зямель, дзе жылі балгары. І першай мэтай была Усходняя Румелія. У верасні 1885 года жаўнеры пад камандаваннем Данаіла Мікалаева (былога расійскага вайскоўца) арыштавалі генерал-губернатара ў Плоўдзіве і аб'явілі пра ўз'яднанне паўднёвай Балгарыі з паўночнай.

Гэта абурыла расійскае кіраўніцтва. Як так, малодшы брат самастойна вырашае свой лёс? Расійскі імператар вымусіў балгарскага князя адмовіцца ад трона і пакінуць дзяржаву.

## Масква хацела Канстанцінопаль сабе

Адразу пасля аб'яднання падбухтораная аўстрыйцамі Сербія напала на суседку. Расія аб'явіла, што не жадае рабіць выбар паміж братэрскімі краінамі і адклікала сваіх афіцэраў з балгарскай арміі. У сербаў на той час ужо быў паўнавартасны афіцэрскі корпус, таму канфлікт празвалі «вайной генералаў супраць капітанаў». Балгарскія капітаны перамаглі, але запомнілі той удар у спіну. Пазней яны стануць прыхільнікамі ідэі ваяваць супраць Сербіі і Расіі ў Першай сусветнай.

Раззлаваны імператар Аляксандр III вырашыў пакараць «здраднікаў», якія яшчэ і новага цара абралі без яго згоды, і разарваў з Балгарыяй дыпламатычныя адносіны. Ён меркаваў, што без падтрымкі Расіі маленькая краіна папросту не выжыве.

**Імператар Мікалай II спачатку быў супраць незалежнасці Балгарыі**

Гэта было на карысць заходнім дзяржавам, якія прапанавалі маладой краіне фінансавую і міжнародную падтрымку. Расійскі пісьменнік і журналіст Барыс Тагееў, які наведаў Сафію ў 1903-м, расказваў, што думаў трапіць у невялікае азіяцкае мястэчка. Але пабачыў еўрапейскі горад з электрычнымі трамваямі, вялізнымі крамамі, універсітэтам, бібліятэкамі, тэатрамі... Балгарыя за кошт заходніх крэдытаў развівалася неймавернымі тэмпамі. Будаваліся дарогі і парты, 78% насельніцтва сталі пісьменнымі, а мясцовых жаўнераў за іх дысцыплінаванасць называлі «балканскімі немцамі». ▶

## Балгарыя

У Сярэднявеччы балгары мелі магутнае царства. Але на чатыры з паловай стагоддзі (1422–1878) трапілі пад акупацыю Асманскай імперыі.

**Па тэрыторыі** (111 тыс. кв. км), Балгарыя трохі большая за палову тэрыторыі Беларусі.

У Балгарыі жыве каля 7 мільёнаў чалавек. Гэта на два мільёны менш, чым было ў 1990-м. Прадстаўнікі тытульнай нацыі складаюць больш за 80%, яшчэ 8% прыходзіцца на нашчадкаў былога імперскага народа — турак. Трэцім па памерах народам з'яўляюцца цыганы (4%).

**Сярэдні заробак цяпер** ужо прыкладна на 40% вышэйшы, чым у Беларусі, хоць Балгарыя застаецца самай беднай краінай Еўрасаюза.

**Прырода Балгарыі** вельмі разнастайная. Яна адметная і высокімі гарамі, і ўзбярэжжам Чорнага мора з добрымі курортамі.



SHUTTERSTOCK.COM, BY PAVALENA

## Асноўныя даты з гісторыі Балгарыі

**II—I тысячагоддзі да н. э.** — на тэрыторыі сучаснай Балгарыі існуюць дзяржавы старажытных фракійцаў, якія падвяргаюцца грэчаскай каланізацыі

**475 да н. э. – 46 н. э** — існаванне фракійскага Одрыскага царства

**46** — Одрыскае царства ўключана ў склад Рымскай імперыі, уваходзіла ў правінцыі Фракія, Мёзія і Малая Скіфія

**395** — пасля падзелу Рымскай імперыі тэрыторыя сучаснай Балгарыі ўвайшла ў склад Візантыі

**VI—VII стагоддзі** — перасяленне на тэрыторыю цяперашняй Балгарыі славянскіх плямён і культурная асіміляцыя імі аўтахтонаў

**VII стагоддзе** — міграцыя на Балканы з усходнееўрапейскіх стэпаў цюркскіх плямёнаў протабалгар на чале з ханам Аспарухам, падпарадкаванне імі славянскага насельніцтва і заснаванне дзяржавы

**681—1018** — цюркі славянізуюцца, узнікае Першае Балгарскае царства, на чале яго стаяць цюркскія ханы, але культурна яно славянскае. На піку магутнасці яно займала большую частку Балканскага паўвострава і мела выхад да чатырох мораў: Чорнага, Міжземнага, Эгейскага і Адрыятычнага

**864** — пачалося хрышчэнне балгар паводле ўсходняга хрысціянскага абраду

**1018** — Балгарыя патрапіла пад уладу Візантыі

**1185** — у выніку паўстання пад кіраўніцтвам братоў Пятра, Асеня і Калаяна ўзнікла Другое Балгарскае царства са сталіцай у горадзе Тырнава

**1395** — Другое Балгарскае царства заваявана Асманскай імперыяй, балгары трапілі пад турэцкае «ярмо»

**Канец XVIII стагоддзя** — пачатак балгарскага нацыянальнага адраджэння і змагання за незалежнасць

**1878** — па выніках Сан-Стэфанскага міру і Берлінскага трактата, якія скончылі расійска-турэцкую вайну 1877–1878 гадоў, Балгарыя аднавіла сваю дзяржаўнасць у выглядзе васальнага Балгарскага княства ў абмежаваных граніцах

**6 верасня 1885** — аб'яднанне Балгарскага княства з Усходняй Румеліяй

**5 кастрычніка 1908** — абвяшчэнне незалежнасці Балгарыі і ператварэнне яе ў царства

**1912—1913** — Першая і Другая Балканскія войны, у ходзе якіх Балгарыя спачатку значна пашырыла сваю тэрыторыю, але ў выніку прайграла

**1915—1918** — удзел у Першай сусветнай вайне на баку Траістага саюза, страта па яе выніках часткі тэрыторыі

**1 сакавіка 1941** — далучэнне Балгарыі да Траістага пакта паміж Германіяй, Італіяй і Японіяй, але з умовай няўдзелу балгарскай арміі ў ваенных дзеяннях

**8 верасня 1944** — уступленне на тэрыторыю Балгарыі савецкіх войскаў, пераход улады ў рукі камуністаў і іх саюзнікаў

**15 верасня 1946** — абвяшчэнне Народнай Рэспублікі Балгарыя, якая стала савецкім сатэлітам

**Канец 1980-х — пачатак 1990-х** — дэмакратычныя пераўтварэнні і мірная трансфармацыя ўлады, пераход да рэальнай шматпартыйнасці

**15 лістапада 1990** — Народная Рэспубліка Балгарыя перайменавана ў Рэспубліку Балгарыя, робіцца дэмакратыяй

**29 сакавіка 2004** — далучэнне да НАТО

**1 студзеня 2007** — далучэнне да Еўрасаюза

**Балгарскіх жаўнераў за іх дысцыплінаванасць называлі «балканскімі немцамі»**

Пецярбург пайшоў супраць малодшага брата і ў замежнай палітыцы. Ён не падтрымаў далучэнне да Балгарыі Македоніі, якую балгары лічылі сваёй. У гэтым быў адмысловы разлік. Як пісаў пасланнік у Сафіі Анатоль Няклюдаў, «для нас і сербаў вельмі важна, каб Балгарыя не была тэрытарыяльна закончаным арганізмам». Бо калі ў Сафіі не будзе мэтаў на захадзе і поўдні, яна, маўляў, пачне глядзець у бок Канстанцінопаля, а гэта перашкодзіць Расіі забраць сабе гэты горад разам з чарнаморскімі пралівамі. У той час Расія сур'ёзна ставіла сабе такую мэту.

Імператар Мікалай II спачатку быў супраць і незалежнасці, якую краіна абвясціла ў 1908-м.

### Дзве нацыянальныя катастрофы

Пазбегнуць войнаў на Балканах не ўдалося. У першай (1912—1913) кааліцыя Балгарыі, Грэцыі, Сербіі і Чарнагорыі перамагла турак. Балгары значна пашырылі сваю тэрыторыю, заняўшы Фракію з выхадам да Эгейскага мора і частку Македоніі. У другой (1913) амбіцыйным балгарам давялося змагацца ўжо супраць былых саюзнікаў і Румыніі. Гэтую вайну краіна прайграла і страціла частку захопленых зямель. Паразу ў Балгарыі назвалі Першай




**Стара-Планіна: горы шмат значаць для балгарскай ідэнтычнасці.** На фота: занядбаны манумент ушанавання Камуністычнай партыі на гары Бузлуджа. На гэтай самай гары адбыўся адчайны бой 30 балгарскіх паўстанцаў-чэтнікаў супраць турак у 1868 годзе.

## Балгарска-«нямецкія» цары

Першым князем незалежнай Балгарыі стаў Аляксандр Батэнберг. Ён паходзіў з нямецкай дынастыі Батэнбергаў і быў родзічам еўрапейскіх манархаў і расійскага імператара Аляксандра II. Абіраць нямецкіх прынцаў на троны наваствораных краін тады было модна, і Балгарыя не стала выключэннем. Батэнберг кіраваў краінай з 1878 па 1886 год і сышоў па патрабаванні Расіі.

Пасля яго на троне апынулася іншая нямецкая дынастыя — Саксэн-Кобург-Гоцкая. Цяпер яе прадстаўнікі займаюць каралеўскія троны ў Бельгіі і Вялікабрытаніі (у апошняй як Віндзары). Першым князем (з 1908-га царом) стаў Фердынанд I. Расія была супраць яго абрання, але балгары пайшлі ёй насуперак. Пры Фердынандзе краіна развівалася эканамічна і набыла новыя тэрыторыі. Але і прайграла дзве вайны. З-за гэтага Фердынанд I у 1918 годзе адрокся ад трона і з'ехаў у выгнанне. Памёр ён толькі ў 1948-м.

Царом пасля Фердынанда стаў ягоны сын Барыс III. У маленстве яго, каталіка, перахрысцілі ў праваслаўе, хросным бацькам стаў расійскі імператар Мікалай II. Доўгі час цар быў марыянеткай у руках дасведчаных палітыкаў, пакуль не здзейсніў пераварот у 1934-м. За далучэнне тэрыторый суседніх дзяржаў у часы Другой сусветнай ён атрымаў мянушку Аб'яднаўца. Да канца вайны цар не дажыў і памёр у 1943-м. Ёсць версія, што яго атруцілі немцы, даведаўшыся, што Барыс III жадае перабегчы да саюзнікаў.

Апошнім царом Балгарыі стаў Сімяон II, якому на час каранацыі было толькі 6 гадоў. Рэальна кіраваць як манарху яму не давялося, бо Балгарыя ў 1946 годзе стала рэспублікай. Былы цар пасля вайны жыў у Іспаніі, але ў 2001 годзе трыумфальна вярнуўся ў балгарскую палітыку, калі ягоная партыя пад назвай «Нацыянальны рух Сімяона II» выйграла парламенцкія выбары. І ўзначальваў урад да 2005-га.

нацыянальнай катастрофай. І абвінавацілі ў ёй не толькі свае амбіцыі, але і Расію, што падтрымала сербаў і румын. Таму многія думалі, што ў 1914-м Балгарыя адразу падтрымае Аўстра-Венгрыю і Германію.

Але Сафія вырашыла выслухаць прапановы абодвух альянсаў. Антанта прапанавала толькі невялікія кавалачкі зямлі ў турэцкай Фракіі. Германія абяцала больш: прымежныя тэрыторыі Грэцыі, Румыніі і Сербіі. Цар вагаўся, але ў кастрычніку 1915-га ўсё ж аб'явіў вайну Антанце.

Спачатку ўсё ішло добра — «балканскія немцы» дапамаглі разграміць Сербію і Румынію. У расіян здарылася істэрыка, і яны кінуліся пісаць артыкулы пра «тройчы праклятую Балгарыю». Сафійская прэса не адставала: «Мы павінны выкараніць усе сляды расійскага ўплыву». Дайшло і да сутыкненняў ▸

## «Бесарабская Балгарыя»

Калі ў XVIII стагоддзі Расійская імперыя заявіла пра сябе як пра абаронцу інтарэсаў хрысціянскага праваслаўнага насельніцтва на Балканах, адной з формаў дапамогі было спрыянне гэтаму насельніцтву ў перасяленні з Асманскай імперыі на тэрыторыі, падуладныя расійскаму імператару. Асаблівы размах гэты працэс набыў з пачатку XIX стагоддзя. Калі ў выніку расійска-турэцкай вайны 1806–1812 гадоў па выніках Бухарэсцкага міру да Расіі адышла тэрыторыя ўсходняй часткі Малдаўскага княства, т. зв. Бесарабія, балканскія хрысціяне, атрымалі запрашэнне пасяліцца на гэтых землях, апусцелых пасля ўцёкаў у Турцыю буджакскіх татар (нагайцаў).

Цягам некалькіх наступных дзесяцігоддзяў на тэрыторыю Бесарабіі, а таксама Херсонскай і Таўрыйскай губерняў перасяліліся дзясяткі тысяч выхадцаў з Балкан, большасць якіх былі балгарамі (іншыя — гагаузы і албанцы-арнауты). Іх нашчадкі жывуць на гэтых землях і сёння, будучы грамадзянамі Украіны і Малдовы. Згодна з перапісам 2001 года, ва Украіне жыло 204,6 тысячы балгараў, пераважна ў Адэскай (150,6 тысячы) і Запарожскай (27,4 тысячы) абласцях. У Малдове перапіс 2014 года зафіксаваў 51 867 балгараў, пераважна ў паўднёвай частцы краіны.

У абедзвюх краінах ёсць нямала населеных пунктаў і нават цэлых раёнаў, дзе балгары складаюць пераважную большасць насельніцтва. Яны добра захавалі сваю мову і культуру, а ў грамадска-палітычным плане разам з гагаузамі вылучаюцца выразнымі прарасійскімі настроямі. З тых балгараў паходзіць род Шымавых. Уладзімір Шымаў быў міністрам эканомікі Беларусі і рэктарам Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта.

▸ жаўнераў дзвюх краін. Першае здарылася ў верасні 1916-га, калі балгары перамаглі ў штыкавой атацы. Камандаваў імі, па іроніі лёсу, русафіл генерал-лейтэнант Стэфан Тошаў.

Тошава здзівіла, што расіяне адмаўляліся здавацца. Потым стала вядома, што румыны пераканалі рускіх, быццам балгары жорстка забіваюць палонных. Хоць насамрэч усё было інакш: «ворагаў-братоў» балгары нават хавалі разам са сваімі палеглымі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года баі сціхлі, а ў сакавіку 1918-га Савецкая Расія выйшла з вайны. А праз паўгода Балгарыя аказалася сярод краін, якія прайгралі Першую сусветную. Гэта стала Другой нацыянальнай катастрофай, бо краіна канчаткова страціла выхад да Эгейскага мора. Але многія жыхары сустрэлі канец вайны з палёгкай.

### Пакт аб узаемадапамозе? Дзякуй, не трэба

У першыя міжваенныя гады Балгарыя стала ізгоем. СССР ёй не цікавіўся, калі не лічыць няўдалых спробаў экспарту рэвалюцыі. Не давяралі былому ворагу і дзяржавы Антанты. Аднаўленне эканомікі ішло марудна, краіна перажыла некалькі пераваротаў. Цікавасць да Балгарыі вярнулася толькі ў канцы 30-х, калі Германія, Вялікабрытанія і СССР напярэдадні новай вайны пачалі актыўна шукаць саюзнікаў.

Брытанцы хутка выбылі з барацьбы. Балгары жадалі вяртання страчаных тэрыторый, а Лондан не быў гатовы здаць Грэцыю ці Югаславію. СССР змагаўся да апошняга. Ён пагадзіўся падтрымаць прэтэнзіі і прапанаваў пакт аб узаемадапамозе. Але балгары адмовіліся. Яны ўважліва сачылі за дзеяннямі Масквы і бачылі, як аналагічныя дамовы прывялі да пераўтварэння краін Балтыі ў савецкія рэспублікі.

Ваяваць на баку Адольфа Гітлера цар Барыс III таксама не жадаў. Але яму прапанавалі выгадны варыянт, ад якога было немагчыма адмовіцца: немцы самі перамогуць усіх і проста перададуць балгарам спрэчныя тэрыторыі.



Прэзідэнцкі палац у Сафіі.

SHUTTERSTOCK.COM, BY TAKASHI IMAGES




Двойчы — у 1963 і 1973 гадах — Жыўкаў прапаноўваў зрабіць Балгарыю 16-й рэспублікай СССР

## Амаль 16-я рэспубліка

1 сакавіка 1941-га Балгарыя падтрымала Германію, а на наступны дзень на яе тэрыторыю ўвайшла 680-тысячная нямецкая армія. Адсюль яна атакавала Грэцыю і Югаславію, за што балгары атрымалі ўзнагароду. Тэрыторыя краіны павялічылася ў паўтара разу, а насельніцтва — на траціну. Праўда, ненадоўга: у 1944-м да балгарскай мяжы наблізіліся савецкія войскі. У ноч на 8 верасня ў краіне адбылося паўстанне, і часовы ўрад выступіў супраць Трэцяга рэйху. Склалася цікавая сітуацыя: да перамір'я з СССР Балгарыя намінальна ваявала і з ім, і з немцамі.

Ва ўрадзе думалі, што з'явіцца новы шанец абіраць паміж Захадам і Расіяй. Але саюзнікі падзялілі Балканы самастойна. Балгарыя адышла ў сферу ўплыву СССР, з усімі наступствамі пабудовы сацыялізму: расстрэламі ворагаў народа, кіданнем за краты палітычнай апазіцыі, калектывізацыяй і індустрыялізацыяй, жорсткай цэнзурай. Амаль копіямі савецкіх сталі новая канстытуцыя і законы. Толькі пасля прыходу да ўлады ў СССР Мікіты Хрушчова распачалася адліга. Мясцовага Сталіна Вылка Чарвенкава замянілі больш мяккім Тодарам Жыўкавым. У 1962 годзе ў краіне быў ліквідаваны апошні канцлагер.

Прасавецкія і празаходнія гісторыкі дагэтуль спрачаюцца, які быў уплыў СССР на балгарскую эканоміку. З аднаго боку, Савецкі Саюз забараніў балгарам удзельнічаць у амерыканскім «плане Маршала» па аднаўленні Еўропы. Гэты план дазволіў хутка аднавіцца пасля вайны Заходняй Германіі і іншым краінам Захаду, прытым яны захавалі рынкавую эканоміку і дэмакратычны лад. З другога боку, Масква давала Балгарыі крэдыты, дапамагла разбудаваць прамысловасць і ахвотна купляла мясцовыя тавары. Не менш за палову балгарскага гандлёвага абароту прыходзілася тады на СССР. Балгарскае кіраўніцтва разумела, што збегчы на Захад яму не дадуць, а таму трэба сябраваць з Усходам.

Часам гэтае сяброўства прымала незвычайныя формы. Двойчы — у 1963 і 1973 гадах — Жыўкаў прапаноўваў зрабіць Балгарыю 16-й рэспублікай СССР. І двойчы гэта выклікала незадаволенасць яго таварышаў па партыі. Але сумесную міжурадавую камісію па супрацоўніцтве ўсё ж стварылі. Праз некалькі дзесяцігоддзяў Жыўкаў казаў, ▶

### Галоўны балгарскі камуніст

Тодар Жыўкаў нарадзіўся ў 1911 годзе. У падлеткавым узросце ён стаў камсамольцам, а потым і камуністам. Жыўкава неаднойчы арыштоўвалі пры царах, а ў 1944-м ён стаў адным з арганізатараў камуністычнага перавароту. Пасля ён быў мэрам Сафіі, у сярэдзіне 50-х узначаліў Балгарскую камуністычную партыю, а гэтым самым стаў кіраўніком і ўсёй краіны.
Сучаснікі ўспрымалі яго час неадназначна. Адны казалі, што Жыўкаў падаўляў іншадумства і завёў дзяржаву ў эканамічны тупік. Іншыя былі ўпэўненыя, што Жыўкаў — найлепшы кіраўнік.
Ён пастаянна выбіваў з Масквы эканамічную дапамогу, за кошт чаго Балгарыя лічылася не самай горшай з сацыялістычных краін. А змяніць унутраную палітыку Жыўкаў, маўляў, усё адно не мог — яго б тады звергла Масква.
У лістападзе 1989-га са згоды Масквы Жыўкава адхілілі ад улады паплечнікі па партыі. У 1990-м Тодара арыштавалі і судзілі, пасадзіўшы пад хатні арышт. У 1996-м былога лідара краіны датэрмінова вызвалілі, а праз два гады ён памёр.

▶ што проста хацеў атрымаць такім чынам ад СССР дадатковую фінансавую падтрымку. Калі гэта праўда, то тактыка спрацавала. Менавіта Сафію ў Маскве лічылі найлепшым саюзнікам у сацыялістычным лагеры. Балгары ніколі не спрабавалі з яго ўцячы, у адрозненне ад Венгрыі,

ГДР, Польшчы і Чэхаславакіі. За гэта яны атрымлівалі найлепшыя ўмовы крэдытаў, а газ і нафту — са зніжкамі.

### Нашчадкі акупантаў

**Адной з галоўных праблем самастойнай Балгарыі стала турэцкая меншасць — нашчадкі колішніх акупантаў альбо балгар, якія змянілі веру на іслам.** На пачатку XX стагоддзя іх было больш за паўмільёна, і Асманская імперыя неаднаразова пагражала Балгарыі вайной, абяцаючы абараняць «турэцкі мір».
У часы незалежнасці турак чакалі некалькі хваляў балгарызацыі. Першая з іх адбылася на мяжы XIX–XX стагоддзяў, другая — у 30-я гады, а трэцяя — пры камуністах. Адной з прычын стаў напад Турцыі на Кіпр і стварэнне непрызнанай дзяржавы — Паўночнага Кіпра. У Сафіі баяліся, што тое самае здарыцца ў будучыні з іх памежнымі рэгіёнамі. Таму мусульманам змянілі імёны на хрысціянскія, а ў школах пачалі вучыць толькі на балгарскай мове. У выніку да канца 80-х з краіны з'ехалі сотні тысяч турак. Частка з іх пасля, аднак, вярнулася, бо на гістарычнай радзіме новым грамадзянам былі не надта радыя.
У 1990-м у балгарскіх турак з'явілася свая партыя — Рух за правы і свабоды (РПС). На выбарах у тым жа годзе ён стаў трэцім, атрымаўшы 24 мандаты. На пачатку XXI стагоддзя падтрымка РПС паменшала, бо многія яго прыхільнікі эмігравалі ў Турцыю па эканамічных прычынах. Гадоў з дзесяць таму турэцкая партыя дабілася найбольшага поспеху — 38 мандатаў (усяго ў парламенце 240 месцаў). Цяпер у Руху 26 дэпутатаў, і сыходзіць з палітыкі ён не збіраецца.



SHUTTERSTOCK.COM, BY JU1978

**Балгарыя славіцца сваімі чырвонымі вінамі.** Сярод якіх характэрныя: з даліны Дуная гамза — трохі гаркавая; з Фракіі, поўдня краіны, маўруд — які высакародна лепшае з вытрымкай, а з даліны ракі Струма — чырвоны мелнік, віно з ноткамі тытуню, якое асабліва любіў Уінстан Чэрчыль.

## Сафію ў Маскве выдзялялі як найлепшага саюзніка ў сацыялістычным лагеры

Часам удавалася падзарабіць і ў Еўропе. Напрыклад, падчас крызісу 1973-га краіна атрымала неблагія грошы праз рээкспарт савецкай нафты.

Пазней, калі Балгарыя павярнулася да Захаду, многім здавалася, што гэта адбылося раптоўна. Але кантакты з Еўропай пачаліся яшчэ ў 1956-м, калі была заключана першая гандлёвая дамова з ФРГ. Заходняя Германія хутка стала галоўным партнёрам краіны па-за межамі сацыялістычнага лагера.

### Зноў паміж Захадам і Расіяй

У сярэдзіне 80-х, калі Міхаіл Гарбачоў распачаў перабудову ў СССР, сваю версію перабудовы стаў праводзіць і Жыўкаў, хоць і прадчуваў, што для яго гэта скончыцца дрэнна. Так і адбылося: у лістападзе 1989-га састарэлага кіраўніка адправілі ў адстаўку. Краінай пачалі кіраваць ліберальныя палітыкі, хутка запрацавала і шматпартыйнасць. У чэрвені 1990-га прайшлі свабодныя выбары, на якіх перамаглі былыя камуністы — Балгарская сацыялістычная партыя. Іх апаненты з Саюза дэмакратычных сіл занялі другое месца, атрымаўшы

права заняць пасаду прэзідэнта. Ім стаў антыкамуніст Жэлю Жэлеў. Ён прапанаваў як мага хутчэй вярнуцца ў заходнюю цывілізацыю, уступіць у Еўрасаюз і НАТО.

Але шлях туды не быў лёгкім. Рэформы ішлі марудна, бо ўрад баяўся скарачаць сацыяльныя гарантыі. Сітуацыя горшала, а ў 1996-м інфляцыя дасягнула 310 %, рэальныя даходы грамадзян зменшыліся на траціну. Толькі на пачатку XXI стагоддзя ўсё наладзілася. Гэтаму дапамаглі заходнія інвестыцыі і праграмы па падрыхтоўцы сучасных спецыялістаў. Галоўнымі партнёрамі былі немцы — даўнія саюзнікі балгараў.

Аднавіў урад і сувязі з Расіяй, якія ў 90-я абмяжоўваліся набыццём нафты і газу. У 1999-м у Балгарыю прыйшлі інвестыцыі з Масквы — кампанія «Лукойл» набыла камбінат «Нафтахім-Бургас». У 2006-м «Расатам» перамог у конкурсе на аднаўленне будаўніцтва АЭС «Белене», а праз два гады Сафія пагадзілася на правядзенне праз тэрыторыю Балгарыі газаправода «Паўднёвы паток». Здавалася, што распачынаецца новы раўнд барацьбы за Балгарыю. Але Расія яго прайграла. У 2004-м краіна ўвайшла ў НАТО, а праз тры гады стала сябрам Еўрасаюза.

**У 2004-м краіна ўвайшла ў НАТО, а праз тры гады — у Еўрасаюз**

### «Болгария уже заграница»

Балгарыю, праўда, вінавацілі ў тым, што яна з’яўляецца траянскім канём Расіі ў Еўропе. Палітыкам прыйшлося даказваць, што гэта не так.У 2014-м у адказ на анексію Крыма спынілася будаўніцтва «Паўднёвага патоку». Адмянілі і супрацоўніцтва па АЭС, хоць у канцы 2019-га быў аб’яўлены новы тэндар і «Расатам» у ім зноў удзельнічае.

Цяпер палітычныя і вайсковыя кантакты балгар са «старэйшым братам» спыненыя. Засталіся толькі эканамічныя: Расія займае другое месца ў балгарскім імпарце. У асноўным гэта газ, нафта і паліва. На краіны НАТО і Еўрасаюза прыходзіцца каля дзвюх трацін тавараабароту. Наўрад ці гэта зменіцца ў найбліжэйшыя часы, бо балгарская моладзь хоча жыць у Еўрасаюзе і ставіцца да Расіі горш, чым да Еўропы.

Гэта разумее і расійская прэса, якая ўжо перарабіла старую прымаўку «Курица не птица, Болгария не заграница» на новы лад: «Курица не птица, Болгария уже заграница». ◆

**Чарнаморскія курорты Балгарыі** набылі еўрапейскую папулярнасць ад 1970-х.

SHUTTERSTOCK.COM, BY LERAABIB




**Порт Клайпеды стаў і марскімі варотамі Беларусі.** У 2020 годзе праз Клайпеду Беларусь імпартавала нафту. На фота: тэрмінал мае сімвалічную назву *Independence* («Незалежнасць»). Яго пабудова каштавала нашай суседцы 126 мільёнаў долараў.

# Як Мемель стаў Клайпедай

## Літва мела сваіх «зялёных чалавечкаў»

**Многія лічаць, што тэрмін «гібрыдная вайна» з'явіўся толькі ў XXI стагоддзі і яго прыдумала Расія. На самай справе, гэты хітры метад прымяняўся здаўна. Напрыклад, літоўцамі ў выпадку з Клайпедскім краем, расказвае Андрэй Акушка.**

Пасля Першай сусветнай вайны на карце Еўропы з'явілася шмат новых краін. Амаль усе яны мелі тэрытарыяльныя прэтэнзіі да суседзяў. Не стала выключэннем і маленькая Літва. Яе кіраўнікі марылі аб прыяднанні Клайпедскага края, які дагэтуль належаў Германіі. Арганізаваўшы «народнае паўстанне», літоўцы дабіліся сваёй мары. Праўда, потым немцы адпомсцілі, але пасля паражэння Трэцяга рэйха Клайпеда зноў стала часткай Літвы. І застаецца ёй сёння, хоць літоўцы не любяць успамінаць, што яны атрымалі гэтую зямлю не зусім сумленна.

### Спадчына Версальскай дамовы

Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны з карты свету зніклі чатыры імперыі: Асманская, Аўстра-Венгерская, Германская і Расійская. Замест іх у Еўропе з'явілася шмат новых дзяржаў. Адной з іх была Літва.

Яе незалежнасць фармальна была абвешчана 16 лютага 1918 года, калі краіна была яшчэ пад нямецкай акупацыяй. Пазней бальшавікі спрабавалі стварыць тут савецкую рэспубліку — спачатку Літоўскую, а пасля Літоўска-Беларускую. Толькі пасля Маскоўскай дамовы, заключанай у ліпені 1920-га, краіна больш-менш уздыхнула з палёгкай, пазбавіўшыся непасрэднай камуністычнай пагрозы.

Засталіся толькі дзве праблемы. Першая — спрэчка з Польшчай за Віленскі край. Гэтая тэма заслугоўвае спецыяльнага артыкула, і сёння мы будзем успамінаць яе толькі ўскосна. Другая праблема — Мемельскі (Клайпедскі) край. Яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя дзеячы літоўскага адраджэння загаварылі пра «ўз'яднанне Малой Літвы з Вялікай».

Вялікай яны называлі землі, што знаходзіліся пад панаваннем Расійскай імперыі. А Малой ахрысцілі Клайпедскі край, дзе пражывалі дзясяткі тысяч суграмадзян.

Была ў жаданні далучыць Малую Літву і эканамічная прычына. Пасля абвяшчэння незалежнасці краіне была патрэбная сувязь са светам. Забяспечыць яе мусіў порт, якім магла стаць Клайпеда.

Рэалізоўваць ідэю аб'яднання пачалі пасля краху Германскай імперыі. 30 лістапада 1918-га ў Тыльзіце (цяпер Савецк, Калінінградская вобласць Расіі) сябры Дзяржаўнай рады Малой Літвы падпісалі спецыяльны акт. Згодна з гэтым дакументам, частку Усходняй Прусіі на поўнач ад Нёмана трэба было аб'яднаць з Літвой.

Але дакумент падтрымалі не ўсе. Да таго ж Дзяржаўная рада ▶

## Клайпедскі край

Да сярэдзіны XIII стагоддзя Клайпедскі край знаходзіўся пад кантролем балцкіх плямёнаў. Пасля прыходу на гэтыя землі Тэўтонскага ордэна яго пачалі засяляць нямецкія каланісты. У 1252 годзе яны пабудавалі Мемельскі замак (Мемель — нямецкая назва Клайпеды), адкуль кантралявалі наваколле. Пазней край уваходзіў у склад Герцагства Прусія, Каралеўства Прусія і Германскай імперыі.
Немцы паступова асімілявалі нашчадкаў прусаў ды іншых балцкіх плямён. Малая Літва яшчэ ў XVIII стагоддзі дала геніяльнага літоўскага пастара і паэта Крысціёнаса Данелайціса. Але ў выніку германізацыі ў XIX стагоддзі літоўцаў засталося зусім мала.
Пасля паўстання 1863–1864 гадоў у Расійскай імперыі было забаронена выпускаць кнігі на літоўскай мове. У Прускім каралеўстве аналагічнай забароны не было, і Мемель хутка ператварыўся ў цэнтр кнігадрукавання. Тут выходзіла шмат выданняў па-літоўску, якія пасля кантрабандай увозіліся ў Расію (пра гэта ў № 5/2019 «Нашай гісторыі» пісаў Сяргей Астанковіч).
Аж да пачатку XX стагоддзя ў сёлах краю было шмат літоўцаў, але ў самой Клайпедзе — вельмі мала (менш за 10%).
Сёння гэты горад-порт — галоўная транспартная артэрыя краіны, праз яе ідзе сувязь Літвы з Еўропай, Азіяй і Амерыкай.
Важны гэты порт і для Беларусі. Менавіта праз яго ідзе экспарт калійных угнаенняў. «Беларуськалій» нават уклаў дзясяткі мільёнаў долараў у кампанію, што валодае адным з тэрміналаў порта. Праз Клайпеду ў Беларусь прыбыла і партыя нафты ў студзені 2020-га, калі распачаўся чарговы нафтавы канфлікт з Расіяй.



Прыкладная мяжа рассялення балтаў да нямецкай каланізацыі



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**У старым горадзе нібы застыў час і нічога не змянілася з 1923 года.**

▶ Малой Літвы не была прызнаная краінамі Антанты. А на Версальскай канферэнцыі ў прыхільнікаў далучэння Клайпеды да Літвы знайшоўся моцны вораг — Польшча. Палякі былі гатовыя саступіць літоўцам значна больш тэрыторый, але пры ўмове адраджэння федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Літва не пагадзілася, так з'явіўся кампрамісны план.

У артыкулах 28 і 99 Версальскай дамовы прапісалі, што Германія адмаўляецца ад правоў на Мемель. І што вырашаць яго лёс будуць краіны Антанты. У пачатку 1920 года край стаў падмандатнай тэрыторыяй Лігі Нацый. Гэта азначала, што кіраваць ім будзе міжнародная адміністрацыя.

### Падрыхтоўка да аб'яднання

Спачатку планавалася, што адміністрацыя Мемеля будзе англа-французскай, але брытанцы адракліся ўдзелу. 15 лютага 1920-га нямецкія войскі канчаткова пакінулі рэгіён, і туды прыехаў новы кіраўнік — французскі генерал Дамінік Адры. Ён стварыў урад края (дырэктарат), у які ўвайшлі сем немцаў. Частка з іх працавала ў адміністрацыі Мемеля раней, і гэта абурыла літоўцаў. Яны заявілі, што нельга аддаваць уладу прадстаўнікам краіны, якая прайграла вайну. Бо яны паспрабуюць далучыць край назад да Германіі. Тады адміністрацыю папоўнілі двума літоўцамі.

**Літоўцы вырашылі скарыстацца польскім досведам захопу Вільні**

І Адры, і Габрыэль Пецісна, які яго змяніў, былі не супраць

### Літоўскія «зялёныя чалавечкі»

**6 студзеня 1923 года літоўскія вайскоўцы і стралкі, якіх збіраліся выдаць за паўстанцаў, былі дастаўленыя спецыяльным цягніком на мяжу з Клайпедскім краем.** Урад папярэдзіў іх, што, калі хто-небудзь трапіць у палон, кіраўніцтва Літвы прад'явіць дакументы, што ён паспеў звольніцца з войска ці дзяржаўнай установы. А ў Клайпеду выправіўся па ўласнай ініцыятыве.

У «паўстанцаў» забралі форму, дакументы, газеты, нават запалкі, зробленыя ў Літве. Усе байцы атрада атрымалі цывільнае адзенне ці форму нямецкага ўзору. А Будрыс прыдумаў знак — зялёную павязку на рукаве.

Канспірацыя захоўвалася і пасля перамогі. Таму дзяржаўных узнагарод удзельнікі аперацыі не атрымалі. Ім выдавалі спецыяльныя медалі чатырох ступеняў ад імя Найвышэйшага камітэта выратавання Малой Літвы. Сёння ўсе «паўстанцы» лічацца героямі Літвы, і іх памяць ушаноўваецца ў адным з клайпедскіх музеяў.

стварэння новай краіны — Мемельланда. Адначасова Францыя рабіла стаўку ва Усходняй Еўропе на Польшчу. І скрозь пальцы глядзела, як палякі засяляюць Мемель, скупляюць там дамы і прадпрыемствы. У 1922-м палякі, якія ўжо на той момант захапілі Віленскі край, прапанавалі абмен: Літва адмаўляецца ад Вільні, а за гэта атрымлівае Клайпеду.

Дамовіцца не ўдалося, бо ў літоўцаў з'явіўся новы план. Яшчэ ў лютым 1922-га консул у Мемелі, Ёнас Жылюс, прапанаваў сілай захапіць гэтую зямлю. 20 лістапада 1922-га ў часовай сталіцы Літвы, Каўнасе, прайшла тайная начная нарада, дзе абмеркавалі прапанову. Палітыкі не былі гатовыя да адкрытага супрацьстаяння з Антантай. І вырашылі скарыстацца ранейшым польскім досведам па захопе Вільні.

План быў просты: выдаць жаўнераў за мясцовую самаахову, падняць «паўстанне» і ад яго імя далучыцца да Літвы. Агульнае кіраўніцтва ажыццяўляў прэм'ер-міністр Эрнэстас Галванаўскас. Спецпадраздзяленне ўзначаліў афіцэр контрвыведкі Ёнас ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Камандзіры «літоўскага паўстання» ў Клайпедзе.** Будрыс сядзіць другі справа.



WIKIMEDIA COMMONS

**Літоўскія байцы займаюць Мемель** — усе апранутыя ў цывільнае.



WIKIMEDIA COMMONS

## Ненароджаная краіна Мемельланд

Некаторыя даследчыкі сцвярджалі, што гісторыя Клайпедскага края магла пайсці іншым шляхам. Трэба было толькі стварыць на гэтай тэрыторыі новую дзяржаву — Мемельланд. Гэтая краіна быццам бы магла існаваць і пасля Другой сусветнай вайны. Але гэта наўрад ці. Так, у канцы 1921-га з 72 тысяч дарослых жыхароў края 54 тысячы выказаліся за стварэнне Мемельланда. Прыхільнікі гэтай ідэі засталіся і пасля захопу Літвой. Згодна з перапісам насельніцтва 1925 года, каля 27% жыхароў Клайпеды і наваколля лічылі сабе новай нацыяй — «мемельцамі». У асноўным гэта былі двухмоўныя грамадзяне з балцкімі каранямі, але анямечаныя. Адрозніваліся яны ад літоўцаў найперш верай — былі не каталікамі, а пратэстантамі. Але ў 1939-м Мемельланд у любым выпадку паўтарыў бы лёс Данцыга (Гданьска) і ўвайшоў у склад Трэцяга рэйха. Адраджаць незалежнасць гэтай дзяржавы пасля Другой сусветнай ніхто б не стаў. З усіх бакоў яна была б аточанай савецкімі тэрыторыямі — Літоўскай ССР і Калінінградскай вобласцю РСФСР, таму гэтай зямлі быў бы наканаваны лёс уваходу ў СССР. Наўрад ці савецкі ўрад рабіў бы новую рэспубліку, а таму Мемельланд далучылі б да Літвы ці Расіі. А нямецкае карэннае насельніцтва ўсё роўна б дэпартавалі. Як гэта адбылося і ў Калінінградскай вобласці, дзе цяпер немцаў менш за 1%, хоць 80 гадоў таму яны складалі там асноўнае насельніцтва.

Палавінскас. За палітычную і дыпламатычную падрыхтоўку адказваў Жылюс. Праз яго ішлі і грошы на прапаганду ў мясцовых СМІ.

## Міністр замежных спраў Літвы адказваў на ўсе прэтэнзіі: «Нашых там няма»

Плану прызначылі найвышэйшы ўзровень сакрэтнасці. Пераважная большасць дэпутатаў і міністраў пра яго не ведала. Пазней гэта дапамагло міністру замежных спраў рабіць нявінны твар і адказваць на ўсе прэтэнзіі: «Нашых там няма». Ёнас Палавінскас змяніў прозвішча на Будрыс (у перакладзе з мемельскага дыялекта літоўскай — «Пільны»). Пазней ён захавае гэтае прозвішча і будзе служыць консулам у Кёнігсбергу і Нью-Ёрку.

Для байцоў атрадаў Будрыса закупілі зброю ў Германіі, якая падтрымала аперацыю. Як так? А немцы баяліся, што інакш Мемель аддадуць Польшчы. У Германіі лічылі, што адабраць горад назад будзе прасцей, калі ім будзе валодаць невялікая краіна. Немцы выставілі Літве адзінае патрабаванне — увесці ў краі самакіраванне.

Не супраць была і Савецкая Расія. Міністр замежных спраў апошняй, Георгій Чычэрын, праз дзевяць дзён пасля сакрэтнай нарады наведаў Каўнас. І паабяцаў Літве падтрымку, калі Польшча паспрабуе перашкодзіць гэтаму плану.

Актыўна ішла падрыхтоўка і ў самім краі. Праз мяжу туды перасджалі афіцэры контрвыведкі. У Клайпедзе і навакольных сёлах ствараліся атрады «літоўскай самааховы». Агульнае кіраўніцтва імі ажыццяўляў спецыяльна створаны Найвышэйшы камітэт выратавання Малой Літвы (НКВМЛ).

Мясцовая прэса, што атрымлівала грошы з-за мяжы, запалохвала насельніцтва чуткамі пра захоп горада палякамі. Пісала, што літоўцаў прыгнятаюць немцы. Хадзілі чуткі нават пра тое, што ўлады кідаюць людзей у турму за некалькі слоў па-літоўску. Таму трэба змагацца за свае правы са зброяй у руках.

Мясцовыя жыхары і самі прагнулі перамен. Валютай Мемеля заставалася нямецкая марка, якая перажывала не найлепшыя часы. Гіперінфляцыя амаль знішчыла зберажэнні грамадзян. Да таго ж пачаліся перабоі з прадуктамі, бо Літва спыніла іх пастаўкі.



ФОТА АНДРЭЯ ЛЫНЬКО

Для літоўцаў вяртанне Клайпеды было мінімальнай кампенсацыяй за стагоддзі германізацыі, у выніку якой балцкія плямёны прусы і куршы сталі немцамі. **На фота: літоўка ў нацыянальным строі на вуліцы Клайпеды ў Дзень каранацыі Міндоўга.**

Германія дапамагчы не магла: яе жыхарам самім не хапала ежы. Усё было гатовае да пачатку акцыі.

### Клайпедскае «паўстанне»

10 студзеня 1923-га павінна была прайсці нарада дзяржаў Антанты, на якой збіраліся вызначыць статус края. Да Каўнаса дайшлі чуткі, што Літва Клайпеды не атрымае. Таму вырашылі дзейнічаць як мага хутчэй. 7 студзеня НКВМЛ абвясціў пра паўстанне супраць панавання іншаземцаў. І звярнуўся па дапамогу да Саюза стралкоў — вайсковага апалчэння Літвы. Хутка мяжу пачалі пераходзіць узброеныя літоўскія стралкі і байцы Будрыса. Усяго іх было каля тысячы з паловай — значна больш, чым жаўнераў Антанты.

9 студзеня НКВМЛ заявіў пра роспуск дырэктарата. Цікава, што ў літоўскамоўнай заяве камітэта былі намёкі на прыгнёт з боку немцаў. Па-нямецку гаварылася пра небяспеку з боку палякаў. А французскамоўная заява, якую даслалі жаўнерам Лігі Нацый, паведамляла пра змаганне «за свабоду і роўнасць, як падчас вашай рэвалюцыі».

11 студзеня край быў амаль цалкам захоплены, а мяжа з Германіяй узятая пад кантроль. Заставалася ўзяць Мемель, які абаранялі 200—250 французаў, некалькі соцень паліцэйскіх і добраахвотнікаў (у асноўным немцаў). «Паўстанцы» былі гатовыя кінуць на горад больш людзей, але тут з'явіліся праблемы. Байцы атрымалі нямецкую зброю, з якой не ўмелі абыходзіцца. Таму вінтоўкі і кулямёты часта заклінівала. Але нечакана частка немцаў пакінула пазіцыі. Потым высветлілася, што гэта была рэкамендацыя з Берліна. У выніку сутычкі ішлі толькі два дні, і 15 студзеня горад быў захоплены.



Гітлер у Клайпедзе.

PINTEREST.COM

**Канспірацыя захоўвалася і пасля перамогі, таму дзяржаўных узнагарод удзельнікі аперацыі не атрымалі**

Страты ўсё ж былі: загінулі 12 «паўстанцаў», 2 французы і 1 паліцэйскі. Цяжка сказаць, як пайшлі б справы, калі б абаронцы вырашылі супраціўляцца далей. Тым больш што з 16 па 18 студзеня ў порт увайшлі польскі, брытанскі і некалькі французскіх караблёў.

Вось толькі ўсе тры дзяржавы мелі свае праблемы. Польшчу скалануў унутраны крызіс пасля забойства яе першага прэзідэнта, Габрыэля Нарутовіча. Вялікабрытанія жадала аднаўлення гандлю праз Клайпеду. У Францыі з'явіліся праблемы ў Рурскай вобласці, і ўсе свабодныя жаўнеры былі патрэбныя там.

Таму 17 студзеня вырашылі адправіць у Мемель сумесную камісію, якая паспрабуе разабрацца з праблемай. Літоўцы не чакалі рэзалюцыі камісіі. 19 студзеня НКВМЛ апублікаваў дэкларацыю, у якой прасіў літоўскі ўрад далучыць Клайпедскі край да Літвы. Пры гэтым планавалася захаваць аўтаномію ва ўсім — ад падаткаў і сельскай гаспадаркі да адукацыі і рэлігійных пытанняў. У Каўнасе ваганіся нядоўга, і 24-га Сейм зацвердзіў аб'яднанне з Клайпедай. Толькі 26 студзеня камісія патрабавала ад «паўстанцаў» ачысціць край. Тыя адмовіліся, і пачаліся перамовы.

Шмат часу яны не занялі. Ужо праз тры дні Вялікабрытанія і Італія падтрымалі далучэнне края да Літвы. Умоў засталося ▶

► толькі тры: захаванне аўтаноміі, грашовыя кампенсацыі Антанце і сумеснае выкарыстанне Нёмана літоўцамі і немцамі.

Каўнас святкаваў перамогу, а «паўстанцаў» сустракалі ў сталіцы як герояў. Клайпедская дэкларацыя, якая канчаткова зафіксавала пераход горада да Літвы, была падпісаная ў маі 1924-га ў Парыжы. Літоўцы лічылі гэта вялікай перамогай. Як пісаў адзін з кіраўнікоў іх замежнай палітыкі, Пятрас Клімас, «нашы маладыя дыпламаты перамаглі старых лісаў».

## Далейшы лёс рэгіёна

Пасля далучэння да Літвы Клайпедскі край сапраўды захаваў аўтаномію. У кіраўніцтве прысутнічалі прадстаўнікі абодвух народаў. На першых выбарах мясцовага парламента ў 1925-м немцы разгромна перамаглі — яны атрымалі 27 мандатаў супраць 2 літоўскіх. Гэта адлюстроўвала стан свядомасці жыхароў горада: для большасці з іх нямецкае на гэты момант было ўжо бліжэйшым за літоўскае.

Порт кантралявала сумесная камісія, у якую ўваходзілі прадстаўнікі мясцовага дырэктарата, літоўскага ўрада і Лігі Нацый. Ніякіх перашкод іншаземцам у гандлі не было.

Праўда, немцы патроху пакідалі край. Да 1932-га іх выехала прыкладна 10 тысяч, а ўзамен прыехала прыкладна столькі ж грамадзян Літвы. Але ў мясцовым сейме літоўцы ніколі не мелі больш за 5 дэпутатаў. Мясцовыя жыхары звычайна галасавалі за нямецкамоўных грамадзян. Відаць, таму, што лічылі іх больш «сваімі».

Пасля прыходу ў 1933-м да ўлады ў Германіі Адольфа Гітлера ў рэгіёне распачалася нацысцкая прапаганда. У адказ на арышты клайпедскіх нацыстаў Трэці рэйх байкатаваў гандаль з Літвой, што паставіла сельскую гаспадарку апошняй на мяжу выжывання. У 1938-м ужо нямецкія «паўстанцы» распачалі сілавыя акцыі супраць уладаў.

20 сакавіка 1939-га літоўскі міністр замежных спраў Юозас Урбшыс атрымаў у Берліне ультыматум. Альбо край будзе аддадзены Трэцяму рэйху, альбо Літву чакае вайна. Каўнас спрабаваў спаслацца на Клайпедскую дэкларацыю. Італія і Японія ў адказ падтрымалі немцаў. Вялікабрытанія і Францыя выказалі глыбокія спачуванні, а неафіцыйна парэкамендавалі капітуляваць.

23 сакавіка ў горад увайшлі нямецкія вайскоўцы, а затым прыехаў Гітлер. Ён абвясціў пра далучэнне рэгіёна да Трэцяга рэйха. Для Літвы гэта было вялікай стратай. У краі знаходзілася каля трацiны хімічнай, амаль палова папяровай і тэкстыльнай прамысловасці краіны. Праз порт ішло да 80% імпарту і экспарту.

Падчас вайны ў Мемелі (немцы вярнулі яму гэту назву) усё было як і на астатніх тэрыторыях Германіі. Яго жыхары служылі ў вермахце, а яўрэяў знішчалі ў канцлагерах. Праўда, яўрэяў у краі засталося няшмат — многія паспелі збегчы ў Літву.

28 студзеня 1945-га Клайпеду заняла Чырвоная армія і адразу ж перадала пад уладу Літоўскай ССР. Хутка пачаліся дэпартацыі нямецкага насельніцтва — толькі за першыя шэсць гадоў былі высланыя больш за 10 тысяч чалавек. Тыя, у каго былі змешаныя продкі, адмовіліся ад нямецкай мовы на карысць літоўскай ці расейскай. Так што сёння немцаў там засталося ўсяго некалькі соцень. І Мемель канчаткова пераўтварыўся ў Клайпеду. ◆

### Версальская дамова

У лістападзе 1918 года Германская імперыя, чые войскі імкліва адступалі з пазіцый у Францыі, папрасіла міру. Краіны Антанты пагадзіліся, і 11 лістапада непадалёк ад невялічкага гарадка Камп'ен было заключана перамір'е. Яго ўмовы былі жорсткімі. За 32 дні нямецкая армія была абавязаная адысці з акупаваных тэрыторый Бельгіі, Люксембурга і Францыі. Таксама яе вымусілі ачысціць заходнія тэрыторыі самой Германіі і ўсе захопленыя землі былой Расійскай імперыі. Краінам Антанты немцы перадавалі ўвесь флот, авіяцыю, шмат кулямётаў, вінтовак і гармат.

Перамір'е было толькі пачаткам нягод Германіі. На канферэнцыі ў Парыжы саюзнікі вырашылі паказальна пакараць былога ворага. Яны вылучылі новыя ўмовы і вымусілі прыняць іх пад пагрозай прадуктовай блакады. Згодна з Версальскай мірнай дамовай, немцы страчвалі вялікія тэрыторыі, пазбаўляліся права мець сваю армію і абавязваліся плаціць рэпарацыі. Настолькі вялізныя, што апошнюю частку доўгу краіна аддала толькі ў 2010 годзе!

Версальскую дамову 1919 года лічылі несправядлівай нават праціўнікі Германіі. Уінстан Чэрчыль казаў так: «Артыкулы дамовы былі злоснымі і неразумнымі да гэтакай ступені, што рабіліся бессэнсоўнымі. У гэтым дыктаце знайшоў сваё адлюстраванне гнеў дзяржаў-пераможцаў». А французскі маршал перамогі Фердынанд Фош, які кіраваў войскамі на Заходнім фронце, выказаўся яшчэ катэгарычней: «Гэта не мір. Гэта перамір'е на 20 гадоў». Так яно і адбылося: праз два дзесяцігоддзі Германія распачала новую сусветную вайну.

# Літва

пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе, як і Беларусь, стала часткай Расійскай імперыі. Пасля Першай сусветнай вайны вярнула незалежнасць. Па ўмовах сакрэтнага пратакола да пакта Молатава — Рыбентропа ў 1940-м стала савецкай рэспублікай. Зноў абвясціла незалежнасць у 1990-м, хоць фактычна атрымала яе толькі праз год. Цяпер Літоўская Рэспубліка — сябар Еўрасаюза і НАТО.

**Па тэрыторыі** — 65 тыс. кв. км — як траціна Беларусі.

**Па насельніцтве** — 3 мільёны чалавек (таксама як траціна Беларусі). Тытульная нацыя складае звыш за 80% насельніцтва, на другім месцы польская і толькі на трэцім месцы руская меншасць. Беларусаў у Літве засталося няшмат — усяго 36 тысяч згодна з перапісам 2011 года, бо беларускамоўныя жыхары Віленшчыны збольшага адносяць сябе да палякаў.

**Сярэдні заробак** удвая вышэйшы, чым у Беларусі.

**Прырода Літвы** вельмі падобная да беларускай: шмат лясоў і палёў. Але ёсць і адрозненне. Краіна мае выхад да мора. І найбуйнейшым яе портам з'яўляецца якраз Клайпеда.


SHUTTERSTOCK.COM, BY CATHOUSEPRODUCTION

**Порт Клайпеды** — выгляд зверху — **ніколі не замярзае.**


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Вяндлярня рыб каля прычала парома з Клайпеды на Куршскую пярэспу.**


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Помнік прывіду** ў Клайпедзе.


ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

Разам з Клайпедай літоўцы здабылі **не толькі порт, але і пляжы Куршскай пярэспы.**

# ВІЛЬНЯ РЭВАЛЮЦЫЙНАЯ

## Гераічная абарона горада 225 гадоў таму — адзін з самых яркіх эпізодаў нашай гісторыі



**Апынуўшыся ў Вільні, варта ўспомніць рэвалюцыйны лозунг, абвешчаны тут яшчэ ў 1794 годзе: «Вольнасць! Роўнасць! Незалежнасць!». Піша пісьменнік Андрэй Лютых.**

Калі мы кажам пра канец XVIII стагоддзя, то словы «Вільня» і «рэвалюцыя» неяк не прыходзяць у галаву. На слыху — Вялікая французская рэвалюцыя 1789 года. Дзень узяцця Бастыліі — нацыянальнае свята ў Францыі. Марш марсельскага батальёна, складзены ў той час, стаў для французаў нацыянальным гімнам (як і марш легіёнаў Дамброўскага для палякаў). Але пра падобныя падзеі, якія ўскалыхнулі ў тую гарачую эпоху і Вільню, практычна не ўспамінаюць. Хоць у Вільні з такім жа гонарам, з якім французы 14 ліпеня святкуюць сваё ўзяцце Бастыліі, маглі б адзначаць 19 ліпеня. У гэты дзень у 1794 годзе простыя жыхары Вільні, праявіўшы неймаверную мужнасць і сапраўдны патрыятызм, адстаялі свой горад, адбіўшы рашучы штурм рэгулярных расійскіх войскаў.

**Паручнік Юры Гарноўскі.** Ілюстрацыя да кнігі Андрэя Лютых «Бітва пад Вострай брамай». Мастак Аляксандр Цярэшчанка (Чарнігаў).

### «Якабінцы» ў Вільні

А за некалькі месяцаў да гэтага ў сталіцы «Літоўскай правінцыі» адбылася тая самая рэвалюцыя. Менавіта так называюць падзеі вясны 1794 года расійскія мемуарысты Сяргей Тучкоў і Леў Энгельгарт, а таксама іх праціўнікі на допытах следчай камісіі ў Смаленску. Расійскія саноўнікі, праўда, выбіралі іншыя азначэнні: *«замешательство», «всеобщее возмущение», «генеральный бунт», «мятеж»*. Зрэшты, тады некаторыя тэрміны яшчэ не мелі зместу, звыклага для нас сённяшніх, і «рэвалюцыя» зусім не ўспрымалася як пераход улады да рабочых і сялян.

**Касакоўскі будзе павешаны на ліхтары, як гэта было модна ў Парыжы. Усё ж такі рэвалюцыя!**

Звычайнаму чалавеку гэты эпізод беларускай гісторыі вядомы перадусім як паўстанне Касцюшкі. Менавіта «Акт паўстання народа Вялікага Княства Літоўскага» (услед за кракаўскім актам, пад якім прысягнуў Тадэвуш Касцюшка) быў абвешчаны 24 красавіка 1794 года ў Вільні, якая напярэдадні раззброіць тысячу расійскіх салдат і афіцэраў, нават аднаго генерала. А заадно і ўласнага «самаабвешчанага» гетмана, Шымана Касакоўскага, які адкрыта імкнуўся да злучэння з Расіяй. На наступны дзень Касакоўскі будзе павешаны на ліхтары, як гэта было модна ў Парыжы. Усё ж такі рэвалюцыя!

**Якабінцы** — удзельнікі Якабінскага палітычнага клуба эпохі Вялікай французскай рэвалюцыі, якія ўсталявалі сваю дыктатуру ў Францыі ў 1793–1794 гадах. Вызначаліся радыкальнымі поглядамі, падчас свайго кіравання правялі шэраг радыкальных рэформаў і разгарнулі масавы тэрор. Лідары французскіх якабінцаў — Жорж Жак Дантон, Максімільен Рабесп'ер, Жан-Поль Марат і іншыя.




**Шыман Марцін Касакоўскі.** Партрэт Яна Дамеля. 1812 год.

І нездарма яе правадыр у Вільні Якуб Ясінскі, паэт, палкоўнік корпуса вайсковых інжынераў, меў рэпутацыю перакананага якабінца. Ён і на самай справе быў прадстаўніком радыкальнага крыла паўстанцаў, і гэта адштурхоўвала ад яго шмат больш-менш заможных патрыётаў.

Сваім найбліжэйшым памочнікам Ясінскі зрабіў чалавека самага што ні на ёсць рэвалюцыйнага, які ўдзельнічаў у тым самым узяцці Бастыліі! Гэта Ігнат Хацкевіч, авантурыст узроўню графа Каліёстра. Гулец. Ягонае казіно ў Вільні перапампоўвае грошы з кішэняў расейскіх афіцэраў у фонд падрыхтоўкі паўстання. Аднак Хацкевіч штурмаваў не толькі Бастылію, але і Ачакаў у 1788-м, паспеўшы ў свой час атрымаць афіцэрскі чын у расійскай арміі. Можа быць, менавіта тады ён быў завербаваны. Прынамсі, існуюць вельмі абгрунтаваныя версіі, што ад'ютант Якуба Ясінскага быў здраднікам, які аднаго за адным здаваў сваіх паплечнікаў.

### Амаль аксамітная рэвалюцыя

Але нават знаходзячыся на мяжы правалу, Ясінскі здолеў ажыццявіць задуманае. Паўстанне ў Вільні ў ноч з 22 на 23 красавіка 1794 года стала ўзорам старанна спланаванай вайсковай аперацыі, якая ажыццявілася гладка не толькі на паперы. Супраць двухтысячнага расійскага гарнізона ў Ясінскага было толькі семсот штыкоў з рэгулярных рэгіментаў літоўскага войска. Яшчэ пяцьсот гараджан былі падрыхтаваныя да таго, каб па сігнале аб выступленні стаць пад ружжо.

Такім чынам, у Ясінскага было ўдвая менш людзей увогуле, чым у расійскага генерала Мікалая Арсеньева, а вайскоўцаў — нават утрая. Але кожны чалавек у ягоным атрадзе добра ведаў, што павінен рабіць. Таму паўстанне ў Вільні зусім не было такім кровапралітным, як тое, што адбылося на некалькі дзён раней у Варшаве. Тонкі гулец Якуб Ясінскі засведчыў, што шахматная партыя можа быць выйграная і тады, калі амаль усе фігуры засталіся на дошцы. Забітых былі адзінкі, а вось палонных было сабрана ў арсенале і касцёле Святога Казіміра больш за тысячу. Праўда, некалькі сотняў салдат віленскага гарнізона пазбеглі ▶

палону, захаваўшы пры сабе артылерыю. Спустошыўшы прадмесце Пагулянка, «віленскія недарэзкі», як называлі потым гэты кантынгент расійскай арміі, адступілі ў бок Горадні.

### Драма Якуба Ясінскага

Але рэвалюцыі недастаткова перамагчы, ёй яшчэ трэба ўмець сябе абараняць. Якуб Ясінскі гэтую місію адразу ўзяў на сябе, выходзячы ў поле і шукаючы ворага. Ён прагне перамогі, якая натхніла б усю Літву, як перамога пад Рацлавіцамі натхніла Польшчу.

## Рэвалюцыі недастаткова перамагчы, ёй яшчэ трэба ўмець сябе абараняць

Бітва пад Палянамі 7 мая 1794 года падобная па маштабах да Рацлавіцкай (з кожнага боку змагаліся па 3—4 тысячы), а па

**Рацлавіцкая бітва** — адно з першых узброеных сутыкненняў паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі супраць расійскіх войскаў, якое адбылося 4 красавіка 1794 года каля вёскі Рацлавіцы Малапольскага ваяводства. У ёй войска Касцюшкі, складзенае з 2500 жаўнераў і 2000 сялян-касінераў, перамагло 2900 расіян пад камандаваннем генерала Аляксандра Тармасава. Гэтая перамога значна ўзняла маральны дух паўстанцаў, хоць радыкальна сітуацыю на іх карысць і не змяніла.




**Якуб Ясінскі.** Літаграфія Караля Антонія Сімона, выдадзеная ў Познані ў 1829 годзе.

жорсткасці змагання, магчыма, нават пераўзыходзіць яе. Паводле сведчання палкоўніка Міхаіла Дзеева, які камандаваў расійскім атрадам, ягоныя салдаты не жадалі браць палонных, а іх праціўнікі не здаваліся і біліся нават параненыя. Перамога засталася за расіянамі. Цяжкую паразу Ясінскі пацярпеў і ў наступным, яшчэ больш кровапралітным баі пад Соламі 26 чэрвеня 1794-га. Сярод некалькіх соцень загінулых — і ягоны родны брат.

Пасля гэтых паразаў актывізаваліся раней патаемныя нядобразычліўцы. Змучаны несправядлівымі дакорамі з Варшавы і абвінавачваннямі ў літоўскім сепаратызме, Ясінскі блізкі да дэпрэсіі. Яго пераводзяць на «прускі фронт», пасля чаго Вільня страціла самага актыўнага і дзейснага свайго абаронцу. Ён загіне 4 лістапада 1794-га, абараняючы варшаўскае прадмесце Прага.

### Вільня — сэрца паўсталай Літвы

Тым не менш і без Ясінскага супраціў працягваўся. Значэнне сталіцы Літвы добра разумеюць

**Якуб Ясінскі** (1759–1794) — вайсковы і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай. Нарадзіўся ў Венглеве Познанскага ваяводства. Вучыўся ў Варшаўскай кадэцкай школе, стаў вайсковым інжынерам. З 1789 года служыў у інжынерным корпусе войска ВКЛ, атрымаў званне палкоўніка. Удзельнічаў у будаўніцтве Каралеўскага канала, які злучыў рэкі Піна і Мухавец на Палессі. Удзельнічаў у вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1792 года, распрацоўваў план абароны Берасця. Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай 1793 года перайшоў да канспіратыўнай дзейнасці, пасля пачатку паўстання Тадэвуша Касцюшкі ўзначаліў паўстанне ў Вільні. 3 мая 1794-га Найвышэйшая Літоўская Рада абвясціла Якуба Ясінскага галоўнакамандуючым Літоўскім паўстанцкім войскам. Кіраваў арганізацыяй новага войска ВКЛ. Трымаўся радыкальных сацыяльных поглядаў, выступаў за адмену прыгоннага права і ліквідацыю шляхецкіх прывілеяў. Пасля шэрагу ваенных паражэнняў мусіў пакінуць Вільню, ваяваў на Падляшшы, абараняў Варшаву, падчас чаго і загінуў. Пахаваны на варшаўскіх Каменкаўскіх могілках. Сярод іншага быў і літаратарам, пісаў паэмы, вершы, песні. З мэтай пашырэння сацыяльнай базы паўстання рыхтаваў рыфмаваныя пракламацыі да сялян на беларускай мове.

кінутыя на падаўленне «смуты» расійскія вайскоўцы. «Калі ж ... возьмем Вільню, то спадзяюся, што бунт усюды сціхне» — даносіць наверх палкоўнік Дзееў, які апынуўся ў цэнтры падзей і карыстаўся гэтым, каб рабаваць, браць у палон і выпускаць за выкуп мясцовых шляхціцаў, абвінавачваючы іх у дачыненні да бунту. Бравы палкоўнік атрымае шанец ажыццявіць тое, што

прапаноўваў у сваім рапарце. Ён са сваім Тамбоўскім мушкецёрскім палком будзе штурмаваць Зарэчную браму Вільні і прыме смерць ад рук нейкага ксяндза недзе ў віленскім Зарэччы ў той самы дзень19 ліпеня, пра які гаварылася ў пачатку артыкула.

**Калі сем тысяч салдат марудлівага генерала Вяльгорскага падыдуць да асаджанага горада, іх сустрэнуць горкія папрокі віленчукоў, якія здолелі ўжо адбіцца самі**



**Вільня, Вастрабрамская капліца.** Малюнак Мсціслава Дабужынскага, 1915 год.



**Вуліца Вялікая ў Вільні.** Акварэль Юзафа Пешкі, 1808 год. Будынак з навесам на пярэднім плане, перад якім складзеныя стрэльбы — гаўптвахта, адзін з асноўных аб'ектаў атакі ў ноч паўстання. За гаўптвахтай — касцёл святога Казіміра.

WIKIMEDIA COMMONS

Расійскія войскі генерала Карла Кнорынга падышлі да Вільні напярэдадні, 18-га, карыстаючыся пасіўнасцю генерала Міхала Вяльгорскага, прызначанага камандаваць літоўскімі войскамі замест Ясінскага. Калі сем тысяч салдат гэтага марудлівага генерала падыдуць да асаджанага горада, іх сустрэнуць не кулі і карцеч ваякаў Кнорынга, а горкія папрокі віленчукоў, якія здолелі ўжо адбіцца самі.

У першы дзень штурму яны страцяць усе свае абарончыя пазіцыі вакол горада. Іх узвядзеннем гараджане займаліся з красавіка да ліпеня, але сілаў, каб утрымаць гэтыя валы, недастаткова, гармат на падрыхтаваных артылерыйскіх пазіцыях таксама вельмі мала. Да вечара абаронцы Вільні адышлі за старыя гарадскія сцены, і толькі некаторыя смельчакі засталіся ў прадмесцях, каб сустрэць новыя напады стрэламі з вокнаў, з дахаў, з кожнага двара.

Перш чым пачаць штурм, добрасумленны немец Кнорынг выслаў парламенцёра, прапануючы праціўніку здацца без бою. Напярэдадні віленчукі ўжо стралялі па парламенцёрах. Мяркуючы, што гэта магло адбыцца з-за памылкі, Кнорынг зноў дае гараджанам шанец, але ў якасці парламенцёра гэтым разам на ўсялякі выпадак пасылаюць узятага напярэдадні ў палон літоўскага афіцэра — і зноў гордая адмова.

**Вільню штурмаваў той самы Тучкоў, які будзе галоўным падазраваным па справе аб рабаванні Нясвіжскага замка**

### Бітва пад Вострай брамай

Рашучы штурм пачаўся з абодвух бакоў. Пасля гібелі палкоўніка Дзеева наступ расіян у Зарэччы захлынаецца. Асноўны ўдар накіраваны на Вострую браму. Артылерыйскаму ▸



**Вуліца ў Вільні.** Малюнак Зыгмунта Фогеля, канец XVIII стагоддзя. Захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве.

афіцэру Сяргею Тучкову даручана з дзвюма гарматамі наблізіцца да брамы, каб знесці яе ядрамі. Але шлях на прызначаную пазіцыю ператвараецца для артылерыстаў Тучкова ў пекла. Адусюль страляюць, шпурляюць дахоўкай. Некалькі разоў даводзіцца пасылаць па новых артылерыстаў замест забітых. Афіцэр, які шмат павяваў, прызнаваў, што ніколі — ні раней, ні пасля — яму не даводзілася быць у большай небяспецы, чым 19 ліпеня перад Вострай брамай.

## Калі канчаліся кулі, жыхары Вільні шпурлялі ў салдат дахоўкай

Аднак урэшце Тучкову ўсё ж удалося разбіць браму. Пяхота, якая яго падтрымлівала, павінна была зрабіць рывок да размешчанага побач праваслаўнага Свята-Духавага манастыра, які стане ўмацаваным плацдармам у горадзе. Застанецца толькі дачакацца падмацаванняў і потым жорстка адпомсціць віленчукам.

Тут перадамо слова Міхалу Клеафасу Агінскаму, які пакінуў цікавыя мемуары пра тую эпоху: «Мужны артылерыйскі афіцэр Гарноўскі, убачыўшы, што адна фортка гарадской брамы, называнай Вострай, неўзабаве будзе выламаная, пабег туды са жменькаю смельчакоў і прыцягнуў гармату, якую накіраваў у бок гэтай форткі. Тады, калі варожая калона, што праламала браму, рушыла шпаркім крокам, каб трапіць у горад, Гарноўскі так добра скарыстаўся тою адзінаю гарматаю, зараджанай шрапнэллю, што расейцы былі вымушаныя адмовіцца тут ад сваей задумы і адступіць».

«Гармату непрыяцеля, якая стаяла на гарадской вуліцы», згадвае і Сяргей Тучкоў як адну з прычын, якія прымусілі расійскую пяхоту адступаць. На нейкі час ён застаўся з уласнымі гарматамі перад варотамі. Тут мы дазволім мемуарысту самому сведчыць супраць сябе: «Над варотамі была капліца, ці невялікая царква, дзе знаходзіўся цудатворны абраз Багародзіцы, які палякі асабліва абагаўляюць. Гэтая капліца была напоўненая людзьмі, якія рабілі супраць нас моцную страляніну са стрэльбаў. Я пачаў таксама адступаць і выцягнуў кліны з-пад гармат, даў ім гэтым поўнае ўзвышэнне і страляў у капліцу. Як пасля аказалася, я ненаўмысна разбіў ядром гэты абраз. Пасля гэтага нянавісць палякаў да мяне яшчэ больш узгарэлася».

Гэты эпізод пад Вострай брамай стаў, бадай што, пераломным момантам штурму. Генерал Кнорынг пратрубіў адбой, тлумачачы сваё рашэнне так: «Не толькі вайскоўцы, усялякага роду абывацелі, жыды, але і жаночы пол быў бачны, які з будынкаў страляў па нашых. Такая неапісаная адчайная абарона народа... завалілі вуліцы мёртвымі целамі абывацеляў, не маглі, аднак жа, працягваць далей у іх страляць, бачачы і вытрымліваючы з усіх бакоў па вуліцах з гэтых дамоў і адтулін моцную страляніну абывацеляў з гармат, са стрэльбаў

Нянавісці віленчукоў да Сяргея Тучкова няма чаго дзівіцца, бо ў красавіку 1794-га ён ужо бамбаваў Вільню з Панарскай гары, разрабаваўшы і спаліўшы цэлае гарадское прадмесце. Сяргей — адзін з пяці знакамітых братоў-генералаў Тучковых, чацвёра якіх сталі героямі вайны 1812 года. Падчас яе імя Сяргея Тучкова зноў было непасрэдна звязана з непрыемнай для нас гісторыяй: менавіта ён праходзіць па справе аб знікненні радзівілаўскіх скарбаў Нясвіжскага замка ў якасці галоўнага падазраванага.



Тадэвуш Касцюшка адзначаў вайсковыя заслугі падпачаленых уручэннем залатога пярсцёнка з надпісам «Айчына свайму абаронцу», далей ішлі літары «ТК», дата «1794» і парадкавы нумар. **Сярод іншых такім пярсцёнкам быў узнагароджаны і паручнік Юры Гарноўскі.**

і фальканетаў, і вымушаныя адступіць, запаліўшы толькі ў розных месцах будынак».

## Забытыя героі

Праз месяц Вільня ўсё ж мусіла здацца: сілы былі яўна няроўныя. Але мужнасць віленцаў зрабіла ўражанне на новых гаспадароў горада. Імператар Павел, які неўзабаве ўзыдзе на расійскі трон, хоць і амністуе ўдзельнікаў паўстання і выпусціць з Петрапаўлаўскай крэпасці Касцюшку, віленскія крапасныя сцэны загадае на ўсялякі выпадак разбурыць.

За свой подзвіг паручнік літоўскай артылерыі Юры Гарноўскі атрымае з рук Касцюшкі ўзнагародны пярсцёнак. І хоць ягонае імя ёсць на мемарыяльнай дошцы пры ўваходзе ў Гарадзенскі замак, усё ж Гарноўскі і яго паплечнікі — хутчэй забытыя героі ў нашай краіне. Зрэшты, чаго дзівіцца, калі некаторыя ў нас па-ранейшаму лічаць паўстанне Касцюшкі выключна польскім?

У той жа час не можа не цешыць, што ў цяперашняй літоўскай Вільні збольшага захавалася архітэктурная спадчына. І калі мы сёння прыязджаем у Вільню, то, стоячы ля святой Вострай брамы, можам аддаць даніну памяці нашым продкам, героям паўстання 1794 года. Яны не маглі не ўсведамляць, што сілы занадта няроўныя і іх справа, хутчэй за ўсё, не мае шанцаў на поспех. Але дзякуючы іх самаахвярнаму подзвігу ніколі не будзе мець шанцаў канцэпцыя аб тым, што нашы продкі не хацелі ніякай незалежнасці.

Героі не паміраюць. ◆

**Больш пра гэтыя падзеі чытайце** ў гістарычным рамане Андрэя Лютых «Бітва пад Вострай брамай», выдадзеным у 2018 годзе выдавецтвам «Галіяфы».







**Віленская ратуша.** Акварэль Юзафа Пешкі. 1797 год.



# ЛАСОСЬ

## Шляхетная рыба беларускай поўначы

**Дзе вадзілася, за колькі прадавалася і як гатавалася найдаражэйшая ва ўсе часы рыба, піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Злавіць ласося — вялікая ўдача і радасць для кожнага рыбака. Ва ўсім свеце такая лоўля лічыцца заняткам экстрэмальным і дынамічным. Пра сілу і спрыт гэтай шляхетнай рыбы сведчыць ужо толькі тое, што ў час нерасту для пераадолення перашкод некаторыя асобіны ласося здольныя выскокваць з вадаёма аж на 4 метры ў вышыню!

### Легендарная рыба

Складанасць лоўлі гэтай рыбы знайшла сваё адлюстраванне ў міфах многіх народаў, у якіх ласось выступае рыбай моцнай, спрытнай і вельмі разумнай — годным супернікам рыбака.

Скандынаўскі бажок хітрасці і падману Локі, кінуўшы выклік галоўным багам Асгарда, спрабаваў схавацца ад іх, прыняўшы форму ласося.

У ірландскіх міфах ласось мудрасці — гэта велізарная рыба, якая з’ела 9 арэхаў з чароўнай ляшчыны і набыла такім чынам усю мудрасць свету. А легендарны герой Фінтан мак Бокра — вельмі мудры чалавек, які быццам бы перажыў сусветны патоп, ператварыўшыся ў ласося, і пражыў агулам 500 гадоў.

Падобныя сюжэты ёсць і ў міфалогіі валійцаў ды іншых кельтаў. А ў каракаў Камчаткі ёсць казка пра тое, як ласось, які ўжо быў каралём рачных



SHUTTERSTOCK.COM, BY CHANONRY

**Ласось высакародны** (*Salmo salar*), ці **сёмга** — рыба сямейства ласасёвых, атрада ласосепадобных. Даўжыня цела да 1,5 м, маса да 39 кг. Луска дробная, серабрыстая. Перад нерастам цела цямнее, на баках і галаве з'яўляюцца чорныя, чырвоныя і аранжавыя плямы, у самцоў падаўжаюцца і скрыўляюцца сківіцы.

Ласось пашыраны ў паўночнай часткы Атлантычнага акіяна, паўночна-заходняй частцы Паўночнага Ледавітага акіяна каля берагоў Еўропы і Паўночнай Амерыкі. Існуе таксама азёрная форма — азёрны ласось (*Salmo salar morpha sebago*), якая жыве ў буйных паўночных азёрах.

Нагул ласося адбывацца, як правіла, у моры, дзе ён харчуецца рыбай і ракападобнымі. Нераст адбываецца ў рэках, у якіх рыба не корміцца, таму злавіць буйнога ласося на вуду немагчыма. Месцы нерасту размяшчаюцца ў верхнім і сярэднім цячэннях ракі на парожыстых участках, звычайна на прылеглых да берага перакатах. Моладзь жыве ў рэках да 5-ці гадоў, кормячыся бесхрыбетнымі і дробнай рыбай, а пасля сыходзіць у мора.

**Дзе плаваў і плавае *Atlantic Salmon***

Атлантычны ласось (*Salmo salar*, на міжнародным рынку — *Atlantic Salmon*) калісьці заходзіў у рэкі басейна Паўночнай Атлантыкі і часткі Паўночнага Ледавітага акіяна, пачынаючы ад Біскайскага заліва і аж да Карскага мора, падымаючыся супраць цячэння рэк на многія сотні кіламетраў.

## Жаргоннае слова «лох» паходзіць, па адной з версій, ад народнай назвы ласося адразу пасля нерасту

рыб, здолеў хітрасцю перамагчы бычка — караля рыб марскіх — і зрабіўся такім чынам валадаром і мора, і рэк ды азёр.

Разам з тым жаргоннае слова «лох», якое шырока распаўсюдзілася ў постсавецкіх краінах у часы перабудовы, паходзіць, па адной з найбольш верагодных версій, ад народнай назвы ласося адразу пасля нерасту. Аддаўшы ўсе сілы працэсу размнажэння, рыбіна істотна слабее і ў такім стане можа стаць даволі лёгкай здабычай для рыбакоў, як і прастадушны чалавек — для мацёрых крымінальнікаў.

Але ўсё-такі лепш прыслухацца да меркавання палкоўніка Генеральнага штаба рускай арміі Паўла Тарлецкага — самага знакамітага рыбака імператарскай Расіі, які ў другой палове XIX стагоддзя напісаў кнігу «З вудай па Нёмане». Ён быў перакананы, што «злавіць ласося вудай — слава і гонар рыбака; гэта ўсё роўна што забіць ільва».

Калісьці гэтая слава была даступная і нашым суайчыннікам. У Беларусі ласось засяляў амаль цалкам басейны Дзвіны і Нёмана і знік толькі ў 1960-я, пасля пабудовы вялікіх плацінаў на гэтых рэках. Але ў 2008-м высветлілася, што па Віліі асобныя ласосі ўсё ж працягваюць заходзіць у Беларусь. У самой рацэ яны сустракаюцца толькі на праходзе, а нерасцяцца ў малых рэчках і ручаях на тэрыторыі Астравецкага раёна: Тартак, Сянканка і ў некалькіх безыменных ручаях. Прычым мясцовыя жыхары даўно ведалі пра гэта, але маўчалі. Таямніцу прэсе і вучоным раскрыў Вацлаў Блажэвіч, былы рыбак, ураджэнец і жыхар вёскі Тартак.

Арэал ласося катастрафічна скараціўся не толькі ў Беларусі, але і па ўсёй Еўропе. Апроч механічных перашкод у выглядзе плацін ГЭС і вадасховішчаў, не меншай перашкодай стала ▸


ФОТА ВАЛЕРА РУСЕЛІКА, BELSAT.EU

**Вацлаў Блажэвіч, жыхар вёскі Тартак Астравецкага раёна,** у 2008 годзе раскрыў навукоўцам таямніцу, якую мясцовыя людзі старанна ад усіх хавалі: ласось не да канца знік з тэрыторыі Беларусі.

► якасць вады ў рэках. І цяпер наяўнасць ласося ў водах, дзе ён гістарычна адзначаўся, лічыцца адным з яскравых і сімвалічных індыкатараў аднаўлення якасці вады. Вяртанне ласося ў раку Лаган у Паўночнай Ірландыі ў 1999 годзе адзначылі ўсталяваннем яму помніка ў сталіцы краю Белфасце, які ў народзе ахрысцілі папросту «Вялікая рыба».

Падобным чынам адзначылі ў 2018-м замацаванне ласося на пастаяннае жыхарства і на паўночным захадзе Беларусі — у Астраўцы і ў аграгарадку Варняны. Беларускія помнікі прысвечаныя кумжы — самай распаўсюджанай у нас рыбе сямейства ласасёвых. Яна была на мяжы поўнага знікнення, але намаганнямі зоаахоўнікаў пакрысе ўзнаўляе папуляцыю. Супраць 10–20 асобін, якія сустракаліся ў 2000-я, цяпер штогод на нераст прыплывае каля сотні ручаёвых ласосяў.

### Ласось плыў па Ласосне

Адносна шырокае распаўсюджанне ласося ў «балтыйскай» частцы Беларусі ў даўнія часы пацвярджаецца многімі фактамі тапанімікі, геральдыкі, гістарычнымі дакументамі.

Левы прыток Нёмана (трохі вышэй за Гродна) называецца Ласосна ці Ласасянка. Частка гэтай ракі ў XIX стагоддзі служыла мяжой Расійскай імперыі спачатку з Прусіяй, потым з Варшаўскім герцагствам, а затым — з Царствам Польскім у складзе гэтай жа імперыі. Перад вайной 1812 года яна атрымала шырокую вядомасць, бо яе часта пераплывалі прыхільнікі аднаўлення Рэчы Паспалітай, каб трапіць у войска Юзафа Панятоўскага. Напамінам пра гэта служаць радкі з «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча:


WIKIMEDIA COMMONS

Вяртанне ласося ў раку Лаган у Паўночнай Ірландыі ў 1999 годзе адзначылі ўсталяваннем яму помніка ў сталіцы краю Белфасце, які ў народзе ахрысцілі папросту **«Вялікая рыба»**.

Пасля, яго ўкараўшы,
калі Бог паможа,
Да брацццяў за Ласосну
ўдасца трапіць, можа.
*(Пераклад Пятра Бітэля)*

Яшчэ некалькі беларускіх рэчак называюцца Лоша, Лошыца. Адна з іх — прыток Віліі, у тым самым адзіным на сёння «ласосевым кутку» краіны. А другая цячэ па Капыльскім і Уздзенскім


ФОТА МЕЧЫСЛАВА СУПРОНА, HRODNA.LIFE

**Калісьці тут, па Ласосне, праходзіла мяжа.** Побач з ужо разбураным вадзяным млынам месціліся памежная застава і карчма.

раёнах і ўпадае ў Нёман у самых ягоных вярхоўях.

Вакол іх назваў ёсць спрэчка. Адны выводзяць іх ад «лошы», гэта значыць ласіхі. Іншыя — ад літоўскага *lašiša* — «ласось». Каб трапіць у нёманскую Лошу, моцнай і ўпартай рыбе трэба было некалі прайсці ад вусця Нёмана ўгару амаль 1 000 км!

Пасля гэтага не здзіўляе, што два ласосі — старадаўні герб мястэчка Любча, размешчанага на пару соцень кіламетраў ніжэй.

Былую наяўнасць ласосяў на гэтым участку Нёмана пацвярджае і адна са шматлікіх баек Караля Станіслава Радзівіла Пане Каханку. Паводле Тадэвуша Булгарына, Радзівіл часам распавядаў, што аднойчы, купаючыся ў Нёмане, злавіў рукамі велізарнага ласося. Не здолеўшы выцягнуць яго на бераг, ён быў вымушаны яго асядлаць і быццам бы праплыў на ім верхам 32 кіламетры да самага Свержаня. І вярнуўся ў Нясвіж пешкі ў той самы момант, калі па ім, як па тапельцу, ужо служылі памінальную імшу.

### Залаты ласось

Пакуль нарвежцы не навучыліся разводзіць ласося



Герб Любчы.



**Помнік кумжы (людзі кажуць проста «ласосю») у Астраўцы, 2018 год.** Скульптар Аляксандр Шомаў. Рыба выяўленая ў момант, калі ў скачку пераадольвае парог, імкнучыся на нераст у родныя мясціны.

на аквафермах, дазволіць сабе яго маглі толькі самыя багатыя людзі. У нашых краях, да таго ж, яго ніколі не вадзілася столькі, колькі ў халадняводнай Скандынавіі.



Герб Астраўца з кумжай.

## Жыгімонт Стары ласося прыраўноўваў да 360 звычайных рыбін

Любілі ласося каралева Ядвіга і Ян III Сабескі, многія іншыя манархі і магнаты. Рэестр 1521 года, які вызначаў парадак дастаўкі харчавання на стол Жыгімонта Старога гарадамі Кароны Польскай, дае такія цікавыя звесткі. Радам і Сандомір з рыбы павінны былі даставіць на каралеўскі двор па два ласосі ў год. У той час як іншыя гарады такога ж памеру, дзе не лавілі чырвоную рыбу, павінны былі адвезці манархам па 12 коп рыбы (720 штук). Гэта значыць, тагачасныя чыноўнікі прыраўноўвалі аднаго ласося да 360 звычайных рыбін!

Што да рынкавых цэнаў, то ў гэты час капа вугроў каштавала ў сярэднім 16 польскіх грошаў, або ўсяго каля чвэрці гроша за вугра. За вялікага шчупака прасілі 1,5–5 грошаў. Малы ласось пры гэтым каштаваў 7 грошаў (як 26 вугроў), вялікі — 18–21 грошаў, а «агромны» (цяжка сказаць дакладна, якой вагі) — ажно 36 грошаў.

У 1692 годзе райца магілёўскага магістрата купіў «у жыда» на мясцовым рынку ласося (хутчэй за ўсё, невялікага) ▸

за 48 асмакоў — тых жа польскіх грошаў, але ўжо моцна дэвальваваных. У гэты ж час мінімальны штодзённы заробак найманага працаўніка ў Магілёве складаў 12–15 асмакоў, а самы танны селядзец каштаваў 2 асмакі.

Невядома, адкуль той ласось трапіў у Магілёў: у басейне Дняпра гэтая рыба не водзіцца. Таму яго прывезлі або з Літвы ці Польшчы, або з рэк балтыйскага ці нават беламорскага, мурманскага басейнаў Расіі. Вядома, што свежая рыба такія падарожжы перанесці не магла, а марожанай тады не было. Таму гэта была або сушаная, або маласольная рыба.

Сушаны ласось тых часоў — ачышчаны і вытрыбушаны, трохі падсолены, разрэзаны ўздоўж напалам, а затым падвялены. У летнюю спёку такая рыба можа захоўвацца не больш за тыдзень, узімку — дастаткова доўга. Маласольнага ласося пагружалі ў адносна слабы расол у шчыльна закрытых бочках.

Вышэй за ласося сярод даступных у нашых водах рыб цаніўся толькі асётр. А наступным па вартасці (хаця і з адчувальным адрывам) лічыўся шчупак (гл. пра яго артыкул у № 2/2019 «Нашай гісторыі»). Улюбёным спосабам прыгатавання і шчупака, і ласося ў сармацкай кухні было «на жоўта» — тушэнне ў соусе з разынкамі, мускатным арэхам, перцам, вяршкамі, цыбуляй. Жоўты колер соусу надаваў шафран. Гэтак высакародных рыбаў адрознівалі ад звычайных, якіх гатавалі «на шэра» — у соусе, галоўным кампанентам якога была цыбуля.

У «Кухарцы літоўскай» ласось выступае рыбай у пэўным сэнсе звычайнай, бо ў прынцыпе хаця б пару-тройку разоў за жыццё, калі не часцей, мэтавая аўдыторыя гэтай кнігі магла яго пакаштаваць. Мясцовага вылаву, канечне, бо імпарту з Нарвегіі або Ісландыі тады не існавала.

## Вяртанне дадому

Вельмі цешыць, што ласось усё-такі не цалкам знік з нашых водаў — дзякуючы таму, што Вілія ўпадае ў Нёман вышэй за плаціну Ковенскага вадасховішча. Помнікі чырвонай рыбе, як і школьны інфармацыйны цэнтр пра ласося ў Варнянах, з'явіліся не на пустым месцы. У апошнія гады эколагі правялі там нямала валанцёрскіх лагераў па аднаўленні натуральнага асяроддзя пражывання ласося. Ліквідуюцца лішнія бабровыя плаціны, уладкоўваюцца перакаты, прыбіраецца пабытавае смецце. Вадазліўныя трубы ачышчаюцца ад нанесеных дажджамі пяску і галечных наносаў. Падчас нерасту (кастрычнік – лістапад) берагі нераставых рэк і ручаёў патрулююцца ад браканьераў. У найбліжэйшых марах — рэгулярнае зарыбленне «ласосевых» рэк маляўкамі, набытымі ў рыбаводаў той жа

## Рэцэпты з «Літоўскай кухаркі» 1913 года



**Ласось у маянэзе з гарнірам.** Каляровая ілюстрацыя з выдання «Літоўскай кухаркі» 1913 года.

### Пячыста з ласося

- 2–2,5 кг ласося
- 200–250 г сала
- соль
- 1 морква
- 1 пятрушка
- палова лыжкі масла
- 1–2 шклянкі булёну
- 1/4 шклянкі мадэры
- 1/4 лімона

Пасаліць вычышчанага і вытрыбушанага ласося, пакінуць у холадзе на некалькі гадзін. Нашпігаваць салам, пячонкай самой рыбы, дробна нарэзанай гароднінай. Загарнуць у тонкія лустачкі сала і паставіць на блясе ў духоўку, накрыўшы прамасленай пергаментнай паперай. Як толькі пачне падрумяньвацца, паліваць булёнам і мадэрай. Перад падачай акрапіць выціснутым сокам лімона.

### Ласось па-літоўску

- 1 кг ласося (у жывой вазе)
- 40 г масла
- 50 г алівак
- 100 мл белага сухога віна
- пятрушка, соль, перац, цукар, гваздзік, лімонны сок — на смак

Ласося разрэзаць уздоўж напалам, выдаліць хрыбет з максімумам костак, зняць скуру з луской (або ўзяць гатовае філе). Пакраіць на порцыі наўскос, вымыць, асушыць, акрапіць лімонным сокам, пасыпаць соллю і перцам і пакінуць у халодным месцы сама меней на 30 хвілін. Затым скласці ў рондаль, дадаць прыправы, аліўкі, заліць растопленым маслам і вінам і тушыць да мяккасці.

«Гэта, я яшчэ пацаном быў, і мой бацька Антось, гэта яшчэ за польскім часам было, паехаў па каменне, думаў нейкі фундамент рабіць. І гэтым месцам, як мы завём, Чортаў мост, пачаў пабарабаніць там, і відзеў: пайшло нешта там вялікае на той бок, на мялі ганяе рыбку. Ён піхнуўся, а былі такія крукі, ці капачы. Дык ён піхнуўся на той бок — і там ласось. Дык трыццаць дзве кілі ласося. Было гэта ў 1938 ці 1937 годзе. Ласось — гэта ж ого! Нават не каштаваў, вельмі дорага, занеслі жыдам за грошы. Пра гэты случай нават у польскіх газетах было напісана — «Антося з ласося». Нельга ж было лавіць, але ж злавіў такую рыбіну не спецыяльна ж асцямі ці сеткай.
Ужо ў колькі раз ісцёк срок даўнасці з тога дня, прайшоў, дык прызнаюся. Я гадоў дваццаць назад на лучніцы толькі на чатыры кілі ласося забіў».

*Віктар Сапач, вёска Паддубок Маладзечанскага раёна*




З кнігі Міхася Міхалевіча **«Пра Вяллю, рыбу і рыбалку»**.

Нарвегіі. Спусціўшыся ўніз па Віліі і Нёмане ў мора, яны абавязкова дарослымі будуць вяртацца дадому, бо ласось мае ўнікальную памяць на смак і пах роднай вады.

Так што справа адраджэння беларускай папуляцыі ласося паволі рухаецца. Хаця пакуль невядома, як на дабрабыце нашага героя адаб'ецца хуткі запуск Беларускай АЭС. Ёсць небяспека, што ласосевыя ручаі пасля гэтага абмялеюць і пацяплеюць, і тады шляхетная рыба наўрад ці зможа тут размнажацца.

Прыкладам захавання ласося можа стаць для нас суседняя Літва. Там мерапрыемствы па ахове рыбы і асяродкаў яе нераставання далі такі плён, што сёння гэта там ужо прамысловы від. Нават у віленскім Зарэччы (Ужупісе) ласося можна лёгка заўважыць у Віленцы падчас нерасту.

Тычыцца гэта і іншых балтыйскіх рыб, некалі славутых на поўначы ды захадзе Беларусі, — стынкі і сялявы (пра апошнюю гл. у артыкуле пра полацкія кулінарныя спецыялітэты ў № 9/2019 «Нашай гісторыі»). Калі б мы, на прыклад Літвы і паўночна-ўсходняй Польшчы, аднавілі папуляцыі гэтых рыб, іх спартыўны і прамысловы лоў, вярнулі іх у рэстараннае меню і ў гістарычную памяць — тады і мы змаглі б прэтэндаваць на тое, што ў пэўным важным аспекце ажыўляем культурны код Вялікага Княства Літоўскага. Пакуль жа, нягледзячы на некаторыя поспехі, гэта застаецца пад вялікім пытаннем. ◆



**«Аблава на ласося ў Пянінах».** Дыярама польскага мастака Людвіка Стасяка, 1900 год. У міжваеннай Польшчы рэпрадукцыі гэтага сюжэта масавым накладам выдавалі на паштоўках. Ласось, якога на самой карціне не бачна, тут выступае сімвалічным увасабленнем жывой прыроды, яе духу і мудрасці.

# «Не зусім асвоіўся з ідэалогіяй Чырвонай арміі...»

# Генерал-беларус Мікалай Трыкоўскі

**Восенню 1917 года ў Пскове адбыўся арганізацыйны сход беларусаў, пераважна вайскоўцаў і эвакуіраваных чыгуначнікаў. Віленская газета «Гоман» паведамляла пра яго: «Сабралася чалавек 30, а дзеля таго, што сабранне было на невялікай прыватнай кватэры, дык усе стаялі… Прыйшоў і камендант места генерал Трыкоўскі. Гаварыў генерал па-беларуску і так расчуліўся, што чуць не плакаў». Што гэта за генерал, які так эмацыйна вітаў нацыянальны рух? Піша Андрэй Блінец.**

## Змяніў рызу на мундзір

Мікалай Трыкоўскі нарадзіўся 6 снежня 1864 года ў мястэчку Азарычы Мінскай губерні (цяпер Калінкавіцкі раён Гомельскай вобласці). Калі яму не было і трох гадоў, памёр бацька, і сям'я пераехала ў Сіняўку Слуцкага павета (цяпер Клецкі раён Мінскай вобласці), дзе маці атрымала месца прасфорніцы пры мясцовай царкве. Тут Мікалай скончыў народнае вучылішча, а пасля паступіў у Мінскую духоўную семінарыю, у якой правучыўся чатыры гады, паказваючы някепскі вынік. Але кінуў семінарыю дзеля Рыжскага пяхотнага юнкерскага вучылішча, якое скончыў у ліку найлепшых. Тады такія змены духоўнай прафесійнай дарогі на вайсковую



**Капітан Мікалай Сямёнавіч Трыкоўскі.** Фотаздымак з часопіса «Летопись войны с Японией» — 1905 год, № 41.

не былі рэдкасцю — прыгадаем хоць бы іншага генерала-беларуса з той эпохі Платона Лячыцкага, пра якога пісаў Віталь Чырвінскі ў № 4/2018 «Нашай гісторыі».

## Баявое хрышчэнне

1 верасня 1886 года малады падпаручнік Мікалай Трыкоўскі атрымаў накіраванне ў 117-ы пяхотны полк, які дыслакаваўся ў Бабруйску, а пазней — у Слоніме. Далей пайшла тыповая біяграфія афіцэра мірнага часу. Чын паручніка, перавод у Вільню, дзе паслядоўна займаў пасады ад'ютанта і справавода пяхотнага вучылішча, камандаваў юнкерскай ротай і батальёнам. У 1902 годзе — ордэн Святога Станіслава, першая ўзнагарода за выслугу гадоў. А ў 1904 годзе Трыкоўскага чакала баявое хрышчэнне — вайна з японцамі ў далёкай Маньчжурыі.

**Трыкоўскі падняўся насустрач японцам у расшпіленым мундзіры з рэвальверам у руцэ**

На чале роты сібірскіх стралкоў афіцэр вызначыўся ў 12-дзённай бітве на рацэ Шахэ. Камандзір 4-га Усходнесібірскага палка падпалкоўнік Ранцоў у рапарце адзначаў: «Капітан Трыкоўскі, нягледзячы на раз'яднанасць свайго ўчастка, які выходзіў на два франты, цудоўна

### Кузня кадраў

Сярод выпускнікоў Рыжскага пяхотнага вучылішча былі Давід Сімансан — будучы стваральнік арміі незалежнай Латвіі — і Люцыян Жалігоўскі — кіраўнік Сярэдняй Літвы.

## Расійска-японская вайна (1904–1905 гады)

вялася за кантроль над Маньчжурыяй, Карэяй і Жоўтым морам. У ходзе вайны расійская армія пацярпела шэраг паражэнняў, найбуйнейшымі з якіх сталі страта крэпасці Порт-Артур, разгром сухапутных войскаў пад Мукдэнам і Ціхаакіянскай эскадры каля Цусімы. Расійская імперыя была вымушана сысці з Маньчжуры і перадаць Японіі паўднёвую частку Сахаліна, што негатыўна адбілася на яе міжнародным прэстыжы. Паразы на франтах сталі адной з прычын Першай расійскай рэвалюцыі 1905–1907 гадоў.
Па некаторых падліках, у складзе войскаў, накіраваных на Далёкі Усход, магло быць да 100 000 беларусаў. Выхаванец Полацкага кадэцкага корпуса Раман Кандраценка кіраваў абаронай Порт-Артура, ураджэнец Магілёўшчыны Васіль Гурка камандаваў асобнай кавалерыйскай брыгадай, генерал Кіпрыян Кандратовіч, будучы вайсковы міністр БНР, браў удзел ва ўсіх найбуйнейшых бітвах той вайны.
У спісах афіцэраў, якія загінулі пры абароне Порт-Артура, значыцца штабс-капітан 28-га Усходнесібірскага стралковага палка Уладзімір Трыкоўскі. Хутчэй за ўсё — малодшы брат нашага героя.

спраўляўся з цяжкай задачай і сваёй упэўненасцю даваў надзею на пасьяховы зыход бою». Падчас адной з найбольш жорсткіх атак японцы падышлі на нейкіх пятнаццаць крокаў да ротных пазіцый. Трыкоўскі ўзняўся ім насустрач у расшпіленым мундзіры з рэвальверам у руцэ. Ведучы шчыльны агонь і закідваючы непрыяцеля камянямі, сібірцы здолелі адбіць атаку, літаральна заваліўшы схіл варожымі трупамі.

### Ад вайны да вайны

Па выніках маньчжурскай кампаніі Мікалай Трыкоўскі дaслужыўся да падпалкоўніка, быў адзначаны Залатой зброяй «За адвагу» і ордэнам Святога Георгія 4-й ступені — найвышэйшай афіцэрскай узнагародай, якая давала права на спадчыннае дваранства. На зваротным шляху з Кітая ў Вільню было дастаткова часу, каб абдумаць і асэнсаваць прычыны паражэнняў у бітвах з японцамі. Вынікам разваг стаў падручнік «Баявая падрыхтоўка роты і батальёна па досведзе вайны 1904–1905 гадоў», які выйшаў у друкарні Віленскай вайсковай акругі. Мяркуючы па ўсім, мэтавая аўдыторыя прыхільна сустрэла кнігу. У 1910 годзе, дапоўненую і перапрацаваную з улікам заўваг, яе перавыдалі ў Санкт-Пецярбурзе.

З 1909 года палкоўнік (зноў новы чын!) камандаваў 104-м пяхотным палком, расквартараваным у Аўгустове. Трыкоўскі меў рэпутацыю баявога афіцэра, строгага, але здольнага ўнікаць ва ўсе патрэбы свайго фармавання. Сярод іншага камандзір адмоўна ставіўся да гульні ў карты, і штабным афіцэрам, якіх ён заспяваў за гэтым заняткам, пагражала сур'ёзнае пакаранне.

На чале 104-га палка Трыкоўскі ўступіў у Першую сусветную вайну. Полк удзельнічаў у паходзе ва Усходнюю Прусію, ваяваў на тэрыторыі Польшчы. 3 лістапада 1914-га на станцыі Пнева ён адбіў атаку нямецкай кавалерыі на штаб корпуса, чым выратаваў ад палону некалькіх генералаў і вышэйшых афіцэраў. За гэты бой палкоўнік Трыкоўскі быў узнагароджаны ордэнам Святой Ганны 1-й ступені з мячамі, а за паспяховыя дзеянні пры абароне Гродзенскай крэпасці ў лютым 1915 года, дзе камандаваў брыгадай 3-й стралковай Сібірскай дывізіі, — ордэнам Святога Георгія 3-й ступені.

## 8 з 60-ці, 1 з 8-мі

Па падліках даследчыка Вячаслава Бандарэнкі, за ўсю Першую сусветную вайну ордэн Святога Георгія 3-й ступені атрымалі 60 чалавек, сярод іх 8 беларусаў.

### Паміж беларускім рухам і Чырвонай арміяй

Здавалася, кар'ера ішла без перашкодаў угару. Але час мяняўся.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі армія ператваралася ў некіраваны натоўп. Абразы ў дачыненні да афіцэраў станавіліся нормай. Замест выканання баявых задач праходзілі бясконцыя мітынгі. На адным з іх ужо генерал Мікалай Трыкоўскі, камандзір корпуса на Паўночным фронце, спрабаваў растлумачыць жаўнерам сэнс загаду аб перадыслакацыі, аднак у адказ быў не толькі аблаяны, але і застаўся без аўтамабіля. Прыйшлося вяртацца ў штаб пешшу. Гэты выпадак так узрушыў старога служаку, што ён падаў рапарт аб звальненні па стане здароўя.

Рапарт задаволілі часткова. У ліпені 1917-га Трыкоўскага знялі з пасады і прызначылі начальнікам гарнізона ў тылавы Пскоў. Менавіта тут ён сутыкнуўся з беларускім рухам, у якім спрабаваў знайсці новую апору. Відаць, не без яго актыўнага ўдзелу вайскоўцы-беларусы вылучаліся тут у асобныя роты і батальёны, дэлегаты Пскоўскай рады ездзілі на Усебеларускі з'езд у Мінск. Хто ведае, якую карысць мог бы прынесці баявы генерал Беларускай Народнай ▸



**Мікалай Трыкоўскі з вайсковым міністрам Уладзімірам Сухамлінавым** (сядзіць першы справа) на назіральным пункце дывізіі, 1915 год.

Рэспубліцы пры спрыяльных абставінах. Але абставіны тыя так і не скляліся. Затое ў паслугах генерала аказалася зацікаўленай створаная бальшавікамі Чырвоная армія.

Не жадаючы браць удзел у братазабойчай грамадзянскай вайне, былы камандзір корпуса нейкі час імкнуўся захаваць нейтралітэт, але з пачаткам нямецкага наступлення на Петраград адгукнуўся на заклік Камітэта рэвалюцыйнай абароны дапамагчы ў фарміраванні рабочых атрадаў. 54-гадовы вайсковец, адзначаны дзевяццю ордэнамі і Залатой зброяй, заняў невысокую для свайго чыну пасаду: камандзіра Стара-Рускага чырвонаармейскага атрада. У Маскве выйшлі яго дапаможнікі «План заняткаў у роце для падрыхтоўкі байца» і «Бой роты з кулямётамі ў наступленні і абароне ў палявой вайне».

### Генерал-бібліятэкар

Але ў верасні 1918 года «ваенспец» (так тады звалі прафесійных вайскоўцаў з царскай арміі, узятых на службу бальшавікамі) Трыкоўскі з-за хваробы мусіў звольніцца са службы. А новае месца ягонай працы было нечаканым: ён стаў загадчыкам Цвярской цэнтральнай публічнай бібліятэкі.

## Яго абвінавачвалі ў бюракратызме і неадпаведным знешнім выглядзе

На цывільнай пасадзе Трыкоўскі не страціў вайсковай спраўнасці. Былы служака здолеў наладзіць ацяпленне памяшкання, арганізаваў пераплётную майстэрню і сам займаўся класіфікацыяй кніг. А яшчэ ён быў... старшынёй агароднай камісіі і дабіваўся для сваіх падначаленых найлепшых участкаў на камунальных агародах.
Людзі, якія ведалі Трыкоўскага ў гэты перыяд, успаміналі: «Чалавек ён быў цудоўны! Запальчывы, але па-сапраўднаму добры, які хутка адыходзіў... працаваў добрасумленна і нават рашуча, але апалітычна».

Сапраўднай бядой для бібліятэкі ў гэты, здавалася б, неспрыяльны для чытання час сталі несумленныя чытачы, якія любымі шляхамі выносілі кнігі. Аднойчы ў бібліятэку запісалася адразу ўся сям'я: муж, жонка і дзеці. Кожны ўзяў па 1–2 тамы «Жыцця жывёл» Альфрэда Брэма, пасля чаго іх больш не бачылі. Каб ўратаваць хоць нешта, загадчык хаваў некалькі тамоў з кожнага збору твораў у асобную шафу, выдача з якой была забаронена.

Але жаданне адстаўнога генерала навесці ў бібліятэцы армейскі парадак прыйшлося даспадобы не ўсім.
На Трыкоўскага пайшлі скаргі. Яго абвінавачвалі ў бюракратызме і... неадпаведным выглядзе: акуратная барада і акуляры ў залатой аправе, відаць, не стасаваліся з сапраўдным абліччам савецкага бібліятэкара. Ці то з-за скаргаў, ці то па іншай прычыне Мікалай Трыкоўскі ўрэшце сышоў з бібліятэкі і вярнуўся на вайсковую службу.
Праўда, ужо не на страявую, а на педагагічную.

### «Ведае прадмет і ўмее перадаць...»

Спачатку ён выкладаў тактыку ў Акруговай школе дапрызыўнікаў, потым — у 9-й Цвярской кавалерыйскай школе, а ў 1923 годзе быў пераведзены ў Маскву выкладчыкам методыкі навучання Вышэйшай тактыка-стралковай школы ўдасканалення каманднага складу. Вось вытрымкі з яго атэстацыі: «...адзін з вельмі нямногіх [выкладчыкаў], які ведае свой прадмет і ўмее яго перадаць. Чалавек таленавіты, энергічны і рашучы. З вялікай ініцыятывай і розумам. Мае вялікі баявы, страявы і педагагічны досвед... Чалавек з цвёрдым характарам і воляй. Карыстаецца аўтарытэтам як сярод выкладчыкаў і слухачоў школы, так і за сценамі школы. Многа працуе над сваім прадметам, многа піша...». З напісанага і выдадзенага ў гэты час вядома каля дзясятка работ. Таксама сустракаецца інфармацыя, што ён быў рэдактарам спецыялізаванага вайсковага часопіса «Выстрел».

Выснова цытаванай атэстацыі гучыць наступным чынам: «Сваю справу ведае выдатна. Не зусім асвоіўся з ідэалогіяй Чырвонай арміі, што часам праяўляецца на занятках. Як высокакваліфікаванага работніка пакінуць на займанай пасадзе». Атэстацыя падпісана 10 чэрвеня 1925 года.

Але ўжо 16 сакавіка 1926 года выкладчык методыкі курсаў удасканалення каманднага складу Трыкоўскі Мікалай Сямёнавіч быў выключаны са спісаў Чырвонай арміі ў сувязі «са смерцю». Пахаваны генерал-беларус у Маскве на прэстыжных Новадзявочых могілках, побач з жонкай Марынай. ◆



**Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах.** Вып. 9 / Уклад. Д. Кандакоў, А. Фядута. — Мінск: Лімарыус, 2020.

Выйшаў у свет чарговы, ужо дзявяты, выпуск беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час». Асноўны тэматычны блок альманаха гэтым разам мае назву «Беларусы ў Францыі. Французы ў Беларусі. Францыя і Беларусь». У ім друкуюцца матэрыялы пра медыка-натураліста Жана-Эманюэля Жылібера, удзельніка паўстання 1830–1831 гадоў, выдаўца і літаратара Леана Зянковіча, брата вядомага беларускага дзеяча Вацлава Іваноўскага — Тадэвуша Іваноўскага (Тадаса Іванаўскаса), паэта Алеся Дудара, прадстаўнікоў беларускай эміграцыі ў Францыі і французскіх езуітаў у Беларусі.
Акрамя таго, у выпуску ёсць традыцыйныя рубрыкі «Archivalia» і «Пачнем збіраць зярно к зярняці...». Тут змешчаны матэрыялы, прысвечаныя паэту, аўтару паэмы «Энеіда навыварат» Вікенцію Равінскаму, літаратаразнаўцу Яўгену Барычэўскаму, пісьменніку XIX стагоддзя Яну Баршчэўскаму, Міхаілу Мураўёву-Вешальніку, уніятам-пакутнікам.
Выданне можна набыць у мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, 72, каля станцыі метро «Акадэмія навук»).




# Сардзінія *і яе крыўда на Рым*

**Яны мараць пра незалежнасць ці хоць бы большую аўтаномію. А ім трэба ратаваць мову, перакананы доктар гісторыі Алесь Белы, які пабываў на гэтым востраве рэдкага хараства.**

Нядаўна дэлегацыі кааператыва «Валожынскія гасцінцы» пашчасціла правесці некалькі дзён у паездцы па поўдні Сардзініі дзякуючы праграме Еўрасаюза «МОСТ». Нас запрасіла ў госці кіраўніцтва невялікай камуны Гуазіла, бо некаторыя бакі іх вясковага жыцця і дзейнасці роднасныя нашаму досведу. Такім чынам, была нагода бліжэй пазнаёміцца з другім па велічыні вострававам Міжземнага мора і аўтаномным рэгіёнам у складзе Італіі.

## Хлеб надзённы

Па тэрыторыі Сардзінія практычна роўная нашай Гродзенскай вобласці. На востраве жыве каля 1,7 млн чалавек — зусім няшмат як для Заходняй Еўропы, улічваючы спрыяльны клімат, геаграфічнае становішча і ўрадлівую глебу. Прамысловая рэвалюцыя абышла востраў — тут не склалася буйной вытворчасці і густанаселеных гарадоў.

Яшчэ на пачатку, а можа, нават і ў сярэдзіне XX стагоддзя ўзровень жыцця большасці сардзінцаў прыкладна адпавядаў беларускаму ў перыяд да калектывізацыі, не быў надта высокім. Толькі ў апошнія некалькі дзесяцігоддзяў ён істотна павысіўся, дзякуючы ў першую чаргу турыстычнаму буму, а часткова і прамысловасці. Перадусім нафтаперапрацоўчай.

Доўгае панаванне феадалізму радніць востраў з поўднем Італіі, хоць палітычна ён быў звычайна звязаны з поўначчу (або ўвогуле з іншымі краінамі). Але гэта цалкам асобны рэгіён, паводле самаадчування большасці жыхароў — асобная краіна пад палітычнай уладай Італіі.

## Гісторыя Сардзініі ў датах

**XVIII стагоддзе — 238 год да н. э.** — час існавання нурагічнай цывілізацыі. Назва паходзіць ад вежаў, якія паўсюль будаваліся старажытнымі сардзінцамі.

**VII стагоддзе да н. э.** — пачатак фінікійскай каланізацыі.

**535 г. да н. э.** — усталяванне ўлады Карфагена.

**238 г. да н. э.** — заваёва Сардзініі Рымам. Яго валадаранне доўжылася 694 гады.

**456** — заваяванне вандаламі, усходнімі германскімі плямёнамі.

**534** — усталяванне ўлады Візантыйскай імперыі.

**VIII стагоддзе** — паступовы распад вострава на 4 дэ-факта незалежныя дзяржавы — юдыкаты.

**Пачатак XIII стагоддзя** — усталяванне кантролю над часткай Сардзініі Пізанскай рэспублікай.

**1297** — папа Баніфацый VIII абвясціў пра стварэнне Сардзінскага каралеўства, прызначанага для караля Арагона.

**1324** — захоп арагонцамі часткі вострава. Аб'яднанне большай часткі вакол юдыката Арбарэя.

**1420** — ліквідацыя апошняга незалежнага анклава Арбарэі — Сасары, пераход усяго вострава пад уладу Арагона, а пазней аб'яднанай Іспаніі.

**1708** — пераход да Аўстрыі ў выніку вайны за іспанскую спадчыну.

**1720** — стварэнне Сардзінскага каралеўства (фактычна пад уладай Савоі, пазней П'емонта).

**28 красавіка 1794** — стыхійны бунт жыхароў Кальяры, а затым і іншых гарадоў, супраць засілля п'емонтцаў. З 2018 года гэтая дата адзначаецца як «Дзень Сардзініі»

**1861** — уваходжанне ў аб'яднанае Італьянскае каралеўства.

**1948** — стварэнне аўтаномнага рэгіёна Сардзінія ў складзе Італьянскай Рэспублікі.

**1997** — наданне сардзінскай мове фармальнага афіцыйнага статусу.



WIKIMEDIA COMMONS

**Сцяг Сардзініі**, на якім выяўленыя чатыры галавы пераможаных маўраў. Адносна яго паходжання і сімвалізму існуюць розныя версіі. Паводле адной, галовы сімвалізуюць чатыры старажытныя сардзінскія дзяржавы-юдыкаты, якія паспяхова змагаліся з нападамі з боку маўраў. Паводле іншай, тут знайшлі адлюстраванне падзеі ваеннай гісторыі XIV–XV стагоддзяў, а колькасць галоў роўная колькасці буйных перамог сардзінцаў над тымі ж маўрамі.

На востраве сёння папулярныя ідэі дасягнення яшчэ большай, чым цяпер, аўтаноміі — аж да поўнай незалежнасці. Некалькі тысяч прыхільнікаў мае нават экзатычная ідэя далучэння да Швейцарыі ў якасці «марскога кантона».

Турыстычны бум прынёс на Сардзінію значныя інвестыцыі. Летам цэны ў гатэлях і рэстаранах узлятаюць у некалькі разоў — да такой ступені, што некаторыя мясцовыя з'язджаюць у разгар сезону кудысьці ў менш турыстычныя рэгіёны Еўропы, каб не толькі адпачыць, але і ашчадзіць. Наплыў турыстаў у пэўнай ступені паспрыяў і актуалізацыі такіх элементаў сардзінскай культуры, як музычны і танцавальны фальклор ды кухня. Але англійскую мову, не кажучы пра іншыя, тут ведаюць дагэтуль кепска.

Найбольш папулярная ў багатых турыстаў — поўнач вострава. У пачатку 1960-х гэтыя мясціны прыглянуліся лідару сусветнай ісмаіліцкай грамады (пра ісмаілізм гл. у артыкуле Арцёма Гарбацэвіча пра Таджыкістан у папярэднім (2/2020) нумары «Нашай гісторыі») і мультымільянеру Ага-Хану, які ад нараджэння жыве ў Швейцарыі. Ён так актыўна забудоўваў мясцовую Коста-Смеральду (Ізумрудны бераг) раскошнымі гатэлямі, што цяпер сярод найбагацейшых людзей свету гэтая частка вострава мае рэпутацыю не горшую, чым французскія Каны і Ніца. Кошты тутэйшай нерухомасці — рэкордныя ў Еўропе: да 300 тысяч еўра за квадратны метр.

### Нурагічная культура

Нурагі — адзін з сімвалаў Сардзініі, які ўсяляк абыгрываецца ў сучасным мастацтве і рэкламе. Гэта старажытны тып вежы з вельмі тоўстымі мурамі, складзенымі метадам сухой муроўкі, і адносна малымі ўнутранымі конусападобнымі памяшканнямі. З 8 000 знойдзеных нурагаў абсалютная большасць дагэтуль амаль зусім не раскапаная. Калі не лічыць таго, што здолелі наскрэбсці недалёка ад паверхні «чорныя археолагі». Дакладна невядома, навошта іх продкі сардзінцаў будавалі. Сучасныя навукоўцы найбольш схіляюцца да таго, што спачатку гэта былі абарончыя збудаванні, штосьці накшталт невялікіх замкаў, а потым частка з іх ▸



ARCHAEOLOGIE.UZH.CH

**Нурагічная скульптура. Ваяр.**



SHUTTERSTOCK.COM BY SBELLOTT

**Вежы, што засталіся ад так званай нурагічнай цывілізацыі,** сталі сімваламі Сардзініі.

ператварылася ў храмы. Але існуе і процьма іншых версій, чым былі нурагі: рэзідэнцыямі правадыроў, месцамі іх «тусовак» і г. д.

Паколькі ў нурагічных продкаў сардзінцаў не было пісьменнасці, а таксама таму, што мэйнстрым вывучэння старажытнага свету сфарміраваўся без удзелу іх нашчадкаў, афіцыйныя археолагі дагэтуль надавалі мала ўвагі гэтай археалагічнай культуры. Як мне падалося, сучасныя сардзінцы бачаць у гэтым доказ сваёй адвечнай «перыферыйнасці», каланіяльнага статусу, пэўнай закінутасці. Маўляў, усё, што ад нас было патрэбна Вялікаму Свету, — гэта збожжа, а чым і кім мы былі — нікому нецікава.




WIKIMEDIA COMMONS

**Карта распаўсюджанасці на востраве сардзінскіх дыялектаў** і іншых моў.

## Мова, якую шкада страціць

Калі параўноўваць сучасны стан сардзінскай мовы са станам беларускай, то вусная мова пачуваецца трохі лепш за нашую, а вось пісьмовая істотна адстае. Але ўрбанізацыя і інфармацыйныя плыні вельмі хутка размываюць гэтую карціну. Тыповая карціна ў сучаснай сардзінскай сям'і: бабулі і дзядулі размаўляюць толькі па-сардзінску; сярэдняе пакаленне мову разумее, але ўжо амаль не размаўляе. А дзеці ўжо разумеюць толькі асобныя словы — і відавочна, што іх дзеці цалкам пяройдуць на італьянскую.

### Сардзінская Вікіпедыя

На супольнай сардзінскай мове ёсць невялікі раздзел Вікіпедыі, у якім на сёння больш за 6 300 артыкулаў, як правіла, не вельмі інфармацыйна насычаных.



Страта сардзінскай мовы была б вялікай прыкрасцю для чалавецтва. З усіх раманскіх моў яна найбольш блізкая да лаціны і мае старажытныя пісьмовыя помнікі X–XI стагоддзя — з часоў, калі многія еўрапейскія мовы яшчэ былі наборам вусных беспісьменных дыялектаў. Адной з прычын такога ранняга выдзялення мовы ў асобную было панаванне на востраве Візантыі. Моўны і культурны кантраст з далёкай метраполіяй падштурхнуў астравіцянаў да развіцця ўласнай пісьменнасці, якая, дарэчы, пэўны час нават выкарыстоўвала грэцкі алфавіт.

Выдатным помнікам сардзінскай мовы лічыцца *Carta de Logu* — звод законаў Элеаноры Арбарэйскай, самай вядомай з правадыроў самастойнай тутэйшай дзяржавы, юдыката Арбарэя. Ён складзены ў 1392 годзе, дзейнічаў аж да 1827-га, па сваёй сімвалічнай важнасці для гісторыі і мовы краіны нагадвае наш Літоўскі Статут.



**Панарама горада Кальяры,** сталіцы Сардзініі.

Як і любая іншая жывая мова, сардзінская не хоча паміраць, супраціўляецца. Але складанасці дадае тое, што адзінай сардзінскай мовы не існуе. Ёсць як мінімум два яе істотна адрозныя літаратурныя варыянты: лагударыйскі (на поўначы, апроч крайняй) і кампіданскі (на поўдні), кожны з якіх сфарміраваўся на базе сваёй групы дыялектаў. Лагударыйскі лічыцца больш архаічным і «чыстым», кампіданскі зазнаў большы ўплыў каталонскай і іншых міжземнаморскіх моў.

PINTEREST.COM



**Сардзінскі жоўты** — дамы на адной з вуліц горада Кальяры.

**Сардзінская мова атрымала афіцыйны статус у 1997-м, але яе агульны варыянт мясцовая моўная рада распрацавала толькі ў 2006-м**

А на самай поўначы вострава ёсць яшчэ дзве групы дыялектаў: галурыйская і сасарыйская, якія з'яўляюцца пераходнымі ад сардзінскай мовы да карсіканскай, бо падчас эпідэміі чумы XIV стагоддзя сюды перасялілася шмат карсіканцаў.

Плюс яшчэ горад Альгера, дзе распаўсюджана каталонская мова, плюс прылеглыя да Сардзініі астраўкі Сан-П'етра і Сан-Антыока з генуэзскім дыялектам... Паспрабуй тут усталяваць адзіны літаратурны стандарт! Фактычна нават для нешматлікіх радыкальных нацыяналістаў з розных раёнаў

### «Хутчэй сардзінец, чым італьянец»

Апытанне грамадскай думкі, якое ў 2012 годзе супольна праводзілі тут універсітэты Кальяры і Эдынбурга, дало наступныя вынікі стаўлення да гіпатэтычнай незалежнасці: 41% — за (з іх 10% таксама за выхад з Еўрасаюза), 46% хацелі б больш шырокай аўтаноміі і толькі 13% у цэлым задаволеныя цяперашнім статусам.
У іншым пытанні таго ж даследавання высвятлялася, кім сябе адчуваюць мясцовыя жыхары:

— сардзінец, дакладна не італьянец (26%);
— хутчэй сардзінец, чым італьянец (37%);
— у роўнай ступені сардзінец і італьянец (31%);
— хутчэй італьянец, чым сардзінец (5%);
— італьянец, дакладна не сардзінец (1%).

BILLSPORTSMAPS.COM





Найбольш папулярная ў багатых турыстаў — поўнач вострава.

▶ вострава асноўная мова зносін міжсобку — італьянская.

Так што хоць у 1997 годзе сардзінская мова фармальна і атрымала афіцыйны статус, ён шмат у чым застаецца фікцыяй. На сардзінскай, распыленай на некалькі фракцый, не выкладаюць у школе, мала выдаюць кніг, амаль не транслююць тэле- і радыёперадачы. Ва Універсітэце Кальяры першы сістэматычны курс сардзінскай мовы з'явіўся толькі ў 2017-м і складаецца ўсяго з 60-ці гадзін. Тут выкладаецца кампрамісны варыянт мовы, *Limba Sarda Comuna* («супольная сардзінская мова»), якую мясцовая моўная рада распрацавала ў 2006 годзе.

Пры адсутнасці нацыянальнай школы інтэлектуалы Кальяры і іншых гарадоў засвойваюць мову самастойна ў сталым узросце. Але такіх матываваных значна менш, чым хацелася б.

### Даўнія крыўды

Нягледзячы на стан сардзінскай мовы, за час свайго кароткага знаходжання на востраве мы ўбачылі нямала прыкметаў адметнай ідэнтычнасці. Італьянскі сцяг можна ўбачыць над вайсковымі базамі і галоўнымі ўрадавымі ўстановамі, а так паўсюль лунаюць сардзінскія сцягі.

Этыкетка галоўнага піва на востраве — *Ichnusa* — таксама ўяўляе з сябе нацыянальны сцяг. А само слова *Ichnusa* — назва вострава, што была да заваявання яго Рымам. Малочныя прадукты пераважна мясцовай маркі *Arborea* — у гонар апошняй незалежнай сардзінскай дзяржавы.

У мяне склалася ўражанне, што сваю гісторыю, у адрозненне ад


SHUTTERSTOCK.COM, BY VIKTOR GLADKOV

мовы, сардзінцы ведаюць і жыва ёй цікавяцца. На два суседнія мястэчкі, што мы наведалі, прыпадаюць тры сур'ёзныя археалагічныя музеі. А калі ў размовах усплывала пытанне пра заваяванне вострава Рымам, то складвалася ўражанне, што гэта было ледзь не ўчора і што гэта быў той самы сённяшні Рым, сталіца Італьянскай Рэспублікі.

Дарэчы, тыя самыя ноткі крыўды адчуваюцца і ў стаўленні да папскага пасаду. Рымскі папа Баніфацый VIII у XIII стагоддзі аддаў Сардзінскае каралеўства каралю Арагона, фактычна запрасіўшы таго да заваявання. Сёння большасць сардзінцаў — намінальныя каталікі, але наведванне царквы тут адно з самых нізкіх у Італіі, каля 20%. Часткова менавіта праз тую даўнюю крыўду.

## Крышку і беларускі востраў

Як ні дзіўна, на Сардзініі шмат беларусаў. У свой час сардзінцы вельмі неабыякава паставіліся да чарнобыльскай бяды, на востраве пабывала на аздараўленні каля 30 000 беларускіх дзяцей. Нямала з іх было ўсыноўлена мясцовымі жыхарамі, а хтосьці перабраўся на Сардзінію ўжо ў сталым узросце.

Нашу сустрэчу ў камуне Гуазіла суправаджала ігрой на цымбалах Таццяна з Гомеля, якая выйшла тут замуж, нарадзіла дзіця. За сняданкам у сталіцы вострава, Кальяры, сустрэлі беларусаў, якія хочуць распачаць тут бізнэс па ачыстцы сцёкаў. У нейкай краме прадавачка-зямлячка з Магілёва нейкім дзіўным чынам распазнала ў нас землякоў, калі мы нават не паспелі і слова сказаць. І ўжо каля 20 гадоў апантана працуе на развіццё двухбаковых сувязяў Ганаровы консул Беларусі на Сардзініі Джузэпэ Карбоні — колішні выпускнік мінскага «наргаса», жанаты з беларускай.

Ёсць штосьці глыбіннае і натуральнае ва ўзаемнай сімпатыі беларусаў і сардзінцаў — народаў, якія воляй лёсу апынуліся ў гістарычным цяні больш энергічных суседзяў, але цяпер са спазненнем і з цяжкасцямі ўсё-такі шукаюць сваё месца пад сонцам.

## Што ядуць, п'юць, спяваюць

Нам пашчасціла наведаць заможную аграсядзібу, якая спецыялізуецца на вырабе сыроў з авечага і казінага малака. Ужо на ўездзе нас сустрэў вялікі шампур з электрапрыводам, на якім смажылася малочнае парася (*porcetto arrosto*). Сардзінцы любяць парасяціну: клімат дазваляе ім гадаваць і карміць жывёлу круглы год. Хоць *prosciutto sardo* — мясцовыя кумпякі-прашута — таксама можна пакаштаваць усюды. Як і славуты авечы сыр пекарына (*pecorino*).

У гэтай сядзібе або ў рэстаранах Кальяры нам удалося паспрабаваць амаль усе іншыя тутэйшыя далікатэсы з турыстычных даведнікаў: равіёлі з пекарына і бульбай у таматным соусе — *culurgiones*; падсоленую ікру кефалі — *bottarga*; смажаныя авечыя трыбухі — *cordula*; ▶

### Знакамітыя сардзінцы

**Антоніа Грамшы** (1891–1937) — заснавальнік Італьянскай камуністычнай партыі, адзін з тэарэтыкаў неамарксізму.

**Грацыя Дэледа** (1871–1936) — лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1926 года. Падобна да нашай Святланы Алексіевіч, пісала не па-сардзінску, а па-італьянску.

**Энрыка Берлінгуэр** (1922–1984) — кіраўнік Італьянскай камуністычнай партыі ў 1972–1984 гадах, адзін з ідэолагаў еўракамунізму.

**Франчэска Касіга** (1928–2010) — прэм'ер-міністр Італіі ў 1979–1980 гадах, прэзідэнт у 1985–1992.


WIKIMEDIA COMMONS

**Maniola nurag** — матылёк-эндэмік Сардзініі.

варaных смаўжоў і васьміногаў; *burrida* — тушанае мяса акулы. Не абышлі мы ўвагай і славутую мясцовую міртавую настойку, *Mirto*.

Амаль у любой краме, якая спецыялізуецца на рэгіянальных прадуктах, вам без праблем зладзяць дэгустацыю набору пад назвай *Aperi Sardo*: 1–2 віды сыроў, скрылькі прашута і тунца, салёныя аліўкі — значна больш горкія, чым тыя, да якіх мы прызвычаеныя. І абавязкова келіх чырвонага паўсухога віна з вінаграду мясцовага сорту «кананау» (*cannonau*). Каштуе такі набор 10–12 еўра і можа быць падвячоркам.

Дарэчы, большасць рэстаранаў не працуе з 1–2 гадзін дня да 7–8 вечара. Зайсці ў іх можна — напрыклад, удакладніць меню. Але абслугоўваць падчас сіесты вас ніхто не будзе.

Пачуць сардзінскую музыку ў нас было мала нагодаў, але некалькі разоў чулі славутую песню пра каханне *No potho reposare* («Не магу супакоіцца»), на якую я літаральна захварэў. Відавочна, што найдаўжэй сардзінская мова захаваецца ў песнях, але насамрэч вельмі хацелася б, каб сардзінцы пераадолелі дробныя спрэчкі і сталі яе дружна ратаваць. Пачалі на ёй размаўляць, чытаць і пісаць, хоць і спяваць, вядома, не пакідалі таксама.

Нам вельмі проста ўявіць боль людзей, якія штодня адчуваюць, што яны, магчыма, апошняе пакаленне, здольнае гэта рабіць. ◆

**Песню «Не магу супакоіцца» тут выконвае сардзінскі спявак Андрэа Пародзі** — на сваім апошнім канцэрце за тры тыдні да таго, як ён памёр ад раку.





**Дэлегацыя ўласнікаў аграсядзіб Валожынскага раёна** на прыёме ў аддзеле замежных сувязяў урада Аўтаномнага рэгіёна Сардзінія. На стале — беларускі дзяржаўны, італьянскі і сардзінскі сцягі.



**Прыпынак на дарозе. Суровая прырода ў глыбіні вострава.** А што гэта ў беларусаў на галаве? Гэта аднаразовыя падкладкі пад каскі, каб выпадкова камень з нурагі не даў па галаве. А каскі яшчэ выдадуць пазней, яны шматразовыя, і падкладкі надзяваюць для гігіены.



**Хатка пастуха на аграсядзібе Ра Ро.**




**Pollice verso.** Карціна Жан-Леона Жарома, 1872 год. Pollice verso — гэтая лацінская фраза даслоўна азначае «паваротам вялікага пальца». Долю пераможанага гладыятара вызначалі гледачы. Палец уніз — забі яго. Палец угару — хай жыве.

# Чалавечае ахвярапрынашэнне, *якое стала папулярным шоу*

**Гладыятары: пра крывавы спорт старажытных рымлян піша Аляксей Казленка.**

Манументальныя руіны Калізея — сімвал Старажытнага Рыма. Вялізны будынак у самым цэнтры італьянскай сталіцы ўражвае нават сёння. А калісьці ён здаваўся каласальным.

Яго пачалі будаваць у 72 годзе пры імператару Веспасіяне, а скончылі і асвяцілі праз 8 гадоў пры яго сыне і спадчынніку Ціту. У эпоху свайго росквіту Калізей мог змяшчаць каля 50 тысяч гледачоў. Увесь гэты натоўп запаўняў трыбуны, каб убачыць любімыя відовішчы — баі гладыятараў і звярынае цкаванне.

## Забава на кожны выпадак

Упершыню гладыятарскія баі пачалі ладзіць этрускі. Калі паміраў уплывовы чалавек, яны прымушалі нявольнікаў нябожчыка або ваеннапалонных змагацца адзін з адным, каб пралітай крывёй уласкавіць духаў замагільнага свету. Гэты звычай і запазычылі рымляне, аднак у іх двубоі хутка

страцілі першапачатковую сувязь з чалавечым ахвярапрынашэннем і ператварыліся ў папулярнае шоу.

Публічныя баі гладыятараў упершыню адбыліся ў Рыме ў 264 годзе да н. э., на пахаванні сенатара Юнія Брута Перы. Побач з пахавальным вогнішчам тут не на жыццё, а на смерць змагаліся адзін з адным тры пары байцоў. У 216 годзе да н. э. спадчыннікі Марка Эмілія Лепіда зладзілі спаборніцтвы ўжо з удзелам 22 пар гладыятараў.

А на прадстаўленні, арганізаваным вядомым палкаводцам Публіем Карнэліем Сцыпіёнам у 206 годзе да н. э., адзін з адным ваявалі ўжо не толькі ваеннапалонныя, але і добраахвотнікі. Пераможца павінен быў атрымаць з рук арганізатара вялікую грашовую ўзнагароду — і ад прэтэндэнтаў не было адбою.

Акрамя паядынкаў гладыятараў, у Рыме ладзіліся таксама звярыныя цкаванні, у якіх супраць ільвоў і мядзведзяў змагаліся ўзброеныя рагацінамі паляўнічыя-бестыярыі (ад лацінскага *bestia* — звер).

Папулярнасць абодвух відовішчаў сярод рымлян была такой высокай, што іх сталі ладзіць усё часцей і часцей. Палітыкі ладзілі гульні для павелічэння сваёй папулярнасці напярэдадні выбараў, а палкаводцы перад выправай у паход, каб загартаваць салдат выглядам ранаў і крыві. Пасля таго, як у 65 годзе да н. э. Гай Юлій Цэзар паставіў рэкорд, вывеўшы на арэну адразу 320 пар гладыятараў, яго праціўнікі правялі закон, які абмяжоўваў максімальную колькасць удзельнікаў 120 байцамі.

Наступнікі Цэзара імкнуліся ўзяць правядзенне такога папулярнага відовішча пад свой кантроль. Пасля 22 года да н.э. для правядзення гульняў трэба было атрымаць спецыяльны дазвол у сената. Арганізацыяй гульняў сталі займацца выбарныя афіцыйныя асобы, якія ладзілі шоу двойчы на год: у снежні і ў сакавіку, перад уступленнем на пасаду.

**Этрускі** — старажытны народ, які ў I тысячагоддзі да н. э. насяляў паўночны захад Апенінскага паўвострава (вобласць Этрурыя, цяпер Таскана) і стварыў развітую цывілізацыю, якая папярэднічала рымскай.

### Хто з імператараў круцейшы?

Імператары час ад часу ладзілі гульні таксама на ўласныя сродкі. Падставай для гэтага мог быць юбілей кіравання, адкрыццё якога-небудзь грамадскага збудавання ці здабытая перамога. Імператар Аўгуст у сваім завяшчанні паведамляў, што тройчы даваў гладыятарскія гульні ад уласнага імя і яшчэ 5 разоў — ад імя сваіх сыноў і ўнукаў. У гэтых гульнях бралі ўдзел да 10 000 чалавек. Акрамя таго, ён 26 разоў ладзіў цкаванні, падчас якіх на арэне загінулі 3 500 дзікіх жывёл.

Пераемнікі Аўгуста імкнуліся пераўзысці яго ў размаху відовішчаў. Імператар Клаўдзій у гонар заваёвы Брытаніі ў 43 годзе ўвасобіў на Марсавым полі аблогу і спусташэнне горада, прычым сам распараджаўся ўсім гэтым спектаклем, седзячы ў плашчы палкаводца.

Але ўсіх папярэднікаў пераўзышоў імператар Траян, зладзіўшы ў гонар заваёвы Дакіі ў 107 годзе гульні, якія працягваліся 117 дзён. У іх бралі ўдзел 9 883 гладыятары, а таксама больш за 11 000 дзікіх звяроў.

**Імператар Траян зладзіў гульні, якія працягваліся 117 дзён. У іх бралі ўдзел 9 883 гладыятары, а таксама больш за 11 000 дзікіх звяроў.**

### Прыбытковы промысел

Баі праходзілі як у форме двубояў, так і ў выглядзе сутычак цэлых атрадаў. Удзельнікі паядынка стараліся прадэманстраваць сваё майстэрства ў валоданні зброяй і хутчэй станіць або параніць свайго суперніка, каб прымусіць яго прасіць літасці ў гледачоў. Вядомыя выпадкі, калі ні адзін ▸

### Тыпы гладыятараў

Зброя гладыятараў першапачаткова адлюстроўвала асаблівасці ўзбраення старадаўніх праціўнікаў рымлян. Адным з першых тыпаў гладыятараў з'яўляліся **самніты**, якія змагаліся мячом і абараняліся вялікім прастакутным шчытом.
Іх традыцыйнымі супернікамі выступалі **фракійцы**, якіх можна было пазнаць па выяве грыфона на шлеме, круглым шчыце і выгнутым мячы.
**Рэтыярый** быў лёгкаўзброеным байцом, які змагаўся трызубцам і сеткай.
Яго праціўнікам звычайна выступаў цяжкаўзброены **секутар** у глухім шлеме з невялікімі прарэзамі для вачэй.
Акрамя таго, існавалі ўзброеныя **гапламахі** і **мірмілоны**, лёгкаўзброеныя **веліты**, **эседарыі**, якія змагаліся на калясніцах, і іншыя.

▶ з байцоў не мог адолець праціўніка і бой канчаўся ўнічыю.

Насуперак шырока распаўсюджанаму ўяўленню, двубоі не так ужо часта заканчваліся смерцю аднаго з удзельнікаў. Прыкладна з 200 вядомых нам па надпісах гладыятараў на арэне загінулі 19. Такім чынам, шанец выжыць быў прыкладна 9 да 1. Нават той, хто прайграў, калі ён прасіў гледачоў аб літасці, мог захаваць сваё жыццё з імавернасцю 1 да 4.

Гладыятараў утрымлівалі і рыхтавалі да выступленняў у асаблівых школах, дзе яны вялі суровы, але здаровы лад жыцця пад наглядам сваіх настаўнікаў-ланістаў. У Рыме II–III стагоддзяў існавала не менш за 4 такія ўстановы: Вялікая (*Ludus Magnus*), Гальская (*Gallica*), Дакійская (*Dacica*) і школа, дзе навучаліся для змагання з драпежнымі жывёламі бестыярыі.

У Пампеях гладыятарская школа размяшчалася ў вялікім доме, які прымыкаў да гарадскога тэатра. У цэнтры школы знаходзіўся вялікі прастакутны двор, у якім праходзілі трэніроўкі. Па перыметры двор атачала крытая каланада, сюды выходзілі дзверы 70 пакояў, у якіх жылі гладыятары. Акрамя жылых памяшканняў, у школе былі вялікая кухня і сталовая, склад зброі, а таксама карцар.

Падобную планіроўку мелі гладыятарскія школы ў Рыме і іншых гарадах імперыі. Імператарскія школы кіраваліся адмысловымі чыноўнікамі-пракуратарамі і мелі цэлы штат работнікаў, уключаючы настаўнікаў фехтавання і гімнастыкі, лекараў, масажыстаў і наглядчыкаў. У правінцыях ланісты самастойна павінны былі набіраць і навучаць сваю трупу, а затым прапаноўваць свае паслугі арганізатарам гульняў. У пошуках заказчыкаў яны маглі пераязджаць з месца на месца, бы вандроўны цырк, даючы па дарозе прадстаўленні. Гэта быў даволі прыбытковы промысел, ужо пасля двух выступаў можна было акупіць усе папярэднія выдаткі.

### Ваяры былі вегетарыянцамі

Гладыятары мелі рознае паходжанне. Большасць з іх былі ваеннапалоннымі ці асуджанымі злачынцамі, якім удзел у гладыятарскіх гульнях замяняў смяротны прысуд. Адных выпускалі на арэну без усялякай падрыхтоўкі, іншых папярэдне навучалі гладыятарскаму рамяству. Калі асуджаны выжываў на працягу трох гадоў, ён мог атрымаць памілаванне.

Але самымі каштоўнымі лічыліся добраахвотнікі, якія складалі прыкладна чвэрць байцоў. Да іх ліку адносіліся адстаўныя салдаты, дэзерціры, збеглыя злачынцы і проста аматары вострых адчуванняў. Яны павінны былі засведчыць перад магістратамі сваё жаданне стаць гладыятарамі і прынесці клятву, што іх можна «паліць, вязаць, секчы і караць смерцю мячом». На працягу вызначанага кантрактам тэрміну жыццё гладыятара-добраахвотніка цалкам належала яго гаспадару.

### Гладыятар Флама

Пра лёсы многіх гладыятараў мы ведаем па іх надмагільных эпітафіях. Сірыец Флама за 30 гадоў свайго жыцця браў удзел у 38 баях, гэта значыць, за 17 гадоў ён выходзіў на арэну ў сярэднім раз на 4 месяцы. У 25 баях ён атрымаў перамогу, у 4 пацярпеў паразу, але быў адпушчаны за адвагу, яшчэ ў 13 выпадках бой скончыўся нічыёй. Флама 4 разы атрымліваў драўляны меч як сімвал вызвалення, але працягваў змагацца на арэне, а пасля быў настаўнікам фехтавання ў гладыятарскай школе.

## Гладыятары сапраўды былі тоўстымі. Пласт падскурнага тлушчу служыў абаронай ад парэзаў і ран

Калі тэрмін канчаўся, ён станавіўся вольны і, зразумела, зноў мог наняцца на службу. За свае выступленні добраахвотнікі атрымлівалі немалыя грошы. Ветэраны арэны, якія прайшлі праз мноства баёў, карысталіся вялікім попытам. За адзін выступ такога байца імператару Тыберыю неяк прыйшлося выкласці 1000 залатых — неймаверная па тых часах сума.

У 2007 годзе пры раскопках некропаля Эфеса на тэрыторыі сучаснай Турцыі археолагі выявілі невялікія магілкі, на якіх на працягу II–III стагоддзяў хавалі гладыятараў мясцовай школы. Усяго ў магілах было выяўлена 67 шкілетаў, якія належалі маладым людзям ад 20 да 30 гадоў. У большасці сваёй гэта былі высокія, фізічна дужыя мужчыны, косткі якіх неслі на сабе сляды цяжкіх фізічных нагрузак і траўмаў, у тым ліку нанесеных рознымі відамі зброі. Стан костак сведчыць пра кваліфікаваны медыцынскі догляд, які ажыццяўлялі лекары пры школе. Незвычайна высокі ўзровень



**Радасны пераможца**, мазаіка, пачатак III стагоддзя. Галерэя Баргезе, Рым.

стронцыю ў касцях гладыятараў з Эфеса сведчыць пра тое, што яны прытрымліваліся ў асноўным вегетарыянскай дыеты. Рымскі энцыклапедыст Пліній Старэйшы паведамляў, што ежа гладыятараў складалася з ячменнай кашы і бабоў.

Для ўмацавання костак і хутчэйшага гаення ран яны таксама пілі ваду, у якую дадавалі драўняны попел. Нядаўнія даследаванні, праведзеныя спецыялістамі з Інстытута судовай медыцыны ў Берне (Швейцарыя), пацвердзілі гэтую інфармацыю. Як лічаць біёлагі, раслінная ежа павінна была не толькі ўмацоўваць косткі, але і нарошчвала ў гладыятараў пласт падскурнага тлушчу, які служыў дадатковай абаронай супраць паверхневых ран і парэзаў. Такім чынам, грузныя, азызлыя целы гладыятараў, выяўленыя на рымскіх мазаіках Галерэі Баргезэ ў Рыме, адпавядаюць рэчаіснасці.

## Як дапамагло хрысціянства

Гульні гладыятараў, папулярныя сярод усіх слаёў насельніцтва, выклікалі асуджэнне з боку інтэлектуалаў, але іх галасы гучалі ў адзіноце. Толькі з шырокім распаўсюджваннем хрысціянства сітуацыя пачала мяняцца. У 325 годзе імператар Канстанцін апублікаваў эдыкт з асуджэннем гэтых відовішчаў. У 399 годзе імператар Ганорый зусім закрыў школы, а ў 404-м забараніў правядзенне гульняў. Цкаванне дзікіх жывёл у Рыме працягвалі ладзіць да 523 года, а ў Канстанцінопалі — ажно да 681-га, калі яны былі забароненыя канчаткова.

## А ці глядзелі б сёння?

Гладыятарскія змаганні ў Старажытным Рыме былі ўлюбёнай забаўкай натоўпу. Героі арэны былі ўсеагульнымі кумірамі, іх хуткацечная папулярнасць магла супернічаць толькі з вядомасцю імператара. У дні прадстаўленняў Калізей быў нязменна поўны народам.

Нам сёння нялёгка зразумець гэтую цікавасць рымлян да паказу смерці на арэне. Барацьба, бокс, баі без правілаў сёння карыстаюцца такой жа любоўю гледачоў, але ці былі б яны папулярныя, калі б бой заканчваўся смерцю аднаго са спартоўцаў?

З іншага боку, высокія рэйтынгі фільма «Гладыятар» (2000) і намер рэжысёра Рыдлі Скота зняць яго працяг сведчаць, што гэтая тэма па-ранейшаму цікавая гледачу, а гісторыю крывавага спорту можна расказаць не толькі як аповесць пра кроў і пакуты, але таксама і як легенду пра адвагу і перамогу над смерцю. ◆



# Парсючына

## Як трымалі, рэзалі і спажывалі парсюка на Полаччыне

**Рытуал, без якога немагчыма ўявіць беларускую вёску мінулага стагоддзя. Пра гадоўлю свіней у 60–70-я гады ў адметных словах і выразах згадвае Васіль Завадскі.**

У маім родным полацкім Заполлі, як і ў навакольных вёсачках, кожны гаспадар гадаваў парсюка, а часцей і двух. Не памятаю такой хаты, у хляве каля якой не было б чуваць бадзёрага рохкання. Некаторыя трымалі парсюкоў **зімавы́х**, некаторыя — **веснавы́х**. Першых набывалі малымі восенню і гадавалі да наступнай зімы, а дакладней амаль да Новага года; другіх (як правіла, пару: парсючка і свінку) набывалі вясной. Аднаго з гэтай пары гадавалі таксама да канца снежня, другога — да наступнай вясны. У нашай мясцовасці рэдка хто трымаў свінаматку, так што за малымі парасяткамі ездзілі на базар.

### Шчамялёк і кампанія

О, гэта была цэлая падзея — паездка на базар за парасятамі! Збіралася немалая кампанія вяскоўцаў, наймалі машыну. Тады гэта было проста: трэба было толькі дамовіцца з Пецькам-**шо́ферам**, адзіным у наваколлі саўгасным кіроўцам. А яму чаму б і не з'ездзіць: і самому парсючок у гаспадарцы патрэбны, а яшчэ ж пасля вяртання будзе магчымасць адзначыць!


ФОТА СЯРГЕЯ ЗІНІНА

У шасцідзясятыя ездзілі ў заходнім кірунку: на базар ў Празарокі ці нават у нябліжкія Лужкі. Пазней, у сямідзясятыя, парасятак набывалі ўжо бліжэй, на базары ў Полацку.

Набытага парсючка трэба было кастрыраваць, часам у нас таксама можна было пачуць — **склада́ць**. У Заполлі жыў ветэрынарны фельчар Мікалай Осіпаў, якога ўсе называлі Шчамяльком. «Трэба Шчамялька клікаць». Быў невысокі, заўсёды спяшаўся, рухаўся подбегам. Трапная мянушка прычапілася з лёгкай рукі цешчы, якая хваліла зяця суседкам за руплівае шчыраванне. Шчамялёк ахвотна рабіў сваю не надта прыемную працу, пасля якой удзячныя гаспадары частавалі спецыяліста хатнімі прысмакамі.

## Ахрап'е да патрухі, каб есці сала за два вухі!

Парсючка лічылі добрым, калі ён добра еў: не смактаў, а **хло́паў**, хлябаў, еў на ўсю **ля́пу** (часам казалі **зя́пу**), усю **по́ўніцу**. Парсюк, які смокча, а не хлопае, добрым не вырасце, будзе **няге́глым**.

Кармілі свіней усім, што было ў гаспадарцы. Найбольш бульбай, дадавалі муку, адкіды са стала. Узімку ў **ме́шанку** да бульбы падмешвалі **патру́ху**, якая заставалася на падлозе ў пуні (іншая назва — **шапя́нка**) пасля таго, як з яе паступова забіралі сена для каровы. Шмат куплялі для парсючка і даступнага па цане чорнага хлеба, бохан якога каштаваў 14–16 капеек. Камбікорм з'явіўся ў продажы пазней, у сямідзясятыя, быў у дэфіцыце, дый набыць яго можна было толькі прапарцыйна колькасці здадзенага дзяржаве малака.

А ў цёплую пару асноўным кампанентам парасячага корму станавілася **ахра́п'е** — пасечанае **секачо́м** у **кры́шаве** разнатраўе з лугу, лесу ці з агароду. Ужо самай ранняй вясной мама і сястрычкі збіралі на лузе **рабі́нку**, пазней насілі мяхамі з балота **бабо́ўнік** (надта ж любілі яго парасяты!), а ўлетку — крапіву, бацвінне, капусны ліст, **мало́чнік**...

Мяркую, што менавіта разнастайны і паўнавартасны корм і рабіў такой смачнай хатнюю свініну.

## Полацкая пагалоўшчына

І вось надыходзіў час парсюка рэзаць. Менавіта так — рэзаць. У нашых мясцінах свінню не калолі, а пераразалі шыйныя артэрыі. Кроў не збіралі, крывянкі не рабілі.

Гэта была падзея, цэлы рытуал! І рытуал гэты на Полаччыне мае адмысловую назву: **пагало́ўшчына**.

Зранку, яшчэ ў прыцемках, тата вастрыў нажы. Мама ставіла ў печ вялікія кацялкі з вадою, каб потым было чым мыць абсмаленага парсюка, рыхтавала посуд, куды будуць складаць вантробы ды іншыя часткі свінні.

І вось тата ішоў з вялікім нажом у хляўчук, а я, малы, бег у далёкі пакой ды затыкаў вушы, каб не чуць пранізлівага апошняга віскату... Як толькі станавілася ціха, я выбягаў на вуліцу і быў там ужо да канца: вельмі цікава было назіраць за гэтым працэсам, а таксама і браць у ім удзел.

Гаспадар заўсёды запрашаў на пагалоўшчыну аднаго, а то і двух суседзяў. З памочнікам весялей і спраўней. А калі парсюк быў зімавы — вялікі і цяжкі (**нападо́ймішча**), — аднаму немагчыма было падняць яго на адмысловае збудаванне са шчытом наверсе, якое ладзілі, каб зручней смаліць. Шчытом звычайна служылі дзверы ад якога-небудзь хлеўчука ці пуні, і потым на іх назаўсёды заставаліся характэрныя падпаліны ад смалення.

Першая пагалоўшчына адбывалася, як правіла, пад Новы год, гэта значыць, якраз пры заканчэнні каталіцкага каляднага посту. Пагалоўшчына веснавая супадала з заканчэннем посту велікоднага. ▶

**Васіль Завадскі** нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заполле Полацкага раёна. Доктар, праваабаронца.

## Нават парсюк у бані мыецца!

Спачатку парсюка смалілі. У тыя часы выкарыстоўвалі для гэтага паяльныя лямпы. Праўда, у нас не называлі іх паяльнымі, проста: лямпа, бензінавая лямпа. Сапраўдны гаспадар абавязаны быў мець добрую лямпу! Добрай лічылі тую, якая ў разагрэтым стане, асабліва калі старанна напампаваць у яе паветра, гула, нібы самалёт пры ўзлёце. Смаленне тады ідзе вельмі хутка.

Суседзі прыходзілі кожны са сваёй лямпай.

Спачатку старанна абыходзілі ўсю тушу полымем, каб спаліць поўсць разам з эпідэрмісам, які пад агнём імкліва падымаўся пухірамі. Усё гэта хуценька счышчалі нажамі. Пасля смалілі ўжо начорна: дбайна, з усіх бакоў, да антрацытнага бляску выпальвалі скуру, абпальвалі ды здзіралі капыты. Якія пахі пры гэтым плылі па ўсёй вёсцы — словамі не перадаць!

Пасля смалення неслі гарачую ваду з печы і вельмі старанна, нават педантычна, парсюка мылі. Змывалі ўсё чарноцце, потым скуру скрабалі нажамі, пасля чаго рупліва і даволі доўга цёрлі таркай, якую бесперапынна палівалі вадой (гэтае паліванне было справай малечы). Асабліва шчыравалі над лычом, вушамі, нагамі: трэба, каб увесь парсюк з чорнага стаў бялюткім! Нікога не здзіўляла, калі канцы вушэй ці адарваную **ску́рку** нехта еў тут жа — усё было добра прасмаленым, фактычна смажаным. Ох, і смачная ж была гэтая скурка, асабліва калі яе абмакнуць у соль! Я і зараз не разумею смаку сала без скуркі.

Пасля смалення ды такой «**ба́ні**» пачыналі асабліва адказную частку працы: парсюка трэба было **разбіра́ць**. Папярэдне



**Сям'я Завадскіх.** Сярэдзіна 1970-х.

пад яго засцілалі сена ці салому, каб, крый божа, не запэцкаць! Тушу клалі на спіну, а пад бакі, каб не заваліласяя, клалі дровы.

Галаву ды **ашы́ек** аддзялялі і тут жа клалі на снег, каб адцягнуў кроў. Асобна, у якую-небудзь вялікую місу, клалі ногі ды хвост — на халадзец. Далей выразалі грудзінку і тут жа аддавалі гаспадыні, бо надыходзіў час гатаваць пачастунак для **пагало́ўшчыкаў**. Асцярожна разразалі жывот, у начоўкі выграбалі вантробы, засыпалі іх снегам, каб хутчэй астудзіліся. У эмаліраванае вядро пасля прамывання клалі лёгкія. Печань, ныркі, **каса́** (селязёнка) клаліся ў асобны посуд.

Па касе вызначалі, якой будзе зіма. З якога канца каса шырэйшая — тая частка зімы будзе халаднейшай: калі з верхняга — пачатак зімы, з ніжняга — канец. Лепш, калі каса роўная па ўсёй даўжыні.

Аддзялялі **здор** і клалі яго таксама на снег.

Раней тушу пасля гэтага неслі ў халодныя сені, каб яна астудзілася ды абсохла. Канчаткова разбіралі ўжо назаўтра. Пазней тата ўдасканаліў гэты парадак, і парсюка разбіралі адразу пасля бані проста на шчыце. Адразалі кумпякі, лапаткі і падвешвалі іх дзе-небудзь у сянях на дзень-другі, каб **абсе́вералі** (падсохлі, абветрыліся). Далей аддзялялі хрыбет, а ад яго — паляндвіцы. Заставалася сала. Яго таксама неслі ў сені, каб абсохла і ахаладзілася, а назаўтра наразалі па памерах драўлянай скрыні. Калі салілі ў бочцы — наразалі сала кругамі, пасыпалі соллю ды простымі прыправамі (**кмін**, перац, лаўровы ліст) і клалі саліцца ў гэтую скрыню (бочку).

Такім чынам, амаль ніводны кавалак парсюка не прападаў марна, за выключэннем хіба **сцуля́**, калі гэта быў парсюк, або маткі — калі свіння. Ну, і мачавы пузыр яшчэ ў нас не выкарыстоўвалі, выкідалі.

Уся гэтая праца займала некалькі гадзін. Да сярэдзіны дня парсюк, як правіла, быў **спара́дкаваны**. З пачуццём годна выкананай працы пагалоўшчыкі распраналіся, мылі рукі ды сядалі за стол. На ім у толькі што вынятай з печы патэльні ўжо сквірчэлі скваркі і пляйстэркі пячонкі са смажанай цыбуляй. Там жа стаялі місы з гарачай варанай бульбай, кіслай капустай з алеем і цыбулькай ды талеркі з іншымі няхітрымі, але такімі смачнымі і натуральнымі сялянскімі прысмакамі. Была на стале, вядома ж, і гарэлка — **куплёная**, бо тата быў катэгарычным праціўнікам яе ўласнай вытворчасці.

Гэтае мужчынскае застолле магло і зацягнуцца. Матуля ж бліжэй да вечара пачынала

займацца кішкамі ды іншымі вантробамі. Вантробы мыла, а кішкі дзяліла на тонкія ды тоўстыя, рэзала на кавалкі патрэбнага памеру. Тонкія кішкі потым трэба было старанна **шліхтава́ць** — вывернуць з дапамогай адмыслова зробленай драўлянай прылады-рагуліны і дасканала вычысціць нутраны пласт.

### Печанёўкі ды мясныя — ох, кілбасы спакусныя!

Назаўтра рабілі **кілбасу**, мясную і **печанёўку**. На мясныя кілбасы, як правіла, ішла адна лапатка, дыяфрагма ды іншыя абрэзкі якаснага мяса. Шыю асобна не аддзялялі, ды й шашлыкоў у тыя часы на вёсцы не смажылі. Мяса і сала з ашыйка і лапаткі наразалі на кубікі, салілі, дадавалі тых жа простых прыправаў, добра вымешвалі і пакідалі пастаяць. На наступны дзень усёй сям'ёй **крапа́лі** кілбасы. Раней на маёй памяці яны былі сапраўды «пальцам піханыя». Пазней, калі з'явіліся адмысловыя трубкі для мясарубкі, працэс крыху «механізаваўся». Нейкую частку смажаных мясных кілбас з'ядалі адразу, асноўную ж неслі на **гару́** і вывешвалі там вяліцца.

Лёгкія, рэшту пячонкі, ныркі і касу таксама рэзалі на кубікі, дадавалі прыправы ды крапалі печанёўку. Печанёўку доўга не захоўвалі, з'ядалі за тыдзень-другі. Яе смажылі пасля адварвання або запякалі ў печы, нярэдка варылі з ёй **капу́сту** — суп з кіслай капусты.

Сальцісонаў у нас не рабілі, таму **галаві́зну** выкарыстоўвалі на іншыя стравы: вушы, лыч, язык — на халадзец, шчакавіну мама смажыла ў печы (адметнае смакоцце атрымлівалася!), сала з **ка́рху** ды **падля́п'я** — у кілбасы.

З тоўстых кішак матуля рабіла **наліва́нкі:** напаўняла кішкі бульбяным **драннём** з кавалачкамі сала, адварвала, а потым запякала ў печы. Елі — аж **трэ́тар** стаяў!

### Любае любовае

Адну паляндвіцу бацькі падсольвалі, дадавалі прыпраў, і мама зашывала яе ў **трыбу́х** — страўнік, які потым клалі на сала і засыпалі соллю. Другая паляндвіца, падсоленая і прыпраўленая, вялілася на гары. Усе гэтыя прысмакі захоўвалі да позняй вясны і нават ранняга лета, спажывалі іх на вялікія ▶



ФОТА СЯРГЕЯ ЗІНІНА




**Кілбасы традыцыйна сушылі на гарышчы.** На фота: выробленыя аўтарам уласнаручна.

## Слоўнік

**Ля́па, зя́па** — пашча жывёліны.
**Патру́ха** — дробныя рэшткі сена.
**Шапя́нка, пу́ня** — гумно з сенам.
**Ахра́п'е** — пасечаная для корму свінні зялёная трава.
**Кры́шава** — збітая з дошак ёмістасць, у якой секачом секлі траву.
**Сяка́ч** — тут: металічная вострая прылада на драўляным кіі, каб секчы траву.
**Рабі́нка** — лугавая расліна, адна з самых ранніх.
**Мало́чнік** — агароднае пустазелле з белым (малочным) сокам, малачай.
**Бабо́ўнік** — балотная расліна з буйным мясістым лісцем.
**Пагало́ўшчык** — чалавек, які рэжа свінню.
**Нападо́ймішча** — вялікая, цяжкая, «непад'ёмная» туша.
**Разбіра́ць свінню** — парадкаваць тушу.
**Каса́** — селязёнка.
**Здор** — унутраны тлушч.
**Гара́** — гарышча хаты.
**Галаві́зна** — сала і мяса з галавы.
**Ка́рх** — карак, верхняя частка шыі свінні.
**Падля́п'е** — частка пад ніжняй сківаццай жывёліны.
**Дранне́** — нацёртая на тарцы бульба.
**Трэ́тар** — шум, гул. Трэтар стаіць — аж гудзе, аж гул стаіць, аж трашчыць. Тут — жартаўліва.
**Крапа́ць кілбасы** — начыняць кішкі кілбасным фаршам.

святы ды частавалі самых дарагіх і паважаных гасцей.

Кумпякі тыдзень-другі саліліся ў скрынцы разам з салам, а потым іх таксама неслі на гару і вывешвалі вяліць. Ох, і смачны ж быў гэты наш беларускі хамон! Мы, малыя ды падлеткі, часам не маглі ўтрымацца, каб крадком не залезці на гару, не адрэзаць і не з'есці кавалачак **пасе́веранага любо́вага** (гэта значыць нятлустага, без тлушчу) мяса.

### «Няма таго, што раньш было…»

На жаль, сёння пра такія прысмакі застаецца толькі ўспамінаць ды глытаць слінкі. «Спакойна спяць пад соснамі мае матуля з татам…» — радок з верша, які напісала сястрычка Валянціна. Яна і сама спачывае цяпер у вечным супакоі пад тымі соснамі побач з бацькамі. Абязлюдзела вёска, сярод тых, хто застаўся, гаспадароў мала. З кожным годам усё менш і менш вяскоўцаў гадуе парсючкоў, а калі і трымаюць, то кормяць іх зусім іншай ежай. Так што зноў адчуць чароўныя пахі дзяцінства і юнацтва, паспытаць тыя ўнікальныя смакі наўрад ці магчыма.

Застаюцца толькі светлыя, хоць і прыпраўленыя шчымлівай тугой, але прыемныя настальгічныя ўспаміны.

Яны будуць з намі, пакуль ёсць мы! ◆

**Данеўская, Ірына. Багуслаў Радзівіл: генерал караля** / Пераклад з украінскай мовы Наталкі Бабінай. — Мінск: А. М. Янушкевіч, 2020. — 582 с.

Гэта працяг выдадзенага па-беларуску ў 2018 годзе гістарычнага рамана-эпапеі той жа аўтаркі з Украіны «Багуслаў Радзівіл: нямецкі прынц», фрагмент з якога друкаваўся ў № 2/2018 «Нашай гісторыі». У новым рамане апісваюцца крывавыя падзеі 1648–1655 гадоў, калі ўкраінскія, беларускія, польскія, літоўскія і малдаўскія землі ахапілі шматлікія збройныя канфлікты, якія ўвайшлі ў гісторыю пад назвай «Патоп». Бесклапотны шукальнік прыгод Багуслаў Радзівіл становіцца генералам войска Рэчы Паспалітай, а яго стрыечны брат Януш узначальвае ўзброеныя сілы Вялікага Княства Літоўскага. Непераможны да гэтай пары ўкраінскі гетман Багдан Хмяльніцкі церпіць балючыя паражэнні ў гучных бітвах з удзелам Радзівілаў.
Што далей: перамога сіла амбіцый ці непрымірымыя ворагі здолеюць дамовіцца між сабой?
Кнігу можна набыць у асноўных кнігарнях Мінска і ўсёй Беларусі, а таксама на сайце выдавецтва **«Янушкевіч»**.





16.04.2020

PRIME HALL

МІНСК, ПЕРАМОЖЦАЎ 65

# Narodny Albom



12+

ЖЫВЫ ГУК

ПАЧАТАК: 20:00

+375 17 395 05 65; +375 33 6555596

ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІК ШАБЛІНСКІ УЛАДЗІМІР БАРЫСАВІЧ. УНП 190348875. АДРАС: МІНСКАЯ ВОБЛ. ВАЛОЖЫНСКІ Р-Н. В.МАЛАЕ ЗАПРУДДЗЕ, Д.29А.
ГАСТРОЛЬНАЕ ПАСВЕДЧАННЕ №10 ОТ 03.01.2020 ВЫДАНА КІРАЎНІЦТВАМ КУЛЬТУРЫ МИНГАРВЫКАНКАМА

Сучасны выгляд капліцы.



RADZIMA.ORG

Капліца на малюнку Напалеона Орды (паміж 1861–1877 гадамі).

# Шлюб дваіх Ордаў

ФОТА СВЯТЛАНЫ БРАЙЧУК

## Сын знакамітага мастака быў жанаты са сваячкай

**Радавыя гнёзды Ордаў — не толькі на Палессі, але і каля Слоніма, пішуць слонімскія настаўніцы Святлана Брайчук і Ганна Бруцкая.**

### Варацэвічы і Дзераўянчыцы

Калі прапраўнук Напалеона Орды Х'юберт Дэнармандзі разам з жонкай Марыяй у 2009 годзе прыехаў з Францыі ў Беларусь, то, натуральна, адразу рушыў у Янаў (ці Іванава, як гэтае старадаўняе мястэчка сёння афіцыйна завецца). Бо агульнавядома, што ў недалёкіх ад Янава Варацэвічах знаходзіцца сямейнае гняздо Ордаў, цяперашні музейны комплекс. Тамтэйшыя музейшчыкі сардэчна віталі Х'юберта, ды і ён аказаўся на вышыні: прывёз нямала радавых дакументаў і здымкаў, раней невядомых у Беларусі.

Асабліва цешыліся янаўскія даследчыкі здымку, датаванаму 1857 годам. На ім маладая жонка Напалеона, француженка Ірына Бугле, сфатаграфаваная з сынам у Варацэвічах. Фатаграфія нарэшце праясніла пытанне, ці прыязджала жонка мастака на яго радзіму пасля таго, як ён, знуджаны ў эміграцыі, вярнуўся дахаты, скарыстаўшыся з царскай амністыі.

А Х'юберт Дэнармандзі, прыехаўшы з настальгічна-дыпламатычнага падарожжа ў родную Францыю, неўзабаве атрымаў ліст ад слонімскіх настаўніц-краязнаўцаў. З яго ён даведаўся, што, аказваецца, наведаў яшчэ не ўсе радавыя мясціны. Для поўнага шчасця яму трэба было б таксама завітаць у Дзераўянчыцы на Слонімшчыне, адкуль паходзіць ягоная прабабуля Леанціна Орда.

### Нявеста з Валыні, жаніх з Парыжа

У 1879 годзе прэфектура 9-га раёна Парыжа пацвердзіла зарэгістраваны годам раней

**Напалеон Орда** нарадзіўся ў 1807 годзе. Названы бацькамі ў гонар французскага імператара, з якім шляхта былога Вялікага Княства звязвала вялікія надзеі. Пра традыцыю называння нованароджаных сыноў такім іменем цягам усяго XIX стагоддзя ў № 7/2019 «Нашай гісторыі» пісаў Дзяніс Лісейчыкаў.
Імя нібыта прадвызначыла бунтоўны лёс яго носьбіта. Напалеон Орда паслядоўна ўдзельнічаў у любых выступленнях супраць расійскага царызму, што здараліся пры ягоным жыцці, — ад наіўных вучнёўскіх «незарэгістраваных» суполак да «дарослага» паўстання ў 1830–1831 гадах, удзел у якім стаў прычынай доўгай эміграцыі ў Францыю.
Больш за 20 год высылкі Напалеон скарыстаў на тое, каб завесці знаёмствы з французскай і польска-літоўскай эмігранцкай інтэлігенцыяй, навучыцца кампазітарскаму майстэрству ад Фрэдэрыка Шапэна і маляванню архітэктурных пейзажаў у студыі П'ера Жэрара.
У 1856 годзе царскі ўрад дазволіў былым удзельнікам паўстання вярнуцца на радзіму, хоць і абмежаваў іх у праве ўласнасці. Так Напалеон Орда змог жыць у радавым маёнтку ў Варацэвічах, але толькі да смерці маці. Далей маёнтак можна было толькі арандаваць у дзяржавы.
Уласную сям'ю знакаміты мастак завёў у 1843 годзе, у французскі перыяд свайго жыцця. І хоць Ірына Бугле не паехала з мужам на ягоную радзіму, сувязь яны падтрымлівалі. Менавіта жонка дамаглася адмены новай высылкі для мужа пасля паўстання 1863–1864 гадоў.

у Камень-Кашырскай парафіі на Валыні шлюб паміж 34-гадовым Вітольдам Ордам, сынам Напалеона, і 18-гадовай Леанцінай Ордай.


WIKIMEDIA COMMONS

Пара была адметная не розніцай ва ўзросце (каго тады такім можна было здзівіць?), а тым, што жаніх і нявеста мелі адно прозвішча, хоць і жылі на той час у розных краінах. Жаніх на момант шлюбу быў ужо былым вайскоўцам, грамадзянінам Францыі, а маладзенькая нявеста нарадзілася ў Ковельскім павеце на Валыні, куды з Дзеравянчыц выйшла замуж яе маці, дачка стацкага саветніка Пятра Орды. Леанціна-малодшая і сама шмат часу праводзіла ў дзядулі на Слонімшчыне, пакуль была дзіцём.

Якім чынам пазнаёміліся жаніх з нявестай, пакуль што загадка. Ці не прыклаў руку да такой жаніцьбы сына сам Напалеон Орда? Ён у той час яшчэ жыў і мог жадаць, каб сын пабраўся шлюбам з літвінкай. А тая аказалася яшчэ і сваячкай, знаёмай бацьку жаніха з самага дзяцінства.

### Слонімскія сваякі

Пасля абвяшчэння амністыі ўдзельнікам паўстання 1830–1831 гадоў у 1856 годзе Напалеон Орда з вялікім хваляваннем вярнуўся з эміграцыі на радзіму і пачаў плённа працаваць. З рамантызмам, вялікай настальгіяй і марай пра незалежнасць радзімы ён замалёўваў магнацкія палацы і шляхецкія сядзібы, руіны крэпасцяў, храмы і капліцы. ▶


СЯМЕЙНЫ АРХІЎ Х'ЮБЕРТА ДЭНАРМАНДЗІ

**Леанціна Орда**, 1860–1886 гады.


СЯМЕЙНЫ АРХІЎ Х'ЮБЕРТА ДЭНАРМАНДЗІ

**Сын Напалеона Орды Вітольд.**


WIKIMEDIA COMMONS

**Мастацкая спадчына Напалеона Орды** — гэта больш за 1 150 акварэляў і графічных прац. Сярод іх больш за 200 замалёвак з мясцін цяперашняй Беларусі. Абсалютная большасць арыгіналаў знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве, куды іх перадалі нашчадкі мастака яшчэ ў 1886 годзе — праз тры гады пасля смерці аўтара. У Беларусі няма арыгінальных работ Напалеона Орды. Нацыянальная бібліятэка валодае толькі калекцыяй літаграфій з малюнкаў Орды.

**Як змяніўся беларускі пейзаж за 150 гадоў: аднаўляем мясціны Напалеона Орды пры дапамозе 4G. Адскануйце QR-код.**



▶ Аднымі з першых з'яўляюцца малюнкі Гарадзеншчыны, зробленыя мастаком у 1861–1877 гады. Вандруючы па слонімскай зямлі, Напалеон Орда спыняўся і часова жыў у свайго сваяка, стацкага саветніка Пятра Орды. Той ад бацькі атрымаў ва ўладанне маёнтак Кухча ў Пінскім павеце і, можа, назаўсёды застаўся б у тых спадчынных краях, дзе ягоны род вёўся з XV стагоддзя, калі б не шлюб з Эвелінай Мікульскай. Багатая нявеста прынесла Пятру ў якасці пасагу маёнтак Дзеравянчыцы ў Слонімскім павеце. Туды сям'я і пераехала, паступова займеўшы трох дзяцей. У іх ліку была і Леанціна, маці будучай нявесткі Напалеона Орды.

### Капліца, за якую судзілі

Але да ўз'яднання дзвюх галін аднаго роду ў пачатку 1860-х гадоў было яшчэ далёка. Калі мастак спыняўся ў свайго сваяка Пятра Орды, то куды больш за нашчадкаў стацкага саветніка яго цікавіла новая капліца, якую Пётр змог пабудаваць для сваёй жонкі Эвеліны вялікімі намаганнямі.

## Паралельна з будаўніцтвам капліцы ішоў судовы працэс

Эвеліна Орда з Мікульскіх памерла ў 1851-м, калі ёй было толькі 36 гадоў. Стацкі саветнік быў няўцешны і задумаў пахаваць яе не проста ў радавым склепе, а ў адмыслова пабудаванай капліцы. Ён ужо ўяўляў, як тая будзе выглядаць: з чырвонай цэглы, пакрытая англійскай бляхай, з вострымі неагатычнымі вежамі. У наземнай частцы будзе знаходзіцца маленькі пакойчык для малітвы, а пад ім — пахавальня яго сям'і. Дарога да капліцы будзе высаджана алеяй з серабрыстых таполяў. І калі пасля доўгай дарогі з Пецярбурга Пятро Орда будзе пад'язджаць да дома, капліца ў далечыні парку засвеціцца тысячамі агнёў: ад запаленых свечак яна будзе выглядаць як велізарны ліхтар на яго адзінокім шляху.

У адпаведнасці з гэтымі марамі Пятро неадкладна пачаў будаўніцтва. І гэтак жа неадкладна ў Горадні пачалося судовае следства. Літоўская духоўная кансісторыя забараняла будаваць каталіцкі храм у праваслаўным прыходзе, спасылаючыся на тое, што ў маёнтку на той момант каталікоў было ўсяго дзве сям'і. Пасля здушэння паўстання 1830–1831 гадоў расійскія ўлады імкнуліся паслабіць каталіцкі ўплыў у беларускім краі: забаранялася пераходзіць з праваслаўя і прымаць каталіцкую веру,

масава зачыняліся каталіцкія храмы ў заходніх губернях. Адкрыць новы касцёл было нерэальна цяжка, нават калі гэта былі капліцы-пахавальні.

Напалеон Орда, праз дзесяцігоддзе малюючы прыгожы неагатычны будынак з вежамі, дакладна ведаў, праз што прыйшлося прайсці яго сваяку, каб усё ж атрымаць дазвол на будаўніцтва. Таму ён дапоўніў архітэктурны пейзаж гістарычнай даведкай пра маленькую перамогу: 9 верасня 1852 года Пятро Орда атрымаў дазвол ад гарадзенскага генерал-губернатара аб пераносе цела сваёй жонкі Эвеліны са слонімскіх могілак, а 29 кастрычніка 1852 года капліцу ў Дзеравянчыцах асвяцілі.

Пазней да жонкі ў сямейнай пахавальні далучыцца і сам Пятро Орда, а таксама два ягоныя сыны і сястра Тэкля. Такім чынам, у маленькай капліцы, што размяшчаецца ў сённяшняй вёсцы Бракава Слонімскага раёна, пахаваныя бабуля з дзядулем, а таксама родныя дзядзькі нявесткі Напалеона Орды Леанціны. Праўда, капліца спачатку моцна пацярпела падчас апошняй вайны, а пасля была разрабаваная. Надмагілле адтуль захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі.

Сёння ад Ордаў на Слонімшчыне, акрамя капліцы, засталіся гаспадарчы дом для найманых рабочых мяжы XIX і XX стагоддзяў, будынак вінакурні і сажалкі, якія калісьці складалі адзіную сістэму.

У 1920-я гады дзеравянчыцкая капліца належала слонімскаму касцёлу Хрыста Збаўцы, і да 1939-га ў ёй праводзіліся набажэнствы. Падчас Другой сусветнай вайны, якая знішчыла сядзібу Ордаў, пацярпела і капліца, але ўжо ў наш час храм адноўлены дзякуючы намаганням ксяндза Вітольда Жыльветра. Больш за 10 год капліцу парадкуе манахіня Вікторыя Ашурак. ◆


СЯМЕЙНЫ АРХІЎ Х'ЮБЕРТА ДЭНАРМАНДЗІ

**Генерал Адам Орда**, родны дзядзька Леанціны.

## Генерал Адам Орда

У дакуменце аб шлюбе Вітольда і Леанціны Орды фігуруе сведка — 43-гадовы Адам, сын Пятра Орды, палкоўнік, які жыў у гарнізоне ў Санкт-Пецярбургу. А ў сямейным альбоме Х'юберта Дэнармандзі ёсць пажаўцелы здымак, падпісаны гэтым жа імем.
Гаворка ідзе пра роднага дзядзьку нявесткі Напалеона Орды, сына стацкага саветніка з Дзеравянчыц Пятра Орды.
Адам атрымаў інжынерную адукацыю ў Санкт-Пецярбурзе. У 1855 годзе яго, 20-гадовага выдатніка, накіроўваюць у сапёрны батальён у Севастопаль, дзе пакуль яшчэ грымела Крымская вайна. Спрабуючы выратаваць параненага ў жывот калегу, Адам трапіў у палон да французаў. Там ён правёў пяць месяцаў, упарта адмаўляючы інжынерам з варожага боку намаляваць размяшчэнне мінаў пад Карнілаўскім бастыёнам.
Ужо ў мірныя гады ўраджэнец слонімскіх Дзеравянчыц скончыў Мікалаеўскую інжынерную акадэмію і пачаў выкладчыцкую кар'еру. Напісаў шмат падручнікаў па вайсковай справе. Паводле запавету, генерал Адам Орда пахаваны разам з бацькамі ў дзеравянчыцкай капліцы.


ФОТА ВЯЧАСЛАВА ІЛЬЯНКОВА

**Нашчадак Напалеона Орды Х'юберт Дэнармандзі з жонкай Марыяй Клер** у музеі ў Варацэвічах.



**Крычаўскі палац Галынскіх.**
Канец XVIII стагоддзя.

WIKIMEDIA COMMONS

# Галынскія і іх Крычаў

## Не Пацёмкіным адзіным

**Сярод іх былі пісьменнікі, знахары, паўстанцы і афіцэры расійскага войска. Яны змяняліся, і з імі змяняўся Крычаў, якім яны валодалі з канца XVIII стагоддзя аж да савецкага часу. Усё гэта пра род Галынскіх, піша краязнаўца Андрэй Кузьмін.**

Калі пішуць пра Крычаў, звычайна ўзгадваюць прозвішча фаварыта расійскай імператрыцы Кацярыны II Грыгорыя Пацёмкіна. Яму каранаваная палюбоўніца падаравала Крычаўскае староства пасля захопу гэтых зямель Расійскай імперыяй у 1772 годзе.

Па старой гістарычнай традыцыі з іменем «найсвятлейшага» князя звязваюць усё выключна станоўчае для Крычава. І буйныя мануфактуры ён тут пабудаваў, і выдатных спецыялістаў выпісаў з-за мяжы, і суднаверф заклаў для патрэбаў Чарнаморскага флоту, і палац велічны пабудаваў. І нават запрасіў ў сяло Задобра каля Крычава англійскага філосафа-класіка Іерэмію Бентама, дзе той жыў і працаваў ў 1785–1787 гадах (гл. пра гэта артыкул Сяргея Астанковіча ў № 8/2019 «Нашай гісторыі»).

І пры гэтым неяк зусім не згадваецца, што ўплывовы фаварыт падчас свайго кіравання Крычавам пераверў усіх раней вольных жыхароў горада, апроч шляхты і габрэяў, у стан прыгонных.

У кожным разе, Крычаў і Пацёмкін былі звязаныя паміж сабой не больш за 14 гадоў. Значна даўжэй гісторыя горада звязана з тутэйшай шляхтай. З родам, які пакінуў значны след у культуры, навуцы, грамадскіх і дабрачынных справах не толькі Беларусі, але і свету, — Галынскімі.

### Першым быў Ян

Прыкладна ў 1790 годзе Ян Галынскі, які на той час займаў пасаду мсціслаўскага ваяводы (у розныя часы ён таксама

### Нашчадкі Сямёна

Вядомыя чатыры галіны шляхецкага роду Галынскіх. Тры з іх пусцілі парасткі на Віцебшчыне, украінскім Падоллі і літоўскай Ковеншчыне. Крычаўскія ўладары бяруць пачатак ад самага старога вядомага нам прадстаўніка роду — Сямёна, які з 1601 года валодаў маёнткам Галын у Навагрудскім ваяводстве і карыстаўся гербам «Клямры». Яго нашчадкі з цягам часу перабраліся на Магілёўшчыну.



WIKIMEDIA COMMONS




**Першы ўладар Крычава з роду Галынскіх, Ян.**

займаў пасады магілёўскага і клімавіцкага маршалка), набывае ў Пацёмкіна Крычаўскае староства разам з недабудаваным палацам. І аб'ядноўвае яго з суседнім маёнткам Халоблін (цяпер Чэрыкаўскі раён), якім валодаў да таго. Узбуйненне было своечасовым, бо ў Яна было пяцёра дзяцей і кожнаму трэба было пакінуць спадчыну.

Галынскі не меў такога вялізнага ўплыву, як Пацёмкін, а таму не мог пры дапамозе ў тым ліку і адміністрацыйнага рэсурсу прасоўваць свой тавар па ўсёй Расійскай імперыі. Таму адразу пасля змены гаспадара прамысловасць Крычаўшчыны значна скарацілася. Ужо з 1790 года практычна перастала працаваць суднаверф, неўзабаве спыніла дзейнасць канатная мануфактура. Працавалі толькі парусінавыя мануфактуры (адна да 1831-га, а другая да 1845 года), прадукцыя якіх адпраўлялася на марскія і рачныя судны ў Херсон, Крамянчуг, Рыгу, Пецярбург. Засталася таксама буйная вінакурня. Але затое Яну Галынскаму ўдалося надаць палацу, будаўніцтва якога распачалося яшчэ ў 1778 годзе, закончаны выгляд.

## Галынскія не мелі такога ўплыву, як Пацёмкін

Быў Ян і палымяным патрыётам бацькаўшчыны, пра што сведчаць спробы яго супрацоўніцтва з Напалеонам падчас вайны 1812 года. Для ўнёску ў вызваленне Вялікага Княства Літоўскага ад расійскай акупацыі ён паабяцаў французскаму імператару на свае сродкі сфармаваць атрад добраахвотнікаў і распачаць барацьбу з войскам Міхаіла Кутузава.

### Сваяк Пушкіна

Адзіны сын Яна Галынскага, прамы нашчадак і наступны гаспадар Крычава, Вінцэнт (1770—1831), зрабіў добрую кар'еру пры той уладзе, супраць якой яго бацька патаемна змагаўся.



**Вінцэнт Галынскі.**

### Эма, якая была «ў вялікай модзе»

Плодам кахання Вінцэнта і Эмы Галынскіх былі васьмёра дзяцей. Даведацца ўдалося толькі пра чацвярых — астатнія, магчыма, памерлі ў раннім узросце. Сярод сясцёр асаблівую ўвагу выклікае малодшая — Эма (Любоў), якая ў свой час нарабіла шмат шуму пры двары расійскага імператара Мікалая І.
Перад яе прыгажосцю схілялі галовы многія сучаснікі: сам Мікалай І, ягоны брат вялікі князь Міхаіл Паўлавіч, Аляксандр Пушкін, яго забойца Жорж Дантэс і шмат хто яшчэ.
А графіня Долі Фікельмон у сваім дзённіку пісала пра яе: «На нашым балі прысутнічала мініяцюрная асоба, якая ў цяперашнім сезоне ў вялікай модзе. У яе прыгожыя ярка-сінія вочы; невысокага росту, мініяцюрная, з вельмі маленькімі прыгожымі ножкамі, … вельмі панадная».
Мікалай І і юная Любоў Вікенцьеўна, якая выйшла замуж за Юзафа Казіміра Пятра Борха, пэўны час былі палюбоўнікамі. Памерла мадам Борх-Галынская ў Парыжы ў 1868 годзе і пакінула пасля сябе трох дачок.

У 21 год Вінцэнт пачаў служыць у расійскай арміі, а ў 27 ужо быў палкоўнікам Сібірскага драгунскага палка. На пачатку XIX стагоддзя ён вяртаецца на радзіму і не менш хутка прасоўваецца ўжо па свецкай кар'ернай лесвіцы. У 1808 годзе становіцца маршалкам Магілёўскай губерні, а з 1814-га — сапраўдным стацкім саветнікам, чыноўнікам па асобых даручэннях міністэрства паліцыі, а пазней і старшынёй рады пры міністэрстве ўнутраных спраў.

У дадатак да гэтага Вінцэнт Галынскі займаўся навукай. Ён аўтар шэрагу перадавых на той час работ па сельскай ▸

гаспадарцы і геаграфіі.
З 1825 года да самай смерці быў старшынёй аднаго з аддзяленняў Вольнага эканамічнага таварыства.

Шчасціла Вінцэнту Галынскаму і ў каханні. У 1806 годзе ён ажаніўся з 12-гадовай Любоўю Ганчаровай-Мардвінавай, стрыечнай сястрой жонкі Аляксандра Пушкіна — Наталлі Ганчаровай. Перад шлюбам Любоў перахрысцілася ў каталічку і ўзяла імя Эма. Пара пражыла адведзеныя ёй дні ў палкім каханні, пакуль у 1822 годзе ва ўзросце 28 гадоў Любоў-Эма не сканала. Пахавалі яе ў радавым маёнтку — сяле Пясочанскі Завод Калужскай губерні (цяпер горад Кіраў у расійскай Калужскай вобласці). У Крычаве ж, якраз насупраць ўвахода ў палац Галынскіх, няўцешны ўдавец паставіў беламармуровую кампазіцыю ў выглядзе жаночай фігуры са схіленай галавой. На пастаменце надпіс: *«Mére de huit enfants»* («Маці васьмярых дзяцей»), а таксама лірычны верш па-французску.


LA CALIFORNIE

ET

LES ROUTES INTEROCÉANIQUES

PAR

Alexandre Holinski,

CITOYEN AMÉRICAIN.

Toutes les familles ne seront qu'une famille et toutes les nations qu'une nation.
LAMARTINE.

BRUXELLES.
MELINE, CANS ET Cie., LIBRAIRES-ÉDITEURS.

1853

**Вокладка кнігі Аляксандра Галынскага «Каліфорнія»**, выдадзенай у Брусэлі ў 1853 годзе.

## Няўрымслівы «свістун»

Наступнымі ўладарамі Крычава сталі сыны Вінцэнта і Эмы: Стэфан (1815–1878) і Аляксандр (1816–1893). Акрамя зямлі ў Беларусі, ім у спадчыну ад маці засталіся прамысловыя прадпрыемствы ў Расіі. Так што яны былі заможнымі маладымі людзьмі. Але ў той жа час і дэмакратычна арыентаванымі асобамі.

Аляксандр нават узяў удзел у антырасійскім паўстанні 1830–1831 гадоў, пасля задушэння якога з'ехаў у Еўропу. Там атрымаў адукацыю. На яго сродкі ў Лондане нейкі час выдавалася газета «Польскі дэмакрат».

А калі Стары Свет яму надакучыў, Аляксандр Галынскі на працяглы час выправіўся ў свет Новы. Амаль цалкам аб'ехаў ЗША (у музеі горада Сакрамента і цяпер захоўваецца карта Каліфорніі, складзеная Галынскім), наведаў Кубу, Гаіці, Мексіку, Нікарагуа, Эквадор, Перу. У Чылі ў 1851 годзе сустракаўся з Ігнатам Дамейкам. Праўда, гэтыя два дзеячы ў чымсьці не сышліся, бо Дамейка ў сваёй перапісцы не вельмі паважліва адазваўся пра «беларускага паніча»: назваў яго «свістуном». Па словах Дамейкі, ледзь паспеўшы з'явіцца ў Санцьяга, Галынскі «паспеў там перасварыць усіх з усімі». Віной таму няўрымслівасць Галынскага, якая раздражняла.

Галынскі цікавіўся і праблемамі навукі і тэхнікі. Напрыклад, ён прапанаваў свой праект Панамскага канала, які на той час яшчэ не быў пракапаны, пісаў пра вялікую будучыню паветраплавання і лічыў, што авіяцыя дапаможа ліквідацыі «ізаляцыі народаў і падтрыманню іх узаемнага сяброўства».


**Самае старое вядомае фота Крычава.** Пачатак XX стагоддзя.

# Аляксандр Галынскі прапанаваў свой праект Панамскага канала




**Ірэна Галынская, жонка апошняга ўладара Крычава.** У сваіх успамінах дала падрабязнае апісанне крычаўскага палаца і скарбаў, што захоўваліся ў ім.

Яшчэ адным і, бадай, галоўным захапленнем Аляксандра Галынскага, акрамя вандровак, была літаратура. Пісаць ён пачаў яшчэ ў Еўропе, прычым публікаваўся па-французску ў буйных выданнях розных краін. Аднак найбольшага росквіту яго літаратурны талент дасягнуў у Амерыцы.

### Стэфан і нашчадкі

Што да Стэфана, роднага брата Аляксандра, то ён яшчэ ў падлеткавым узросце ўзваліў на сябе цяжар кіравання Крычавам — палацам і вялікімі землеўладаннямі. На бяду, у 1840-х палац часткова згарэў, і Стэфану давялося яго адбудоўваць. Менавіта тады фасад будынка, які першапачаткова быў узведзены ў стылі класіцызму, набыў неагатычныя рысы. Стэфан быў і галоўным фундатарам мураванага касцёла (да сёння не захаваўся), пабудаванага ў 1855–1874 гадах замест драўлянага, знішчанага пажарам. Неардынарнасць гэтага чалавека пацвярджае той факт, што польскі літаратар Яраслаў Івашкевіч прысвяціў яму адзін з найлепшых сваіх твораў — аповесць «Асеннія святкаванні».

Стэфан меў сыноў Яна і Уладзіслава. Ян атрымаў ад бацькі ў спадчыну мястэчка Кадзін (цяпер вёска Кадзіна Магілёўскага раёна), дзе і пасяліўся. Належалі яму зямельныя надзелы і ў самім Крычаве. Бо ў 1896 годзе ён, неабыякавы да развіцця мястэчка, падарыў мясцоваму рамесніцкаму вучылішчу 30 дзесяцін.

Асноўная ж частка крычаўскіх землеўладанняў з навакольнымі фальваркамі і радавым палацам адышла да Уладзіслава, які ажаніўся з Міхалінай Ажэльскай, што паходзіла са збяднелага шляхецкага роду. Атрымаўшы медыцынскую адукацыю і вярнуўшыся на радзіму, Уладзіслаў займаўся вырошчваннем лекавых раслін, для чаго перасяліўся з Крычава ў маёнтак Задабрасць. Усё астатняе яго цікавіла значна менш, і таму адміністраваннем палаца і маёнткаў займаліся сваякі з боку жонкі. Рабілі яны гэта несумленна, што прывяло да занядбання радавога гнязда Галынскіх і значнага памяншэння іх землеўладанняў. Напрыканцы XIX стагоддзя крычаўскія маёнткі ахаплівалі толькі 1 588 дзесяцін земляў і лясоў. Браты Ажэльскія распрадавалі не толькі лес і зямлю, але і бясцэнныя скарбы, што захоўваліся ў палацы.

У выніку сын Уладзіслава і апошні ўладар Крычава Юзаф (1887–1973) перад пачаткам Першай сусветнай вайны атрымаў у спадчыну толькі пашкоджаны пажарам палац і моцна ўрэзаны кавалак зямлі. Пасля рэвалюцыі 1917 года Юзаф разам з маладой жонкай Ірэнай Лісоўскай з'ехаў у Польшчу. Як аказалася, назаўсёды. Так была пастаўлена кропка ў шматгадовым суіснаванні гордага Крычава і шляхецкага роду Галынскіх. ◆





**Малюнкі, якія разам з дзелавымі лістамі і каштоўнымі паперамі былі выпадкова знойдзеныя за ашалёўкай палаца ў 1970-я гады.** Хутчэй за ўсё, зробленыя на пачатку XX стагоддзя Юзафам Галынскім.


























## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.